



# ДЗІЦЯЧАЯ ЗДРАЎНІЦА

У маляўнічай мясцовасці, дзе Нёман перасякае граніцу двух братніх рэспублік — Беларусі і Літвы, — размешчаны дзіцячы санаторый «Беларусь». На плошчы амаль пяці гектараў раскінуліся яго прасторныя і светлыя карпусы, кветнікі, зялёныя насаджэнні. Тут можа адначасова адпачываць да трохсот дзяцей. На першым здымку вы бачыце агульны выгляд санаторыя.

Добра ў сасновым бары ў ранішні час! Сюды на зарадку збіраюцца ўсе жыхары дзіцячага гарадка. (Здымак 2.)

У бібліятэцы санаторыя — многа цікавых кніг. Рабяты любяць іх чытаць калектыўна. На здымку 3 — выхавальніца Тацяна Сяргееўна Левіна чытае кнігу Мядзведзева «Моцныя духам».

У санаторыі дзеці не толькі адпачываюць, але і лечацца. На здымку злева ўнізе — Адам Міхневіч — вучань 5-га класа Будзілаўскай сярэдняй школы Маладзечанскай вобласці і Нікалай Пасадскі — вучань 7-га класа 5-й школы г. Барысава — прымаюць электралячэнне пад наглядам медсястры Е. Івановай.

Смачны абед прыгатавалі рабятам санаторскія кухары! (Здымак 5.)

Пасля абеду і мёртвага часу кожны знаходзіць сабе занятак па душы. Генадзі Вержэсінскі — вучань 10-га класа Баранавіцкай школы № 9 і сямікласнік Аляксандр Шатэрнік з 37-й школы г. Мінска — любяць пасядзець над шахматнаю дошкай. Уважліва сочаць за кожным ходам юныя балельшчыкі. (Здымак унізе справа).

Фото П. Наватарава.
(Фотахроніка БЕЛТА.)









На першай старонцы вокладкі: Выпускнік Смалявіцкага вучылішча механізацыі комсамолец Уладзімір Маркевіч. У мінулым годзе ён закончыў дзесяцігодку ў пасёлку Жодзіна і зараз, атрымаўшы кваліфікацыю камбайнера, гатовы прыняць удзел ва ўборцы ўраджаю.

Фото А. Дзітлава.

На апошняй старонцы вокладкі: На рацэ.

Фотаэцюд А. Дзітлава.






У строй дзеючых чыгунак Савецкага Саюза ўступіла Малая Беларуская чыгунка. Гэты цудоўны падарунак нашым дзецям адразу-ж заваяваў вялікую любоў як рабят, так і дарослых.

Кожны дзень па Малой Беларускай праходзяць дзесяць пар паяздоў. Яны правозяць пасажыраў міма парка імя Чэлюскінцаў, міма фруктовых садоў і пашняў, праходзяць глыбокай выемкай і па высокаму насыпу і даставляюць іх у сасновы гай.

На адной з станцый узводзяцца рамонтныя майстэрні і іншыя службы, у якіх будуць арганізаваны заняткі гурткоў юных чыгуначнікаў.

На здымку: уверсе — першыя пасажыры; злева — машыніст паравоза інжынер-лейтэнант Міхаіл Андрэевіч Крайко і яго памочнік Юрый Пражко гутараць з юнымі пасажырамі.

Фото А. Дзітлава.

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання III.

№ 8 (29).

Жнівень.

1955.

# ВАРШАВА, ЖНІВЕНЬ, 1955

У розных частках свету сталіцу Польшчы— Варшаву ведаюць, як горад міру. Гэтае пачэснае імя прысвоілі ёй за гераізм варшавян у барацьбе супраць фашысцкіх акупантаў, за доблесць пры аднаўленні і рэканструкцыі. І сапраўды, тут усё жыве імкненнем да міру, дружбы, супрацоўніцтва: і гэтыя прадпрыемствы, якія выраслі на пустырах, каб выпускаць мірную прадукцыю, і гэтыя кварталы, якія раскінуліся па ўсяму гораду, і навуковыя ўстановы, інстытуты, школы — усё, што ёсць сёння ў адроджанай сталіцы.

У горадзе міру ўжо не раз збіраліся людзі з розных краін, якія адстойваюць свяшчэнную справу міру. Тут працаваў другі Сусветны кангрэс прыхільнікаў міру. Тут праходзіў Трэці Сусветны кангрэс студэнтаў. Сюды не раз з'язджаліся для абмеркавання важных праблем дзеячы прафсаюзаў і маладзёжныя актывісты. У маі гэтага года Варшава цёпла і сардэчна вітала ўрадавыя дэлегацыі васьмі еўрапейскіх краін, якія заключылі паміж сабой Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе.

Але ніколі яшчэ польская сталіца не чакала і не прымала такой вялікай колькасці гасцей, як цяпер. І гэта зусім натуральна: тут будзе праходзіць Пяты Сусветны фестываль моладзі за мір і дружбу. У якасці гасцей сюды прыязджае моладзь з усіх канцоў зямнога шара.

Варшава ў гэтыя дні прыкавала да сябе ўвагу юнакоў і дзяўчат усяго свету.

Варта праехаць зараз па прыгожых варшаўскіх вуліцах, каб пераканацца, што падрыхтоўкай да фестывалю жыве ўвесь горад. Няма, бадай, у ім такога чалавека, які-б не ганарыўся вялікім давер'ем і не рыхтаваўся актыўна да падзеі сусветнай важнасці. Падрыхтоўка ідзе ўсюды. З самай раніцы пачынаецца жыццё ў будынку Арганізацыйнага камітэта. Спраў тут нямала, і да адкрыцця фестывалю павінна быць усё прадумана і прадугледжана. На варшаўскіх вуліцах усё часцей можна сустрэць легкавыя машыны і грузавікі з эмблемай фестывалю. Яны развозяць інфармацыйныя бюлетэні, распаўсюджваюць спецыяльную газету, праграмы, запрашэнні і г. д. Усё больш ажыўлена становіцца ў Доме Прэсы на маляўнічай вуліцы Фоксаль. Тут штодзённа праводзяцца многалюдныя прэс-канферэнцыі.

У гэтыя дні старажытная Варшава як-бы змяняе свой воблік, прыхарошваецца. На галоўнай магістралі горада — вуліцы Маршалкоўскай — упарадкоўваюцца маставыя, атынкоўваюцца фасады дамоў, здымаюцца рыштаванні з толькі што пабудаваных жылых і адміністратыўных будынкаў. Той-жа малюнак можна наглядаць ва ўсіх 22 раёнах польскай сталіцы.

Напярэдадні фестывалю ўвага ўсіх варшавян прыкавана да аднаго з правабярэжных раёнаў горада — Прагі. Тут уздоўж Віслы раскінулася велізарная будоўля. Гэта будуецца стадыён. Ён яшчэ не мае назвы, але ўсе ведаюць, што ён будуецца да Пятага фестывалю, і гаражане называюць яго проста: фестывалевы. Гэта будзе буйнейшы ў краіне, выдатна абсталяваны стадыён з усімі спартыўнымі збудаваннямі. Але аднаго стадыёна недастаткова: у час фестывалю моладзь будзе спаборнічаць па 23 відах спорту. Таму прыводзяцца ў парадак, расшыраюцца і папаўняюцца новым абсталяваннем усе спартыўныя збудаванні горада. Ініцыятарамі гэтай справы з'яўляецца варшаўская моладзь.

Варшава — горад амаль з мільённым насельніцтвам. У ёй ёсць вялікія гасцініцы, дзесяткі рабочых і студэнцкіх інтэрнатаў, але калі гутарка ідзе аб прыёме адначасова 30 тысяч замежных гасцей, узнікаюць цяжкасці. Які-ж знайсці выхад?

Прыстасавалі пад інтэрнаты для ўдзельнікаў фестывалю ўсё, што падыходзіла для гэтай мэты. Але і гэтага мала. Тады рашылі пабудаваць спецыяльныя, «фестывалевыя», як іх называюць варшавяне, спартыўныя гарадкі. Для пабудовы такіх гарадкоў адведзены тры найбольш маляўнічых раёны: Ракавец, Грахув і Беляны. Удзельнікам фестывалю тут будзе зручна ва ўсіх адносінах: горад — побач, стадыёны і спартыўныя пляцоўкі — таксама, і вакол многа зелені. Побач з гарадкамі пабудаваны кухні і сталовыя, клубы і душавыя ўстаноўкі, кіёскі для газет.

Але і гэтым не вычэрпваецца пералік падрыхтоўчых мерапрыемстваў, якімі жыве Варшава. У час фестывалю будзе арганізавана трыццаць конкурсаў — музычных, харавых, танцавальных, літаратурных і г. д. Для гэтай мэты пабудаваны дадатковыя канцэртныя пляцоўкі, адкрытыя эстрады, летнія клубы.

У падрыхтоўку да фестывалю ўключыліся тысячы людзей — праектыроўшчыкаў і архітэктараў, мастакоў і графікаў, будаўнікоў і майстроў афармлення. Складзены дакладныя планы і графікі, улічана кожная хвіліна. Ні ў чым не памыліліся праектыроўшчыкі, акрамя аднаго. Яны не маглі ўлічыць у поўнай меры ўсю энергію людзей, пастаўленых на ажыццяўленне ганаровага задання. Выканаўцы паламалі ўсе графікі. Калі разгорталася падрыхтоўка, яны ўзялі на сябе соцыялістычныя абавязацельствы: апярэдзіць час, здаць аб'екты датэрмінова. Энтузіястамі спаборніцтва выступіла варшаўская моладзь, рабочыя, будаўнікі, студэнты. Іх парыў накіроўвалі мясцовыя арганізацыі Саюза польскай моладзі. Члены гэтага саюза, следуючы прыкладу комсамольцаў, шлі ў першых радах спаборнічаючых.

Але варшаўская моладзь не толькі рыхтуе цёплую сустрэчу гасцям. Варшаўскія юнакі і дзяўчаты самі рыхтуюцца прыняць актыўны ўдзел у Пятым фестывалі. На стадыёнах і спартыўных пляцоўках трэніруюцца польскія спартсмены. У рабочых клубах і сельскіх святліцах развучваюцца новыя песні і танцы. Праграма фестывалю будзе самая рознастайная, і польская моладзь хоча прыняць удзел ва ўсіх мерапрыемствах. А тым часам на прадпрыемствах, новабудоўлях, у вёсках юнакі і дзяўчаты спаборнічаюць за права паехаць у Варшаву на фестываль.

Варшава прыгожая ў любую пару года, але асабліва прыгажосцю яна вылучаецца ў летнія месяцы, калі горад тоне ў густой зеляніне сквераў і бульвараў, калі ў старадаўнім каралеўскім парку Лазенкі плаваюць лебедзі, а дзеці кідаюць ім у ваду крошкі хлеба, калі праменяць у паветры тонкімі струменямі магутныя фантаны. І калі ў летнія дні едзеш па варшаўскіх вуліцах, адчуваецца, што гэты старадаўні горад, рыхтуючыся да сустрэчы з моладдзю, сам памаладзеў. Юнакі і дзяўчаты розных кантынентаў, якія гавораць на розных мовах, знойдуць тут адно агульнае: дружбу, цеплыню і сардэчнасць варшаўскіх жыхароў.

**А. СІБІРАК.**



Маладыя палякі — удзельнікі фестывалю.

Яўген ВАСІЛЁНАК

Нарыс

# Пільнае вока

Станцыя Маладзечна. Адсюль у чатырох напрамках разыходзяцца бліскучыя стужкі чыгуначных шляхоў, па якіх бясконца бягуць паязды. Ні днём, ні ноччу не спыняецца іх імклівы рух. Чаго толькі няма ў вагонах, на платформах, у цыстэрнах! Усё больш і больш ідзе праз станцыю грузаў прамысловасці. З кожным днём павялічваецца паток грузаў сельскай гаспадаркі. У эшалонах — станкі і драўніна, трактары і дзіцячыя лялькі, гаручае і тканіна, цэгла і абутак, радыёпрыёмнікі і цвікі... Ідуць і ідуць паязды з пасажырамі — дальнія, мясцовыя, прыгарадныя...

Седзячы ва ўтульным купэ вагона, пасажыр не задумваецца над тым, што знаходзіцца ўнізе, пад падлогай. У лепшым выпадку ён успомніць, што там ёсць колы, ды яшчэ, здаецца, рысоры... І няўцям бывае пасажыру, што, на самай справе, у яго пад нагамі — складанейшая сістэма прылад, рычагоў, падвескаў, цягаў, умацаванняў і мноства іншых рэчаў. На кожную з гэтых прылад і дэталяў у часе руху поезда кладзецца значная дынамічная нагрузка, якая вымяраецца сотнямі кілаграмаў і нават тонамі, і таму кожная з іх патрабуе пастаяннай увагі да сябе, пастаяннага догляду.

Хто-ж ажыццяўляе на чыгунцы догляд за гэтай складанай паязной гаспадаркай?

... На станцыю прыбыў чарговы эшалон. Машыніст апусціў руку з рэверса, высунуўся з акна і кінуў позірк уздоўж саставу. А каля вагонаў чуўся ўжо вясёлы перастук. Людзі ў рабочым адзенні, з даўгімі малаткамі ў руках, хадзілі ад адной часткі вагона да другой і старанна абстуквалі кожную з іх, уважліва прыслухоўваючыся да гукаў.



**Аглядчык вагонаў станцыі Маладзечна Міхась Тамашэўскі.**

— Аглядчыкі прыступілі да сваёй справы,— прамовіў машыніст, звяртаючыся да памочніка. — Цікава, што там здарылася ў шостым вагоне? Чаму пасля Залесся з буксы пачалі вылятаць іскры?

Так калектыў пункта тэхнічнага агляду, або скарочана ПТА, неадкладна пасля прыбыцця поезда на станцыю прыступіў да сваёй справы. Аглядчыкі вагонаў, аўтаматчыкі, не прамінаючы ніводнай дэталі, ніводнай самай дробнай гайкі, аглядалі, абстуквалі, абмацвалі ўсё, што ў час руху поезда так ці інакш «працуе». Аглядаць буксы шостага вагона выпала Івану Сіманчуку. Спрактыкаванае вока вагонніка адразу прыкмеціла няспраўнасць. Адна з букс была гарачая, адтуль ішоў лёгкі дымок.

— Падшыпнік выплавіўся, — зазначыў Сіманчук. Зрабіўшы крэйдай адпаведную адзнаку на кузаве вагона, ён рушыў далей. Час стаянкі поезда абмежаваны, а аглядаць трэба яшчэ багата вагонаў.

Следам за аглядчыкам ішлі слесары. Іх увагу адразу прыцягнуў надпіс, зроблены Сіманчуком. Неўзабаве яны прынеслі дамкрат і пачалі паднімаць вагон.

— Эге, — угледзеўшы дамкрат, нездаволена сказаў машыніст, — відаць, затрымаюць нас вагоннікі. Часу да адпраўлення засталося мала.

Але хваляванне машыніста было дарэмнае. Вагоннікі ўсё рабілі настолькі спрытна, кожны іх рух быў настолькі разлічаны і дакладны, што не прайшло і дзесяці мінут, як няспраўны падшыпнік быў заменены новым. Зрабіўшы падбіўку і заліўшы буксу як след змазкай, слесары зноў апусцілі вагон і знялі засцерагальныя сігналы: поезд мог адпраўляцца.

— Малайцы! — зірнуўшы на гадзіннік, весела выгукнуў машыніст і тарганўў ручку гудка. — Адпраўляемся дакладна па раскладу.

Поезд пайшоў, а аглядчыкі вагонаў сабраліся, каб падвесці вынікі сваёй працы і падрыхтавацца да сустрэчы наступнага эшалона.

— На гэты раз выявіць няспраўнасць было лёгка, яна сама кідалася ў вочы, — гаворыць адзін з аглядчыкаў ПТА. — А бываюць выпадкі і складанейшыя.

Сапраўды, бываюць выпадкі і больш складаныя. Напрыклад, калі прыходзіцца дзейнічаць аглядчыку-пралазчыку Міхасю Тамашэўскаму...

Мінуўшы закругленне, поезд выйшаў на роўную мясціну і пачаў набіраць хуткасць. Абапал чыгуначнага палатна цягнуўся рэдкі нізкі хмызняк. Было бязветрана, і ўсё вакол здавалася нерухомым, застылым.

Агніста-чырвонае сонца хутка сплывала за небасхіл, а на поўначы гэтак-жа хутка расла вялізная бура-шэрая хмара. Яна ўзнімалася ўсё вышэй і вышэй, пашыралася і неўзабаве заняла сабою амаль палову неба. І калі схавалася сонца, адразу пачаў гусцець прыцемак, ён рабіўся нібыта важкім і нейкім дрыготкім.

Машыніст уключыў электрычнасць, і паравозную будку заліло яркае святло. Ад паравоза кінуўся ўперад моцны прамень пражэктара, асвятляючы шлях поезду.

Машыніст даволі-такі стаміўся, змарыліся памочнік і качагар. Але ехаць ім засталося ўжо нядоўга, бо наперадзе — Маладзечна, пункт абароту лакаматываў. Там ім будзе дадзены адпачынак.

Усё ідзе добра. Машына працуе як мае быць, вугалю на тэндары дастаткова, вады— таксама.

— Парадачак! — павярнуўшыся на момант да памочніка, гаворыць машыніст. — Хутка павінен быць відзён уваходны семафор Маладзечна.

— Але. Ідзем па графіку, хвіліна ў хвіліну,— адгукаецца памочнік. — Цаліннікі не будуць крыўдаваць на нас.

— А многа іх едзе?

— Тры вагоны цалкам заняты імі. У Кустанайскую вобласць едуць. Хлопцы як на падбор, адзін да аднаго. Дзяўчаты таксама прыкметныя, нічога не скажаш.

— А ты ўжо ўсё разгледзеў? Спрытны!

— Нават зайздрасць бярэ, гледзячы на іх. Каб не быў паравознікам, дык, здаецца, і сам махнуў-бы з імі!..

Поезд прагрукаў коламі па мосце цераз невялічкую рэчку і паляцеў далей, насустрач агням горада. Спакойна і ўпэўнена вёў яго машыніст. Дакладна рабілі сваю справу памочнік і качагар. Стаялі на сваіх пастах праваднікі ў вагонах. Займаліся кожны сваёй справай пасажыры.

— Усё ў парадку! — яшчэ раз сказаў машыніст і пачаў зніжаць хуткасць поезда.

Так, усім здавалася, што ўсё ў парадку. І ніхто не ведаў пра тое, што павінна было здарыцца...

Трэцім ад хваста саставу быў такі-ж, як і ўсе астатнія, вагон. Знешне ён нічым не адрозніваўся ад іншых. Але нейкі час таму назад на адной з яго восяў каля самай калодкі з'явілася невялічкая трэшчына. Пакрытая слоем фарбы, ды яшчэ пылам зверху, трэшчына была зусім непрыкметная. Паступова яна рабілася ўсё больш глыбокай. Нарэшце, павінен быў наступіць момант, калі вось, не вытрымаўшы дынамічнай нагрузкі, на поўным ходу поезда мусіла пераламацца. Па ўсіх прыкметах гэта павінна было здарыцца не сёння-заўтра...

Ды толькі аб прыкметах тых не ведаў ніводзін чалавек.

... Машыніст узяўся рукою за сігнал. Над наваколлем залунаў магутны паравозны гудок. Поезд набліжаўся да станцыі.

— Калінінградскі прыбывае, — сказаў старшы аглядчык вагонаў і звярнуўся да невысокага каржакаватага маладога чалавека ў сіняй зашмальцаванай спяцоўцы. — Які настрой сёння, таварыш Тамашэўскі?

— У яго настрой заўсёды адзін: ваяўнічы!— замест Тамашэўскага адказаў нехта з аглядчыкаў. — Любіць чалавек ваяваць з металам.

— Я не ваюю, а вывучаю яго, — азваўся нарэшце пралазчык Міхась Тамашэўскі. — Бо ў метале яшчэ многа таямніц, вельмі многа. Асабліва для няўзброенага вока.

— Ну, тваё вока не такое ўжо і няўзброенае, — заўважыў ранейшы голас. Скасавурыўшыся на брызентавы футарал, які трымаў у руках Тамашэўскі, аглядчык жартаўліва дадаў: — Вунь колькі струманту, нібы ў таго доктара.

У футарале былі сапраўды не зусім звычайныя рэчы. Тут у строгім парадку ляжалі электрычны ліхтарык, лупа, лязо ад бяспечнай брытвы, шабер, невялічкае люстэрка і такая-ж невялічкая шчотка накшталт той, якою чысцяць зубы.

— Падрыхтаваліся? — спытаў старшы аглядчык і тонам загаду дадаў: — Пайшлі!

Аглядчыкі накіраваліся да перона, куды падыходзіў ужо эшалон. Пабліскваючы агнямі і пыхкаючы парай, прасунуўся па рэйках паравоз, за ім павольна, усё больш і больш запавольваючы ход, рухаліся вагоны. Завішчэлі тармазы, вагоны здрыгануліся — усё сцішылася: поезд замёр на месцы.

Міхась Тамашэўскі знаходзіўся каля апошняга вагона. Ён добра разлічыў, дзе той павінен быў прыпыніцца. Можна было адразу прыступіць да агляду.

Пралазчык нырнуў пад вагон. Іншыя аглядчыкі пойдуць уздоўж саставу, яны будуць аглядаць знадворныя часткі, а справа Міхася — зазірнуць туды, дзе ўсё схавана ад звычайнага вока. Ён запаліў электрычны ліхтарык і, спрытна перасоўваючыся пад вагонам, кідаў позірк то на адну дэталь, то на другую.

Нішто пакуль не затрымлівала яго ўвагу.

Так ён агледзеў першы вагон, потым другі, і перабраўся пад трэці. Позірк яго слізгануў па галоўцы аўтасчэпкі, па буферным брусе і спыніўся на першай восі. Не, і тут Міхась не заўважыў нічога падазронага. Падлезшы пад цялежкай, ён гэтак-жа хутка агледзеў тармазныя цягі, падвескі і апынуўся каля другой восі...

Што гэта?.. Чаму ўсюды пыл, як пыл — роўны, аднастайны, а вось у гэтым месцы ўтварыўся нібы валік?.. Тамашэўскі паспешліва выняў з футарала шчотку, счысціў ёю пыл з металу. Фарба ў гэтым месцы на восі чамусьці ўздулася, утварыўшы прадаўгаваты пагорачак. Счысціць фарбу шаберам было справай адной секунды. І калі потым Тамашэўскі паглядзеў на гэтае месца праз лупу, ён убачыў на восі ледзь прыкметную танюсенькую рысачку. Сумненняў больш не было: гэта — трэшчына.

Прыкметы небяспекі, аб якіх не ведаў дагэтуль ніводзін чалавек, сталі зусім відавочныя. Пільнае вока пралазчыка — чалавека тонкай прафесіі і багатага вопыту — не магло не заўважыць іх.

Вылезшы з-пад вагона, Тамашэўскі напісаў на кузаве: «Замяніць калёсную пару». Потым ён моцна ўдарыў малатком па буфернай талерцы, прыцягваючы, відаць, чыюсьці ўвагу да вагона, а сам пайшоў далей: трэба было працягваць агляд саставу.

Звон пачулі пасажыры, і многія з іх насцярожыліся. Потым нехта ўгледзеў надпіс на кузаве і сумна сказаў:

— Ну, вось і прыехалі... Цяперака будзем загараць у Маладзечна.



**Сакратар вузлавога камітэта камсамола ст. Маладзечна Сцяпан Ляпёшка гутарыць з брыгадай маладых аглядчыкаў.**

Фото Л. Троіцкага.

Сапраўды, на чыгуначным транспарце здаўна так вялося: няспраўны вагон адчаплялі ад поезда і накіроўвалі на рамонт у дэпо. Пакуль яго там адрамантуюць — праходзіла нямала часу. Пасажыры вымушаны былі чакаць наступнага поезда. Але цяпер існуе новы метад рамонту вагонаў без адчэпкі іх ад саставу. Якая-б не выявілася няспраўнасць у вагоне, яго адрамантуюць тут-жа, непасрэдна на станцыйных пуцях, за той час, які адведзены графікам для стаянкі поезда на станцыі.

Так было зроблена і на гэты раз. Пачуўшы звон, да вагона адразу-ж накіравалася група чыгуначнікаў. Аўтаматчыкі выключылі паязную магістраль, раз'ядналі тармазныя цягі. Слесары прывезлі на спецыяльнай цялежцы дамкраты. Тым часам па суседняму пуці падкацілі да вагона новую калёсную пару. Хутка вагон быў падняты, з-пад яго выкацілі дэфектную пару і паставілі на яе месца спраўную.

Да Тамашэўскага падыйшоў машыніст і працягнуў яму сваю руку:

— Дзякую, браток! Калі-б не ты, не пазбегнуць-бы поезду аварыі.

— Няма за што дзякаваць, — сціпла адказаў Міхась. — Не я, дык другі пралазчык, а трэшчыну абавязкова выявілі-б. Гэтага патрабуе ад нас наша прафесія.

На перон выйшаў дзяжурны па станцыі. Ён падняў угору жоўты сцяжок, галоўны кандуктар даў сігнал адпраўлення, пачуўся прарэзлівы паравозны гудок, і поезд рушыў з месца,

Пасажыры доўга махалі рукамі людзям у зашмальцаваных спяцоўках, якія заставаліся на станцыі, каб гэтак-жа дбайна сустрэць і агледзець наступны поезд.

Міхась Тамашэўскі паглядзеў на неба і весела прамовіў:

— А хмара пайшла стараною. Дажджу не будзе...

Вось ужо некалькі год працуе Міхась Тамашэўскі на Маладзечанскім пункце тэхнічнага агляду вагонаў. Спачатку быў простым слесарам, потым набыў прафесію аглядчыка. Веды і вопыт, накопленыя ўпартай вучобай і стараннай практыкай, дазволілі яму стаць сапраўдным майстрам сваёй справы, і ён быў прызначаны аглядчыкам-пралазчыкам. Цяпер любая, самая нязначная няспраўнасць, ці нават толькі намёк на яе, не застаецца па-за ўвагай Тамашэўскага. Усе таямніцы металу раскрыліся перад ім, нішто цяпер не можа збіць яго з тропу. Ён ведае: калі на коле або на раме ўбачыш уздутую фарбу — нізавошта не пакідай гэтае месца без увагі; прыкмеціш у зімовы час на скаце тонкі валасок інею — не сумнявайся, што пад інеем трэшчына; заўважыш на восі іржавыя падцёкі — зноў-жа не праходзь міма, бо тут таксама штосьці нядобрае.

І таму, калі на дзяжурстве знаходзіцца Міхась Тамашэўскі, чыгуначнікі лініі ведаюць: рухомы састаў будзе агледжан як мае быць, ніводзін дэфект не застанецца не выяўленым. Пасля таго, як пад вагонамі пройдзе гэты сціплы малады чалавек з пільнымі вачыма і ўмелымі рукамі, вагоны можна смела адпраўляць у самую далёкую дарогу.

Яны бесперашкодна дойдуць да месца прызначэння!

Сцяпан ГАЎРУСЕЎ

## Маленства

Помню: ледзь канчаліся марозы,
З выраю вярталіся шпакі,
Мы гурбою беглі да бярозы
Ставіць пад бярозавік латкі.

Ды даўно зрабіўся сном далёкім
Незваротнага маленства час.
А бярозавым халодным сокам
Асвяжыцца марыў я не раз.

І цяпер, бы праз туман бялёсы,
Ідучы ў бацькоўскі край здалёк,
Як убачу белыя бярозы
І пачую, як струменіць сок, —

Мне здаецца, ў тыя дні вярнуцца
Можна — пажадай таго душа —
Толькі трэба к латаку нагнуцца,
Ды напіцца соку з гладыша.

# ДВА КАМБАЙНЕРЫ

Аляксей КАЎКО

Падкінуўшы каню бярэмя духмянай канюшыны, Генка прылёг на свежую салому, што ляжала паблізу ад камбайна. Дзень канчаўся. Генкавы таварышы, з якімі ён вазіў збожжа, паехалі дадому, а ён застаўся начаваць у полі.

Сонца ўжо скацілася за лес. З-за кустоў арэшніку на ўскрайку поля выпаўзлі вячэрнія змрокі. У небе затрапяталі зоркі.

Генка ляжыць на саломе і глядзіць угару. Хораша ляжаць вось так і паглядаць у зорную вышыню! Іван Іванавіч, географ, гаварыў, што ў гэты час паяўляецца на поўдні планета Марс. Генка пільна ўглядаецца, хоча знайсці гэты самы Марс. Пэўна, вунь тая яркая зорка. Кажуць, на Марсе людзі ёсць. Эх, прыдумаць-бы такі самалёт і паляцець на Марс!

— Генка, ідзі вячэраць! — басісты, крыху сіпаваты голас абрывае хлопчыкавы мары. Гэта камбайнер, дзядзька Андрэй. Ён сядзіць каля вогнішча. У агні весела патрэсквае сухі арэшнік. Генка абтрасае салому і ідзе да агню.

Дзядзька Андрэй сядзіць на тоўстым пачарнелым пні і смажыць сала, уздзеўшы яго на завостраны дубец. Ярка, амаль без дыму, гарыць сухі арэшнік.

Сала сквірчыць, падае кроплямі на гарачае вуголле.

— Ну-ну, не ўцякай, — гаворыць дзядзька на сала, нібыта яно жывое, і абцірае скварку аб шырокую лусту хлеба, якую трымае напагатове ў левай руцэ. У падвешаным на таганцы казанчыку булькае чай са свежымі малінамі.

— Зараз, брат, бяседу наладзім, — хваліцца дзядзька. — Што там твой рэстаран!

І хоць Генка ніколі не быў у рэстаране, але ў думках ён згаджаецца з дзядзькам Андрэем, бо вельмі-ж ужо прыемна казыча ў носе гэты пах, які ідзе ад смажанага сала, ад свежых малін. А дзядзька тым часам падымаецца, рассцілае на пні старую газету, нарэзвае тонкімі скрылёчкамі сала, хлеб, дастае з торбачкі некалькі ружовых сакавітых памідораў.

Вячэраюць павольна, не спяшаючыся. Чай п'юць па чарзе з алюмініевага кубка. Ён доўга не астывае, і Генка патрошку сёрбае, часта пакусваючы цукар.

— Ну, як, Чкалаў? — пытае дзядзька ў Генкі.

— Смачна, — адказвае Генка, хоць і не зусім разумее, чаму дзядзька называе яго Чкалавым.

— Смачна, бо ў полі ясі, — смяецца дзядзька. — Вось пойдзеш у камбайнеры, тады ўсё лета на свежым паветры сілкавацца будзеш. Толькі-ж ты, здаецца, на лётчыка наважыў вучыцца... Праўда?

— І на лётчыка, і на камбайнера, — адказвае Генка. — Машыны люблю...

— Глядзі, які спрытны. У дзве змены, значыць, працаваць думаеш? Палятаў у небе, злез на зямлю — пакатаўся на камбайне...

На момант дзядзька заціхае, над нечым задумваецца. З яго твару знікае ўсмешка. Хвілін колькі дзядзька ўглядаецца ў дагараючыя галавешкі, нібы бачыць там штосьці незвычайнае, потым зноў паварочваецца да Генкі.

— Дык колькі-ж табе гадоў?

— Хутка трынаццаць...

— Вось і яму было трынаццаць...

— Каму гэта? — не разумее Генка.

— Хлопчыку аднаму. Андрэйкам звалі. Ён таксама вельмі хацеў на машыну сесці.

Камбайнер дастае папяросу, прыкурвае ад галавешкі і, зрабіўшы некалькі глыбокіх зацяжак, ціха расказвае:

— Было гэта яшчэ тады, калі на нашай зямлі паны гаспадарылі. Там, дзе цяпер клуб калгасны стаіць, быў маёнтак пана Збіжыцкага. На гэтага пана ўсе нашы бабраўчане рабілі. А Андрэйка цялят панскіх пасвіў. Прыгоніць цялят на поплаў, дастане з торбы загорнуты ў анучку самаробны ножык і майструе з галінак ветрачкі розныя — усё хацеў машыну зрабіць. Іншы раз так задумаецца аб машыне, што і на цялят забудзецца. Не раз яму за гэта пападала. Аднойчы ў маёнтак да пана жнsocкий... жняярку прывезлі, з-за граніцы. А бабраўчане нашы ніколі ў жыцці яшчэ жняяркі не бачылі. Цікава было, як гэта яна без сярпа жаць будзе.

Дачуўшыся пра такую навіну, Андрэйка знарок пагнаў цялят пасвіць бліжэй да жытнёвага поля, дзе павінны былі пускаць жняярку. Пусціў цялят, а сам з-за кустоў паглядае. Рабочыя запрэглі коней і — во дзіва! — машына застракатала, урэзалася зубамі ў жыта, валячы яго на драўляны стол. «Паглядзець-бы зблізку!» — падумаў Андрэйка. І хоць нельга было адысціся ад цялят, а ўсё-ж наважыў. Як толькі рабочыя выпраглі коней на абед, Андрэйка з усіх ног кінуўся да жняяркі. Агледзеў усё, рукамі памацаў, а потым яшчэ вырашыў на сядзенне ўзлезці. А як узлез, дык на ўсё і забыўся. Глядзіць уперад і здаецца яму, што ён плыве кудысьці далёка-далёка... А тут, брат, якраз і няшчасце здарылася. «А што-ж гэта ты, пся крэў, робіш? — загрымеў ззаду панскі аканом і бізуном Андрэйку, бізуном. — І быдла ў шкоду пайшло, і ты машыну псуеш...»

Андрэйка ад болю аж паваліўся на іржышча. На кашулі ў яго з'явіліся шырокія чырвоныя пісягі ад бізуна. Дамоў Андрэйка сам ужо не мог дайсці. Прышла маці, заплакала і панесла яго.

— Вось, брат, дорага каштаваў некалі інтарэс да машыны, — закончыў дзядзька сваё апавяданне і падкінуў у агонь тонкіх сухіх галінак.

— А дзе-ж цяпер Андрэйка? — перапытаў Генка і твар яго спахмурнеў.

— Зараз ён ужо не Андрэйка, а Андрэй Іванавіч. І працуе ён камбайнерам. Ведаеш такога?

— Дык гэта вы! — радасна ўсклікнуў Генка.

Дзядзька маўчыць. А Генку хочацца сказаць яму нешта вельмі добрае і ласкавае, але-ж не знаходзіць слоў. І таму гаворыць, здаецца, зусім не дарэчы.

— А я, дзядзька, як навучуся камбайн вадзіць, пайду да вас памочнікам.

— Памочнікам гэта добра, — смяецца дзядзька. — Толькі, мусіць, наадварот яно будзе. Стары я стану і да цябе ў памочнікі прыду.

Хвілін некалькі яны абодва маўчаць, кожны думаючы сваё.

— На сёння хопіць, брат камбайнер, — першым схамянуўся дзядзька. — Пара, як той казаў, на бакавую. Заўтра трэба раней уставаць. Надвор'е ў нас не пытае, добрым быць ці не.

— Будзе добрае, — упэўнена зазначае Генка.

— Толькі-б твае гэтыя жэўжыкі прыехалі, а то будзеш стаяць з поўным бункерам...

— Прыедуць. Мы-ж добраахвотна на поле папрасіліся. Старшыня каласы збіраць нас пасылаў. Але нам сорамна гэтую дзіцячую работу рабіць. Ёсць трэці клас, чацвёрты...

Дзядзька ідзе да камбайна і рассцілае брызент на кучу саломы і, скінуўшы свае вялікія чаравікі, лажыцца. Лажыцца і Генка. Дзядзька накрывае яго шырокім плашчом і хутка засынае. А Генку не спіцца. Ён яшчэ доўга слухае, як Гнеды хрумстае канюшыну, як крычыць у арэшніку нейкая неўгамонная птушка.

Мік. АРОЧКА

## *На канікулах*

Іду, як заварожаны,  
А спеў плыве з-за гаці:  
«Ці ўсе лугі пакошаны,  
Ці ўсе сенажаці?..»

Касьба за Шчараю пяе,  
Звініць над паплавамі.  
Лугі надрэчныя мае,  
Даўно я ў дружбе з вамі.

Тут мы падносілі касцам  
З крыніц ваду жывую,  
Давалі з берагу нырца  
З разбегу ў плынь рачную.

А ўвосень кошыкі плялі  
З ракіты на балотах,  
Або чмяліны мёд пілі  
Саломінкамі з сотаў.

Як свайго сябра тых гадоў,  
Мой луг мяне паклікаў.  
І я на ўсіх дзяліць гатоў  
Кароткі час канікул.

Здаровы, хлопцы, ды хутчэй  
Мяне ў свой гурт прымайце.  
Не ўсе пакошаны яшчэ  
Лугі і сенажаці!..

# НА ВАРЦЕ МІРНАГА НЕБА

**Н. ВІНАГОРАЎ**

Старшы сяржант Кузняцоў упершыню выстраіў гарматны разлік, які толькі што прыняў пад сваё камандаванне. Ён быў задаволены салдатамі: перад ім стаялі рослыя, стройныя юнакі — як на падбор. Праўда, не зусім зграбна выглядала на некаторых абмундзіраванне, але для першага разу гэта было не так ужо і страшна.

Камандзір пачаў знаёміцца са сваімі падначаленымі. Ён называў прозвішча салдата, той рабіў два крокі ўперад, паварочваўся тварам да строю і расказваў пра сябе. Аб жыццёвым шляху сваіх падначаленых сержант мог-бы даведацца па анкетах. Але ён знарок зрабіў такое апытанне: яму хацелася, каб кожны салдат добра ведаў свайго таварыша. Гэта неабходна для выхавання дружнага, згуртаванага калектыву, якім сержант наважыў зрабіць свой гарматны разлік.

Салдаты былі нешматслоўнымі. Ды, уласна кажучы, і гаварыць ім асабліва не было пра што: у многіх самастойны жыццёвы шлях толькі пачынаўся.

Вось перад сваімі таварышамі стаіць радавы Юрый Сердзічэнка. Гэта — крыху вышэй сярэдняга росту, стройны юнак. У яго правільныя рысы твару, востры, рэзка акрэслены падбародак і круглыя, відаць, вельмі пільныя вочы.

Салдат коратка расказвае пра сябе. Ён з Палтаўшчыны. Бацька быў артылерыстам і загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Адукацыя — сярэдняя тэхнічная.

«Добрым наводчыкам будзе», — думае, слухаючы Сердзічэнку, сержант.

Потым дакладвае радавы Андрэй Бязуглы.

— Комсамолец. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў на шахце памочнікам машыніста ўрубавай машыны.

Камандзір міжволі глянуў на яго рукі — дужыя, моцныя, з доўгімі чэпкімі пальцамі. І сам салдат — косы сажань у плячах, рослы, сур'ёзны. У камандзіра зноў мільгае думка:

«Лепшага зараджаючага наўрад ці знойдзеш».

Слухаючы сваіх падначаленых, старшы сержант Кузняцоў імкнуўся вызначыць іх характары, іх схільнасці, звычкі. Складаная гэта справа, але без гэтага нельга быць добрым камандзірам.

Аднак сержант бачыў не толькі розніцу ў характарах сваіх падначаленых, але і тое агульнае, што іх аб'ядноўвае. Усе яны — прадстаўнікі новага пакалення савецкіх людзей, выхаванага школай, комсамолам у краіне, дзе высакароднае імкненне сэрца і абавязак грамадзяніна — адно і тое-ж. Ужо зараз камандзір угадваў жаданне салдат як мага хутчэй авалодаць вайсковай справай, з гонарам выканаць свой абавязак перад Радзімай. І ён з радасцю падумаў: «Якіх цудоўных людзей пасылае краіна ў армію! Сёння-ж заяўлю камандзіру падраздзялення, што ў бліжэйшы час разлік будзе выдатным».

Думаючы так, сержант ужо ўявіў сабе, як будуць усе віншаваць яго разлік з поспехамі ў вучобе, думаў пра паездку на радзіму, якую абавязкова дазволіць камандзір ва ўзнагароду за поспехі.

Але жыццё і баявая вучоба ўнеслі свае папраўкі ў мары маладога камандзіра.

Старшы сержант Кузняцоў сядзеў у класе і перапісваў расклад на наступны тыдзень. Нельга сказаць, каб у яго быў добры настрой. Прайшло ўжо нямала часу, як пачаліся заняткі з маладымі салдатамі, а да поспехаў, аб якіх марыў сержант, было яшчэ далёка. Праўда, пэўны крок да авалодання зенітнай справай маладыя зенітчыкі ўжо зрабілі. Але як далёка яшчэ ім было да сапраўднага майстэрства!

У клас увайшоў радавы Бязуглы.

— Таварыш старшы сержант, дазвольце далажыць, — звярнуўся ён да Кузняцова, ледзь стрымліваючы гнеў.

— Дакладвайце.

— Як хочаце, але я больш не буду дапамагаць радавому Шчуру, — і Бязуглы рашучым жэстам правай рукі падмацаваў свае словы.

— Па-першае, калі дакладваюць камандзіру, стаяць па стойцы «смірна», а вы размахваеце рукамі. Па-другое, вы комсамолец, а абавязак комсамольца — не толькі добра вучыцца самому, але і дапамагаць таварышу. І патрэцяе, — далажыце яшчэ раз і па парадку, за што вы пакрыўдзіліся на радавога Шчура.

Некалькі супакоіўшыся, Бязуглы падрабязна далажыў камандзіру аб тым, што здарылася. А здарылася вось што.

Гадзіну таму назад, у час самастойнай падрыхтоўкі, да Андрэя Бязуглага падышоў Міхаіл Шчур.

— Андрэй, дапамажы, калі ласка, разабрацца ў супрацьадкатным прыстасаванні. Нешта я нічога не разумею, — звярнуўся Шчур да Бязуглага па-сяброўску на «ты», а не на «вы», як таго патрабуе статут. На гэтае парушэнне Андрэй не звярнуў ніякай увагі. Больш таго, ён быў рады, што да яго за дапамогай звярнуўся таварыш.

Андрэй Бязуглы ўжо добра разбіраўся ў артылерыйскай справе. Ён ахвотна і заўзята вывучаў матэрыяльную частку гарматы нават тады, калі салдатам адводзіўся час на асабістыя справы і адпачынак. Працавітасць і ўпартасць дапамаглі Бязугламу стаць адным з

Камандзір разліку старшы сержант В. Кузняцоў расказвае аб будове аптычнай трубы.



лепшых воінаў у разліку. А радавы Шчур прыкметна адставаў ад таварышаў, асабліва ў вывучэнні тэхнікі.

І вось Андрэй пачаў тлумачыць Шчуру будову супрацьвадкатнага прыстасавання. Адчувалася, што ён добра ведае тое, пра што расказвае. Але ў яго тлумачэнні не было паслядоўнасці, і Шчур не зусім добра разумеў яго. Хутка Бязуглы заўважыў, што Шчур слухае яго няўважліва. Тады ён, ужо зусім афіцыяльна, спытаў:

— Вам, таварыш Шчур, відаць, зусім нецікава маё тлумачэнне.

— Чаму-ж, я слухаю...

— Тады паўтарыце, на чым я спыніўся.

Шчур зморшчыў лоб і глядзеў некуды ўбок. Бязуглы задаў яму яшчэ адно пытанне, якое толькі што тлумачыў. Шчур маўчаў.

— Вось чаму вы адстаеце ў вучобе і цягнеце назад увесь разлік... Глядзіцё ў кнігу, а бачыце фігу...

Шчур быў самалюбівы, і словы Бязуглага моцна пакрыўдзілі яго.

— Таксама прафесар знайшоўся, — сказаў ён з пагардай і хутка выйшаў з класа.

Далажыўшы пра ўсё гэта сяржанту, Бязуглы сказаў:

— Калі чалавек не хоча вучыцца, дапамагаць яму — бескарысна.

Сяржант Кузняцоў не выказаў Бязугламу сваёй думкі наконт яго спрэчкі са Шчурам. Але гэта не азначае, што ён застаўся абыякавым да таго, што адбылося. Ні адзін добры бацька не захоча, каб у яго сям'і быў разлад і непарадак. А камандзір — гэта глава калектыву, якім яму даручана камандаваць. Ён не можа цярпець нядбайных адносін да салдацкай службы, не ўздзейнічаць на парушэнне дысцыпліны і парадку.

Але ўздзеянне гэтае можа быць розным. На гэты раз камандзір вырашыў звярнуцца да грамадскага ўздзеяння. Пасля заняткаў ён сабраў свой разлік у пакоі культурна-асветнай работы.

Выпадак усхваляваў усіх, і таму ўсе вельмі горача яго абмяркоўвалі.

— Абодва вінаваты. Не трэба было гарачыцца.

— Бязуглы праў. Шчур цягне ўвесь наш разлік назад.

— Праў-та праў, але навошта-ж грубіць таварышу...

І тут, як заўсёды ў складаных выпадках, слова папрасіў наводчык Сердзічэнка. Усе сціхлі. Юрыя Сердзічэнку салдаты любілі за розум, сардэчнасць і сур'ёзныя адносіны да справы.

— Я гляджу на гэты выпадак так, — пачаў ён. — Нельга, лянуючыся, вывучыць ваенную справу. А Шчур часам баіцца ператаміць думкай свой мозг. Артылерыйская справа патрабуе настойлівай штодзённай працы. Шчур над гэтым павінен сур'ёзна падумаць. Што-ж датычыцца спрэчкі нашых таварышаў, скажу так: будзе ў нас у разліку добрая салдацкая дружба — станем сапраўднымі зенітчыкамі. Не будзем сябраваць — не бачыць нам поспеху.

Калі ўсе выказаліся, камандзір коратка падвёў вынікі гутаркі.

— Пасля ўсяго сказанага вывад напрошваецца адзін: трэба сур'ёзней вывучаць вайсковую справу, павышаць дысцыпліну, мацаваць дружбу і сяброўства.

Дружба і вайсковае сяброўства былі галоўнай тэмай многіх гутарак, што наладжваліся для маладых воінаў. Агітатары часта звярталіся да прыкладаў з гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, да баявых спраў франтавікоў-зенітчыкаў. Гэта выхоўвала ў навічкоў пачуццё гонару сваёй прафесіяй. З ростам свядомасці воінаў умацоўвалася дружба, памнажаліся поспехі ў вучобе. На страявым аглядзе разлік старшага сяржанта Кузняцова атрымаў высокую ацэнку. Агульнай радасцю калектыву зенітчыкаў было тое, што радавы Шчур, як кажуць, «узяўся за розум», пачаў даганяць таварышаў па ўсіх ваенных дысцыплінах.



Камандзір разліку старшы сяржант Валянцін Кузняцоў.

Набліжалася інспектарская праверка. У арміі гэтая праверка — тое-ж, што экзамен у навучальнай установе. А да ўсякага экзамена трэба сур'ёзна рыхтавацца. Пачалася старанная падрыхтоўка і ў разліку Кузняцова. Але ў той час, калі яна была ў поўным разгары, захварэў радавы Шчур.

У гарматным разліку, як правіла, кожны нумар выконвае свае строга вызначаныя абавязкі. Безумоўна, у гады вайны было нямала выпадкаў, калі разлік выконваў задачу не ў поўным саставе. І ў мірны час з вучэбнымі мэтамі камандзір часам «выводзіць» са строю некаторыя нумары. Але на першым часе вучобы наяўнасць і добрая падрыхтоўка ўсіх нумароў разліку — абавязковая.

Выхад са строю радавога Шчура ўстрывожыў усіх членаў разліку. Калі-б гэта захварэў хто-небудзь з тых, хто добра паспяваў у вучобе, справа іншая. А то Шчур... Ці зможа ён потым дагнаць таварышаў?

У гэты час радавы Шчур, мабыць баючыся падвесці таварышаў ці не верачы ў свае сілы, пачаў сур'ёзна выказваць сумненне, ці зможа ён дагнаць таварышаў і ці не лепш яму перайсці ў другі род войск. Але камандзір разліку і баявыя сябры маладога салдата моцна верылі ў свайго таварыша і змаглі перадаць гэтую веру і яму. Асабліва многа дапамаглі Шчуру Сердзічэнка і Бязуглы, якія сталі яго самымі блізкімі сябрамі. З іх дапамогай Міхаіл Шчур змог дагнаць сваіх таварышаў і цвёрда засвоіць той матэрыял, які быў пройдзены без яго. На праверцы ён атрымаў па веданню матэрыяльнай часткі гарматы добрую ацэнку. Астатнія салдаты атрымалі выдатныя ацэнкі. Гэта была перамога камандзіра разліку — старшага сяржанта Кузняцова, перамога ўсіх салдат і, нарэшце, перамога Міхаіла Шчура, які знайшоў сваё месца ў калектыве.

Аднак і пасля праверкі маладых воінаў яшчэ нельга было назваць артылерыстамі-зенітчыкамі ў поўным сэнсе гэтага слова. Каб стаць сапраўднымі абаронцамі паветраных прастораў совецкай краіны, ім трэба было яшчэ паспяхова ад-

Уладзімір КАЧАН

## Ля карты

Белагаловы, кемлівы, упарты,
Суворавец чаканіць цвёрды крок.
Бярэ указку.
Падышоў да карты,
Адказваць пачынае ён урок.
Праз нетры пушчаў, стэпы Украіны,
Ад Камы да Ламанша з веку ў век
Праходзіць Еўрапейская раўніна
З галістымі ствaламі буйных рэк.
На схілах Татраў п'юць з крыніцаў серны;
Пад Брэстам хмары падпірае лес;
Прыгожы Кіеў — з макавае зерне,
А родны Глуск зусім сюды не ўлез.

І па былых напрамках нашых армій
Ужо за Віслу перайшла рука...
Там — гаварылі — дзесьці на плацдарме
Паў смерцю храбрых бацька хлапчука.
Мы слухаем, і, як жывая казка,
Устае з-за тых узгоркаў і раўнін
Шлях перамогі, шматпакутны, цяжкі,
Ад Волгі да ютландскіх лугавін.
... Палі, лясы, дарог бясконцых рыскі.
Не скінеш вокам — гэтулькі зямлі.
І ў цягніку праехаць — шлях не блізкі!
А як было бацькам? Яны-ж прайшлі.

**В. Кузняцоў** (справа) **растлумачвае свайму разліку задачу, якую патрэбна выканаць на сённяшніх занятках.**

страляць баявымі патронамі па паветранай цэлі, вытрымаць экзамен на агнявую сталасць. Да гэтага экзамена і пачалі рыхтавацца маладыя воіны.

Была хмурная зімовая раніца. Салдаты разліку выстраіліся паблізу сваёй гарматы і нецярпліва чакалі каманды: «Да бою» — вельмі хацелася праверыць свае тэарэтычныя веды на практыцы. Непадалёку ад зенітчыкаў на невялікай вышыні прайшоў пасажырскі самалёт.

— Таварыш старшы сержант, — звярнуўся да Кузняцова адзін з салдат. — А калі-б гэта быў самалёт праціўніка, можна-б яго збіць з нашай гарматы?

— З першага-ж выстрала, — адказаў сержант. — З нашай гарматы можна збіць і рэактыўны самалёт. Канешне, калі разлік добра падрыхтаваны.

— Дазвольце злавіць самалёт у аптычную трубу, — папрасіў наводчык Сердзічэнку.

Камандзір дазволіў.

Але як ні стараўся Юрый Сердзічэнка злавіць цэль, у яго нічога не выходзіла. Простым вокам ён добра бачыў самалёт, а ў перакрыжаванне трубы злавіць яго не мог. Салдат разгубіўся: ён то глядзеў у акуляры трубы, то шукаў цэль простым вокам. Гэта прадаўжалася да таго часу, пакуль самалёт не выйшаў з зоны агню. Няўдача збянтэжыла наводчыка.

— Нічога, — падбадзёрыў яго камандзір. — Першы крок заўсёды бывае слабы. Вам патрэбна было зрабіць папярэднюю наводку, а потым асноўную. Гэта робіцца так.

І камандзір упэўнена, лёгка і хутка зрабіў наводку.

— Вось каб нам так навучыцца, — сказаў нехта з салдатаў.

— І навучыцеся. Ну, пачнем...

Барацьба за агнявое майстэрства пачалася з засваення кожным членам разліку—нумарам— сваіх абавязкаў. Калі ўсе нумары добра засвоілі свае абавязкі, пачалася барацьба за зладжанасць разліку. Быць добрым зенітчыкам — значыць умець падпарадкоўваць сваю волю, свае дзеянні, волі аднаго чалавека — камандзіра разліку. Ні ў адным іншым разліку, экіпажы і аддзяленні зладжанасць у рабоце не мае такога значэння, як у разліку зенітнай гарматы. Самая нязначная памылка аднаго з гарматных нумароў зводзіць на нішто намаганні ўсяго разліку.

Усе трэніроўкі камандзір гарматы праводзіў з улікам барацьбы за секунды. Яно і зразумела. Стральба па самалёту, які ляціць вельмі хутка, будзе паспяховай толькі тады, калі зенітчыкі за лічаныя секунды абстраляюць цэль, давёўшы агонь да найвышэйшага напружання.

Вось камандзір разліку падае каманду: «Да бою». Усе салдаты займаюць свае месцы і дзейнічаюць як і належыць па настаўленню. Аднак, старшы сержант незадаволены: няма патрэбнай хуткасці. Камандзір указвае на недахопы салдата і зноў загадвае выконваць пэўныя прыёмы. Нарэшце, удаецца дабіцца выканання каманды ў тым тэмпе, у якім гэта неабходна для дзеянняў у баявой абстаноўцы. Упартай працай камандзіра і падначаленых зроблены яшчэ адзін крок па шляху да баявой дасканаласці.

Па радыё паведамілі, што ў заходнім напрамку ў паветры паявіўся самалёт «праціўніка».

— К бою! — камандуе старшы сержант Кузняцоў, паўтараючы сігнал афіцэра.

Гарматныя нумары хутка і дакладна выконваюць свае абавязкі.

— Увага! Гармата!

Па гэтай камандзе салдаты апусцілі гармату з калёс на грунт. У адзін момант прызвычаенымі рухамі працёрлі насуха канал ствала, адгарызантавалі гармату, праверылі нулявую лінію прыцэлу. Амаль адначасова пачуліся даклады нумароў аб гатоўнасці.

— Гармата гатова, — далажыў Кузняцоў афіцэру.

Хутка данёсся гул самалёта. Гатовы падаць чарговы снарад, нерухома застыў у поўсагнутым становішчы радавы Шчур; у любую секунду быў гатовы адкрыць агонь зараджаючы Бязуглы. Пільна сачыў за паветрам наводчык Юрый Сердзічэнка. Ён прыкметна хваляваўся. Страляць трэба было па пікіроўшчыку. А гэта самае цяжкае практыкаванне. Практычна зенітчыкам трэба было прастрэліць мяшок, скінуты з самалёта на парашуціку. Цэль будзе ляцець вертыкальна, з вялікай хуткасцю.

Вось паказаўся самалёт. Наводчык Сердзічэнка адразу злавіў яго ў аптычную трубу. Праз некаторы час ад самалёта аддзяліўся мяшок. Юрый злавіў яго ў прыцэл.

— Цэль злоўлена.

Амаль аднačасова далажыў аб гатоўнасці радавы Кочын, які сумяшчаў узрывацель.

— Ёсць сумяшчэнне!

Далажылі аб гатоўнасці і другія нумары.

— Агонь! — скамандаваў старшы сержант.

Снарад разарваўся каля самай цэлі. Стральба аглушыла некаторых зенітчыкаў. Але гэта было поўбяды. Горш атрымалася ў наводчыка Сердзічэнкі. Воблачка дыму на нейкі момант закрыла цэль. Наводчык хутчэй, чым патрабавалася, павярнуў механізм і згубіў цэль. Ён неадкладна далажыў аб гэтым камандзіру. Той узяў даныя ў разведчыкаў і тутжа паведаміў наводчыку.

— Цэль злоўлена, — тут-жа далажыў Сердзічэнка.

Адзін за другім раздаліся яшчэ два выстралы. Апошні снарад разарваўся ля самага мяшка і адкінуў яго ўбок. Калі-б гэта быў варожы пікіроўшчык, ён абавязкова быў-бы збіты. Сваю задачу разлік выканаў выдатна.

Усхваляваныя ўдалай стральбой, зенітчыкі акружылі камандзіра вясёлай і шумнай групай, чымсьці падобнай на групу школьнікаў, якія ўдала здалі экзамен.

Дамоў вярталіся з песняй. Запяваў радавы Шчур. У яго душы была вялікая радасць, шчырая падзяка камандзіру і таварышам, якія дапамаглі яму стаць сапраўдным артылерыстам-зенітчыкам.



**Зараджаючы А. Бязуглы дасылае чарговы патрон.**

Фота аўтара.



Фота М. Ананьіна

**Пасля работы прыемна адпачыць на беразе ракі, на зялёным лузе.** На здымку: **маёўка ў Ждановічах.**



**Калгас імя Молатава — адзін з вядучых у рэспубліцы па надоях малака. Тут добра арга-
нізавана летняе ўтрыманне жывёлы. Яе пасвяць круглыя суткі на падсеяных травах.
Дояць кароў чатыры разы ў суткі. Гэта прыводзіць да бесперапыннага росту надояў ма-
лака, хуткага раздою кароў. Малочная прадукцыя калгаса, у параўнанні з мінулым го-
годам, павялічылася ўдвая.** На здымку: **лепшы пастух калгаса імя Молатава Слуцкага
раёна Міхаіл Крот.**

Фото А. Дзітлава.

# На лузе росным

Раман САБАЛЕНКА

Кароткія летнія ночы. Хведару здалося, што яшчэ толькі от нядаўна ён бачыў, як залаціўся на захадзе край небасхілу, а раптам зірнуў на ўсход, а там ужо ткалася світальная зара. Белаватая кайма аперазала край неба, і пералескі, якія сям-там сустракаюцца на лузе, у ранішнім тумане былі падобны на вялізныя стагі сена. Хведар зірнуў у бок Гарыні. Рака, якая ўдзень блішчыць, як срабрыстая пакручастая істужка на зялёным лузе, зараз была заслана туманам. Набліжэнне раніцы можна было заўважыць па тым, што вельмі-ж настойліва сон мружыў вочы. Здаецца, каб прыпаў галавою на якую купінку, адразу-б і заснуў. Але спаць не выпадала. Каровы вунь як на траву накідаюцца. На гэты ўчастак толькі сёння Хведар перагнаў свой статак. На тым, дзе ён пасвіў учора, трава ўжо была выедзена, і каровы неяк неахвотна нават нагіналіся, каб скубсці яе. Хведар сам сабе падумаў: гэта-ж нехта разумны выдумаў загонную пасьбу. Яшчэ летась яны не дзялілі выган на дзялянкі і за які тыдзень, бывала, каровы вытапчуць усю пашу і аж, здаецца, зубамі ляскаюць, шукаючы, дзе ўшчыкнуць травінку. А то-ж глядзі, зусім проста, з тыдзень каровы пасвяцца на адным загоне. Покуль яны з'ядуць на ім траву, яна вунь як возьмецца на другім. Не казаў-бы то навука — яна, брат, у такіх простых рэчах і то вунь што адкрывае. Праўда, дзядзька Кастусь не вельмі трымаецца гэтай навукі.

— Ды што вы мне, — кажа ён, — выдумляеце з гэтымі загонамі: дзе трава лепшая, там і пасу.

Надоечы ён у прыцемку загнаў свой статак на пясчаныя ўзгоркі, ганяў яго, круціў там, а каровы так і не наеліся. Прышлі даяркі даіць і здзівіліся, што гэта зрабілася з каровамі — амаль усе на паўтара—два літры далі менш малака. Тады самая байчэйшая з іх Мальвіна Тарчыла і падступіла амаль з кулакамі да дзядзькі Кастуся:

— Дык што-ж гэта вы сабе думаеце, дзядзечка? Будзеце нам кароў на выдзьмах ганяць, а мы будзем даёнкамі званіць і апошняе месца ў калгасе займаць!

— Эт, адчапіся ты, — агрызнуўся дзядзька Кастусь і ні то ад злосці, ні то хочучы даць зразумець Мальвіне, што трэба канчаць гэтую непрыемную гаворку, ляснуў доўгаю, прасмоленаю пугаю.

— Ды вы мне не ляскайце. Вам-жа было сказана, што трэба пасвіць вунь на тым загоне, а вы навошта пагналі на выдзьмы? — насядала Мальвіна.

— Праўду кажа Мальвіна, — падтрымалі яе другія даяркі.

— Праўду, праўду, — перадражніў дзядзька Кастусь. — Можа вас каторых яшчэ на свеце не было, а я пасвіў ужо каравы, — ён чамусьці гэтак вымаўляў слова «каровы». — А цяпер мяне вучыце. Яшчэ берасцянкаю склікаў, каб выганялі.

— То добра, што вы пасвілі, а цяпер час не той і каровы не тыя. Вам-жа сказана было, пашу на загоны падзялілі, а вы сабе сваё. Ды і пугу гэтую закіньце, а то палохаеце кароў.

— Які-ж я пастух без пугі буду? — ужо з крыўдай спытаў дзядзька Кастусь.

— Вунь-жа Хведар Крывапуст з дубчыкам кароў пасвіць і наядаюцца як яны ў яго.

— Наядаюцца, бо пашу лепшую яму далі.

Хведар Крывапуст стаяў тады ля свае кашары і чуў усю гэтую гаворку. Хацелася падысці да дзядзькі Кастуся, пакласці руку на пляча і сказаць яму:

— Устарэў ты, дзядзька Кастусь, з гэтай сваёй пугай. Цяпер каровы калгасныя і пасвіць іх трэба па-калгаснаму, каб яны малачко давалі, а не толькі хвасты насілі.

Цяпер усё гэта ў перадранішняй цішыні ўспомнілася Хведару, калі ён здалёк убачыў дзядзьку Кастуся са сваім статкам. Ён сам сабе ўсміхнуўся: вось-жа ўпарты стары — яму адно кажы, а ён усё сваё.

А ранішняя зара ўсё ткалася і ткалася. Ужо і час быў даіць кароў. «Толькі-ж дзе яны, тыя даяркі, няўжо заспалі?» Не паспеў ён так падумаць, як з-за пераляску пачулася песня. Хведар выразна разабраў словы:

«Каб я знала,  
Каб я ведала,  
Дзе мой любы начуе?»

— Тут, тут я начую з каровамі! — хацелася крыкнуць Хведару ў адказ на песню даярак. Ён хуценька абышоў статак, сабраў яго ў гурт і пачаў падганяць да кашары, зробленай з тонкіх жэрдачак. Каровы ўжо былі ў кашары, як падышлі даяркі.

— Ты, мусіць, не дачакаўшыся нас, загнаў кароў? — з адценнем жарту спытала Сцепаніда Тарапец.

—Я-ж чуў, як вы ў песні пыталі, дзе ваш любы начуе, дык адразу і пагнаў.

— Гэта я так сабе, пажартавала, — адказала Сцепаніда і, з нейкай асаблівай любасцю зірнуўшы на Хведара, дадала:

— Ідзі, Хведзя, хоць паспі трохі, а то-ж за ноч, відаць, натупаўся.

Ад гэтых слоў, у якіх былі і клопат, і жаночая ласка, Хведару стала цяплей на душы, і ён у адказ усміхнуўся Сцепанідзе такою звычлівою ўсмешкай, што жанчына аж збянтэжылася. Яна нават, калі Хведар пайшоў ужо да таго гайка, дзе была паветка, пад якой пастухі хаваліся ад спякотнага летняга сонца, доўга яшчэ бачыла перад сабой хведараў цёмны-цёмны ад загару твар і белыя зубы, якія, здавалася, аж іскрыліся ад усмешкі.

Да паветкі пастухі падыходзілі па адным. Вунь ідзе Рыгор Вабішэвіч. Ён здалёк здаецца таўставатым. Мо таму, што на плечы ўсцягнуў нейкую бравэрку. Паходка яго павольная, а з-пад казырка толькі бліскаюць вочы. На левым плячы ў яго вісіць пуга. Арэшкавае кароценькае пугаўё матляецца спераду, а ззаду па траве цягнецца доўгі хвост пугі, на канцы якой навязаны вузельчыкі. Гэта, мусіць, для таго, каб ужо калі выцяць карову, дык зна-



**Хведар Крывапуст цікавіцца прыбаўкаю надояў малака.** Злева направа — **Агаф'я Паюта, Ольга Тарапец, Х. Крывапуст і Сцепаніда Тарапец.**

кі былі. Другім падыходзіць Васіль Мароз. Гэта чалавек такога-ж пажылога веку, як і Рыгор. Яны нават нечым падобныя адзін да аднаго. Падышоўшы да паветкі, яны скідаюць абутыя на басаножлапці і, нібы па камандзе, валяцца на ўсталяваныя пад паветкай палаці. Апошнім прыходзіць дзядзька Кастусь. Гэты заўсёды вясёлы чалавек сёння спахмурнеў.

— Чаго, дзядзька Кастусь, невясёлы? — пытаецца Хведар.

— Эт! Усё неяк не куецца, а плешчыцца.

— Чаго-ж гэта яно так?

— Ды от-жа Мальвіна такую прабороку дала, што хоць ты стырчма галавою ў Гарынь кідайся.

— Завошта-ж гэта яна?

— Кажа, не ўмею пасвіць. Кажа, вучыся ў Хведара. А як-жа я ў цябе буду вучыцца, калі ты нават пугай не ўмееш ляснуць.

— Так ужо і не ўмею.

— Дык на лясні, калі ўмееш, — прапанаваў Хведару сваю доўгую, таксама з вузялкамі на канцы, пугу дзядзька Кастусь.

Хведару не было як адмаўляцца і ён, кінуўшы пад паветку свой дубчык і ўзяўшы дзядзькаву пугу, адышоўся, размахнуўся рукой і толькі хацеў ляснуць, як пуга імклівa секанула яго па нагах. І гэтак балюча, што ён аж падскочыў. Рыгор з Васілём, якія пакладліся ўжо на палацях спаць, гучна зарагаталі і выгукнулі ў адзін голас:

— От табе і пастух!

Дзядзька Кастусь, рагочучы, падбег да Хведара, схапіў пугу і, неяк раскруціўшы яе над галавой, гэтак ляснуў, што аж рэха адгукнулася ў гайку, а ад мокрай пугі, нібы дымок, паляцелі пырскі.

— От як трэба пастуху ляскаць, — ужо з нейкім гонарам сказаў ён Хведару. — А то пастух, а пугай не ўмее ляснуць.

Хведара апанавала злосць і ён не змоўчаў:

— Відаць, таму, што вы добра пугаю ляскаеце, вашы кароўкі зубамі па выдзьме ляскаюць.

— Адкуль ты ведаеш, малакасос? — узлаваўся дзядзька Кастусь.

— Чуў, як вас Мальвіна прабірала. Добра-такі прабрала.

— Добра! — буркнуў дзядзька Кастусь і ціха паплёўся пад паветку класціся спаць. Хведар, крыху яшчэ пастаяўшы, знайшоў свой дубчык і таксама пайшоў пад паветку. У яго ўжо, ці з-за гэтага недарэчнага ляскання пугай, ці з-за чаго яшчэ, прапаў сон. Але ён таксама пайшоў да палацяў і, не распрануўшыся, прылёг. У галаву лезлі думкі-ўспаміны.

У леташнім годзе, як толькі ён прышоў з арміі і пайшоў да старшыні калгаса Хведара Максімавіча Дзімітрачкова, каб дамовіцца, дзе яму працаваць, старшыня, паглядзеўшы на яго маладжавую стройную постаць у вайсковым адзенні, сказаў:

— Дык от што, цёзка, мы тут думалі і надумаліся, каб ты ў пастухі пайшоў.

— Што вы, Хведар Максімавіч, смяецеся хіба?

— Ды не, гэта не смех. Мы хочам, каб у нас пастухом хоць адзін малады чалавек, ды яшчэ кандыдат партыі быў.

Тады адразу, вядома, Хведар не згадзіўся. Ён дома параіўся з бацькам, з маці. Тыя — ні блізка.

— Гэта-ж сорам дый годзе, — казала маці. — Малады хлопец ды ў пастухі.

Хведар такі наважыў быў адмовіцца ад старшынёвай прапановы. Але, ці то выпадкова, ці знарок, аднаго разу да яго падышоў намеснік старшыні Іван Іванавіч Тарчыла.

— Дык ты, значыцца, адмаўляешся за пастуха быць? А ў нас, брат, на цябе такая надзея была.

— Дык сорамна-ж мне, маладому хлопцу.

— А ты, брат, сорам — у кораб, а хлеба кавалак у торбу і на луг. Нам, брат, комуністам, не павінна быць сорамна, калі гэта трэба для справы.

Доўга хадзілі па вуліцы Хведар з Іванам Іванавічам. Намеснік старшыні даводзіў Хведару, як важна тое, каб ён пайшоў працаваць пастухом. І Хведар такі не змог адмовіцца. Назаўтра ён сказаў старшыні:

— Я пайду за пастуха, Хведар Міхайлавіч.

— Я так і ведаў, што ты не адмовішся.

Старыя пастухі ўжо храплі на палацях пад паветкаю, а Хведар яшчэ і вачэй не звёў. Ужо і сонца выбліснула на небасхіле. Раптам з-за гайка вынырнула фігура чалавека, і Хведар пазнаў у ёй Івана Іванавіча. Падышоўшы да паветкі, Іван Іванавіч як-бы сам сабе сказаў:

— Спяць мужчыны. Няхай спяць, пайду да даярак.

— Я не сплю, Іван Іванавіч, — кінуў Хведар і прывітаўся з намеснікам: — Добрай раніцы.

— Добрай раніцы, — адказаў той. — Дык чаму-ж ты не спіш, хлопча?

— Ды от одум апанаваў. Ды зноў-такі гэтыя птушкі цілікаюць ды шчабечуць, дык дзе ты заснеш. Сядайце ў нашай хаце, — гасцінна прапанаваў Хведар.

— А Свірскага тут не было? — спытаў Тарчыла, сядаючы на палаці.

— Ды ўжо з тыдзень, як мы яго тут і ў вочы не бачылі.

— От чалавек, і дзе ён прападае?

— Дзе прападае? — прачнуўшыся, перапытаў дзядзька Кастусь. — А хіба ты не ведаеш? На сплаў паехаў. Ён-жа хату ставіць, дык хіба яму рупяць твае каровы.

І сапраўды Мікалаю Свірскаму — ветэрынарнаму фельчару Столінскай МТС — не вельмі рупілі каровы калгаса. З самай вясны ён поркаецца: то быў на руме ў лесе, а калі лес прыплыў сюды, дык на беразе Гарыні. Гэтымі днямі траляваў бярвенне ў вёску, а зараз ужо цесляры робяць зруб, дык ён, мусіць, там.

— Мусіць, каля зрубу тупае, — сказаў Хведар.

— Тупаць то ён няхай тупае, ды не забывае пра свае абавязкі. Заўтра паеду ў Столін, дык заеду ў МТС, раскажу. Няхай яны яго трохі прабяруць.

— Пэўне-ж, што трэба прабраць, а то-ж калі карова якая захварэе, дык шукай яго, як у полі ветру, — згадзіўся з намеснікам дзядзька Кастусь. Тым часам папрачыналіся ўжо і Рыгор з Васілём, а ад кашар да паветкі падышлі даяркі.

— Ну, як удоі? — запытаўся ў іх Іван Іванавіч.

— Не кажыце, Іван Іванавіч, як гэтыя лагеры добра прыдуманы.

Ад сваіх дзесяці каровак я надойвала самае большае 70 літраў за дзень, а заўчора ўжо надаіла 86 літраў, а сёння, можа, якіх і дзевяноста будзе, — сказаўшы гэта, Сцепаніда з удзячнасцю глянула на Хведара і, мусіць, нешта хацела сказаць пра яго, але яе перабіла Мальвіна.

— А я і сёння, як ад тых коз, надаіла, — яна кінула позірк на дзядзьку Кастуся. Той аж сумеўся, твар яго неяк перасмыкнуўся і, каб можа не гэткі густы загар, усе пабачылі-б чырвань на ім.

— Дрэнна, мабыць, напасвіў дзядзька Кастусь? — спытаў Іван Іванавіч.

— Дзе ён напасвіў, па выдзьме цэлую ноч ганяў, — зноў уставіла Мальвіна. — Ды вунь рабую гэтак секануў пугаю, што аж пісяг на сцягне застаўся.

— Ты хоць ужо маўчы, ты мне і так духі адняла, — вінавата сказаў дзядзька Кастусь. — А каб гэтая пуга вам у вочы не кідалася, дык я вось што з ёй зраблю! — і ён хуценька ўзяў пад паветкаю сякеру і на пяньчуку пасек тую пугу на кавалачкі.

— А чым-жа я буду вучыцца ляскаць? — з жартам спытаў Хведар.

— Вунь папрасі ў Мальвіны языка, ён не горш за маю пугу ляскае, — злосна кінуў Кастусь.

Іван Іванавіч, бачачы, што тут можа ўшчацца сварка не на жарты, пастараўся перавесці гаворку на іншае. Ён выняў з кішэні акуратна згорнутую газету, прысеў на палаці і разгарнуў яе на каленях. Хведар убачыў, што гэта была брэсцкая «Зара».

— Сёння, — пачаў ён, — зводка ёсць, колькі які калгас і якая даярка надаілі малака.

— Нашых, мусіць, там няма? — спытаў Хведар.

— Ёсць, ёсць! — з адценнем радасці сказаў Іван Іванавіч. — Наш калгас тут на другім месцы па раёну. І Юстына тут ёсць, — усе зірнулі на маладую даярку Юстыну Тарапец. — Праўда, мы яшчэ далекавата ад Рублёўскага калгаса «Сцяг комунізма», а даяркі — ад Соф'і Машлякевіч.

— Дык у іх-жа каровы вунь, як ільвы, а ў нас што — заморкі, — уставіла Сцепаніда. — У іх гарыньскай пароды, а ў нас свойскія.

— Свойскія — не свойскія, а каб мы іх лепш глядзелі, дык і яны-б больш давалі.—Іван Іванавіч зірнуў на дзядзьку Кастуся і той аж патупіў вочы.

— Дык от у праўлення ёсць такая думка: няхай Хведар Крывапуст будзе ў вас тут за старшага.

— Няхай будзе, — неяк разам вымавілі Рыгор з Васілём. — Ён-жа партыйны, дык яму і трэба хоць сякім-такім начальнікам быць.

— Гэта вы ўжо лішне, — умяшалася Сцепаніда, — ён сумленны чалавек, работу любіць, дык няхай і вас вучыць любіць яе.

Старыя змоўклі, а намеснік старшыні ўжо звярнуўся да маладых даярак:



**У вольную часіну Хведар Крывапуст цікавіцца сельскагаспадарчай літаратурай.**

Фото В. Германа

— Добра было-б, каб у вас тут і комсамольская група была. Партыйная арганізацыя вырашыла, каб і комсоргам быў Хведар Крывапуст. Ён хоць і кандыдат партыі, але яшчэ малады, яму, як той казаў, і карты ў рукі.

— Вельмі добра, — адгукнулася зноў тая-ж Сцепаніда. — Каб да восені мы дагналі па надоях «Сцяг комунізма», а вы ўсе, даяркі, асаблівa комсамолкі, — Соф'ю Машлякевіч.

Тым часам ужо сонца добра ўгрэла. Яно праменілася, лілося цяплом і святлом на росны луг, над якім параю падымалася ранішняя раса. Хведар нецярпліва пазіраў на Івана Іванавіча; нарэшце, ён не змоўчаў:

— Дык, можа, будзем канчаць гаворку, кароў трэба на вадапой.

Да сваіх кашар яны ішлі разам з дзядзькам Кастусём. Той нейкі момант маўчаў, цаляючы ісці ў нагу з Хведарам, але ўжо відаць, што маўчаць ён больш не мог, і Хведар пачуў:

— Яно канешне, маладому дык і за пастуха спасабней. І пабегчы ён хутчэй зможа. Ды і думка ў яго свяжэйшая да навукі. А то-ж колькі мне ні кажы пра тую загонную пасьбу, дык яно ў адно вуха ўлятае, а ў другое вылятае. От ты яго і лаві.

— А вы-ж казалі, дзядзька, што за пастуха кожны дурань можа быць. Не, дзядзька, — цяпер пастух — гэта вунь які чалавек. Я от думаю за зіму ўсе кніжкі пра пасьбу прачытаць, дык тады не толькі загонную пасьбу ўвядзем, а і яшчэ сёе-тое прыдумаем.

— Ды ты, канешне, прыдумаеш, малады, на розум шустры, — сказаў дзядзька Кастусь і пайшоў да сваёй кашары.

А з Гарыні ўжо зняўся туман і паляцеў у вышыні. Хведар Крывапуст — малады калгасны пастух — гнаў свой статак на вадапой і яму хацелася ад радасці спяваць.

**Калгас імя Чапаева Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.**

# ПРАВІЛЬНАЙ ДАРОГАЙ

С. КУХАРАЎ

**Нарыс**

I

Віктар хваляваўся. Каб крыху супакоіць сябе, ён перакладаў з месца на месца напільнікі, поркаўся ля варштата і позіркам шукаў *знаёмую, востраплечую* постаць майстра. А той, як на злосць, не паказваўся. Нарэшце, майстар хуткім крокам прашыбаваў па пралёце і гэтак-жа хутка знік, як і паявіўся. У хлопца аж кропелькі поту выступілі на ілбе.

— Не пазнаю цябе, Віктар, — нечакана ўзняўшы галаву, сказаў Іван Мацвееў, нядаўні яго настаўнік, а цяпер сусед па варштату. — Нейкі ты ўзрушаны сёння, — і раптам пляснуў сябе па ілбе:

— Дзівак я! Імяніннік-жа ты ў нас сёння. Першае самастойнае вытворчае заданне — гэта, браце, о!.. Некалі і я вось так, абрабіўшы першую пакоўку, скакаў ад радасці. Разумею!

Мацвееў па-змоўніцку, але шчыра падміргнуў, і яго цёплы позірк нібы казаў: «Добра. Значыць, палюбіў справу, калі хвалюешся».

— Ды я так, Іван Сідаравіч. Каб хаця ўсё правільна было, — адказаў Віктар і ўжо каторы раз разгарнуў чарцёж, узяў лінейку, вугольнік і пачаў вымяраць дэталі.

Неўзабаве з'явіўся майстар.

— Як справы, Скібуноў? Закончыў? — спытаў ён.

— Закончыў, — ціха адказаў Віктар *і адчуў, як чырвань заліла* шчокі.

Не адзін і не два дні патраціў малады слесар, пакуль выканаў сваё заданне. І дагэтуль ён працаваў, рабіў нават і складаныя слясарныя работы, але ўсё ўдвух з Мацвеевым. Вядомая справа — вучань. На кожным кроку з табою настаўнік. Мацвееў, бывала, заўсёды папярэджваў: «Віця, ты яшчэ раз паглядзі чарцёж», «Вазьмі лінейку, змерай». А тут табе поўная самастойнасць, прастор. І прыемна, і страшна. Прыемна, бо цябе ўжо лічаць роўным, з табою размаўляюць, як з самастойным рабочым, а боязна таму, што ўпэўненасці яшчэ не хапае.

Віктар, вядома, не адзінокі. З ім калектыў, сябры. Побач працуе той-жа Іван Мацвееў, насупраць — таксама вопытны інструментальшчык комсамолец Леанід Булахаў. У любую хвіліну дапамогуць. Урэшце, можна звярнуцца і да майстра. Іван Іванавіч Агібалаў — чалавек строгі, бурклівы, але і спагадлівы. «Не даеце вы мне дыхнуць, — часта можна пачуць ад яго. — Птушаняты. Зацягалі ўжо!..» Але ніколі не адмовіць у дапамозе, пакажа, што незразумела, паглядзіць тваю работу, параіць, як прыступіць да апрацоўкі, каб лепш выходзіла. У Агібалава ўжо такі прынцып: калі ўзяў чалавека ў цэх, не адмахвайся, а зрабі з яго кваліфікаванага рабочага.

Віктар моўчкі пазіраў, як майстар з усіх бакоў аглядаў яго работу, браў у рукі то лінейку, то цыркуль, вымяраў, звяраў з чарцяжамі. Затым, мацаючы рукамі гладка апрацаваныя сценкі металу, з цеплынёю ў голасе сказаў:

— Для пачатку не блага. Здавай Будэлю на праверку.

Глянуўшы на наручны гадзіннік, майстар знік у пралёце паміж станкамі.

Доўгімі былі для Віктара гэтыя хвіліны, пакуль *майстар аглядаў* работу. Але сэрца яго яшчэ не супакоілася. Яшчэ трэба было аднесці штамп да слесара-выпраба-вальшчыка, які дасць сваё заключэнне.

— Не палохайся, Віця. Усё будзе добра, — падбадзёрваў Мацвееў.

Пераглянуўшыся са сваім былым настаўнікам, Скібуноў узваліў дэталь на плечы і панёс у праверачную. Ён ужо ведаў ад іншых рабочых ды і сам бачыў, як Леанід Будэль прыдзірліва аглядае кожную дэталь. Асабліва патрабавальны ён да маладых, якія ўпершыню здаюць свае самастойныя работы. Так і стараецца пры выпадку падкалоць: «Вас вучылі, вучылі ў школе, а бачыце, якія яшчэ вы няўмекі». А Віктар-жа якраз з тых, што прыйшлі на завод са школы. Праўда, ён не якінебудзь хлапчук, што не davучыўся, кінуў вучобу дачасна. Не, ён прышоў у цэх з атэстатам сталасці і не за тым, каб перачакаць, пакуль на гарызонце з'явіцца што-небудзь лепшае, лягчэйшае. Ён прышоў сюды з ясным перакананнем, з цвёрдым намерам набыць кваліфікацыю, якая яму падабалася, да якой даўно імкнуўся.

І як не трапятаць юначаму сэрцу, як не хвалявацца за сваё першае самастойнае заданне!

Калі праўду казаць, дык майстар, даючы гэтае адказнае заданне пачынаючаму інструментальшчыку, непакоіўся і вагаўся. І зразумела. Усяго чатыры месяцы, як Віктар працуе самастойна. Праўда, яму даводзілася выконваць і складаныя работы, але-ж не ўсе *аперацыі, ад пачатку да* канца. Слясарны ўчастак атрымаў тэрміновае і адказнае заданне — зрабіць аснастку для сіласаўборачнага камбайна «СК-2,6», а вопытных рук не хапала. Сталыя інструментальшчыкі былі заняты, і востра паўстала пытанне аб вышукванні дадатковых магчымасцей.

Трымаючы ў руках стус чарцяжоў, майстар раіўся з парторгам цэха, з кадравымі рабочымі.

— А што, калі мы гэтую справу даручым Скібунову. Не падвядзе?

— Не павінен. Хлопец кемлівы, уважлівы, — заўважыў Кантаровіч, лепшы інструментальшчык цэха. — Відно, што хватка ў яго добрая, рабочая. Справіцца!

— А як думае Іван Сідаравіч? — звярнуўся майстар да Мацвеева, хоць ведаў, што той нічога благога пра свайго вучня не скажа, бо і цяпер інструментальшчыкі працуюць побач. Іх часта можна бачыць разам за чытаннем чарцяжоў, за абмеркаваннем новых заданняў.

— Ну, калі вы згодны, — стрымана ўсміхнуўся майстар, — так і быць. У добры час, хлопча!

Здавалася, ніколі такім шчаслівым не адчуваў сябе Віктар. Ніколі з такім запалам, з такой зацятасцю не працаваў. Раней за ўсіх прыходзіў у цэх, не заўважаў, як канчалася змена, як заставаўся зноў адзін. Не лёгка дасталася хлопцу гэтае заданне. Колькі ўхабаў на першых самастойных сцежках!

Здавалася, як мае быць вывучаны і разабраны чарцёж, падабраны адпаведны матэрыял, але пачаў хлопец рабіць матрыцу, дык не выходзіць так як трэба. І няёмка неяк кожны раз турбаваць Мацвеева, але нічога не зробіш: справа важней за асабістае самалюбства.

— Дапамажы, Сідаравіч, — просіць Віктар у такія хвіліны.

І таварыш дапамагае, разам знаходзяць памылку.

— Які-ж я дзівак! — дакарае сябе Віктар. — Забыў, што спачатку трэба зліčыць з чарцяжом, а потым наносіць керноўку.

...І вось штамп зроблены. Перш чым адправіць яго ў кавальскапрэсавы цэх, трэба праверыць, выпрабаваць. Потым ужо штампам робяцца адпаведныя дэталі, прыстасаванні, якія стануць аснасткай такой складанай машыны, як сіласны камбайн.

— Першая работа? — запытаў Будэль, аглядаючы і мацаючы Віктараў штамп. — Нішто сабе зроблена, з душою, — і, праніклівa паглядзеўшы на хлопца, дадаў:

— А цяпер пабачым, як яна адчуе сябе пад прэсам...

Знешне спакойны, як звычайна, стрыманы, Скібуноў усё-ж не мог схаваць сваёй узрушанасці: выціраў хусцінкай успацелы твар, прыгладжваў і без таго добра прычэсаныя валасы.

Як-бы знарок, Будэль, спакваля, *не спяшаючыся,* замацоўвае штамп, уключае прэс. Паварот рукаяткі, і чуваць адрывісты хруст, яшчэ паварот — і дэталь гатова. Потым ён зноў аглядае штамп, робіць сабе нейкія адзнакі ў зашмальцаваным сшытку і гэтак-жа спакойна, але лагодна гаворыць:

— Малайчына. Але не забывай, што для інструментальшчыка важна не толькі дакладнасць, але і чысціня, якасць апрацоўкі.

— Дзякую вам! — не памятаючы сябе ад радасці, Віктар пабег у цэх, да сяброў.

Майстар слясарнага ўчастка інструментальнага цэха І. Агібалаў дае Віктару Скібунову чарговае заданне.





**Закончыўся працоўны дзень. Маладыя рабочыя пакідаюць заводскія карпусы. На пярэднім плане — Віктар Скібуноў і Уладзімір Лыгін.**

Фото Ф. Раманава.

Вялікае шчасце — адчуць асалоду ад першых вынікаў той працы, якой вырашыў прысвяціць усяго сябе.

## II

З работы Віктар вяртаецца не адзін. Цяпер часта бывае, што побач з ім з цэха выходзяць і яго школьныя сябры Міхаіл Бурцаў, Яўгені Чарнякоў і Фёдар Шрэмаў. Яны, як і Віктар, у леташнім годзе скончылі сярэднюю школу і звязалі свой лёс з заводам.

Але не так проста рашыліся хлопцы пайсці на прадпрыемства. Доўга разважалі яны, задумваючыся над тым пытаннем, якое хвалюе кожнага выпускніка. І можа, каб не Віктар, каб не яго настойлівасць, сябры і цяпер-бы стаялі на раздарожжы. Па якой з шматлікіх і зваблівых дарог пайсці, каб дасягнуць жаданае мэты? Кім стаць, каб быць больш карысным Радзіме, найбольш поўна прымяніць свае здольнасці? З усіх спецыяльнасцей і прафесій, якую выбраць, каб яна не была цяжарам, а прыносіла радасць і задавальненне?

Сабраўшыся дзе-небудзь у ціхім кутку, каля Сожа, хлопцы падоўгу гаварылі, раіліся, і размовы іх часта пераходзілі ў гарачыя спрэчкі:

— Дык што, Віктар, ты з намі ці не? — перапытваў нецярплівы, гарачы Федзя і тут-жа звяртаўся да Міхася Бурцава: — Ты-ж яго прыяцель, Міша. Угавары Віктара. Як гэта, каб наш неразлучны сябра і пайшоў супраць.

— Віктар няхай сабе як хоча, — тонам, не допускаючым пярэчання, гаварыў Яўгені Чарнякоў, — а мы вырашылі — у марское!

— Віця, гэта не па-таварыску, — зноў ускокваў з месца Федзя.

Маўклівы і спакойны Віктар на гэты раз не змоўчаў:

— А вы думаеце, што робіце па-таварыску, правільна? — загаварыў Віктар. — Вы забылі, што нам казалі настаўнікі: у нашай краіне ўсякая работа пачэсная. Але найбольш патрэбны людзі вытворчай працы, якія сваімі рукамі ствараюць матэрыяльныя каштоўнасці. Глядзіце, сябры, не памыліцеся ў выбары сабе прафесіі, — і ўжо спакойна, нібы разважаючы сам з сабою, прадаўжаў: — Вы як сабе хочаце, а я пайду на Сельмаш. Буду вучыцца на слесара, набуду спецыяльнасць, а там будзе відаць. У марское вучылішча нам яшчэ не позна...

— А можа і праўда? — першым завагаўся Бурцаў. — Пойдзем на завод. Віктар правільна гаворыць. Там-жа яго дзядзька і сястра Ліда працуюць. Як-жа, хлопцы?..

...Прайшоў год. Па прыкладу Віктара хлопцы паступілі ў тэхнічнае вучылішча пры заводзе. У тым-жа цэху, дзе працуе Віктар, яны практыкуюцца, каб неўзабаве стаць кваліфікаванымі рабочымі.

Падыходзячы да заводскага кветніка, дзе абсталявана прыгожая вітрына «Юбіляры завода», сябры змаўкаюць, прыцішваюць крок.

— Кантаровіч, Пархоменка... — чытаюць уголас надпісы пад партрэтамі.

— Гэта-ж нашы, з інструментальнага! — ажыўляецца Віктар. — Кантаровіч — лепшы наш рацыяналізатар. І мне часта дае парады. У яго многа вучняў, і яны ўжо сталі перадавікамі, наватарамі.

— Ты таксама сюды марыш трапіць, — пожартам заўважыў Яўген і паказаў рукою на фотавітрыну.

— Мне яшчэ рана, — сур'ёзна адказаў Скібуноў. — А трапіць сюды, на фотавітрыну — гонар для кожнага рабочага.

## III

Як хутка бяжыць час. Іншы раз здаецца, што гэта было нібы ўчора. Часта Віктару ўспамінаецца, як ён упершыню пераступіў парог цэха і адразу адчуў сябе неяк разгублена ў гэтай вялізнай стадоле, скрозь застаўленай станкамі. Але ўзяў сябе ў рукі, пачаў прыглядацца і ўспомніў, як ён тут некалі быў, як вадзіў тады яго па цэху дзядзька Вікенці, паказваў новыя, толькі што прывезеныя машыны. Дзе-ж цяпер будзе яго, Віктарава, месца? Да каго накіруюць яго?

Начальнік цэха падвёў хлопца да крайняга ад уваходу варштата і, памаўчаўшы, сказаў, звяртаючыся да жвавага мужчыны:

— Мацвееў, вось Вікенція Дзямідавіча пляменнік. Пакажы яму, як і што... Будзеш яго вучыць.

Пазнаёміўшыся з Віктарам, Мацвееў падбадзёрыў юнака:

— Ды табе не страшна. Ты ўсё зразумееш хутка.

Але на справе аказалася, што не так проста быць слесарам. Ужо назаўтра, калі давялося апрацоўваць напільнікам зусім простую дэталь, Віктар адчуў, што не можа як мае быць трымаць інструмент.

— Больш разгону, смялей рухі, — раіў Мацвееў і паказваў, як трэба працаваць напільнікам, каб паверхня была роўнай, без зазубрын.

Віктар пачынаў пілаваць, але рукі яго не слухаліся, напільнік дрыжэў і нічога добрага не выходзіла. Ён злаваў на сябе, на сваю бездапаможнасць.

— Спакойна, хлопча, больш цярплення, — звычайна гаварыў Мацвееў і зноў адкрываў юнаку «сакрэты» слясарнай справы.

Віктар і сам не драмаў. У дзядзькі Вікенція ён папрасіў кніжку «Слясарная справа», падчытваў сёе-тое ў вольную часіну, а на завод імкнуўся прыйсці заўсёды раней іншых і трэніраваўся. Здаецца, простая рэч трымаць малаток, дзейнічаць зубілам, але і тут патрэбна ўменне, трэніроўка.

Лепш адчуваў сябе пачынаючы слесар у тэорыі. З першага дня для яго не было цяжкасцю разабраць чарцёж, зрабіць матэматычны разлік, перанесці дадзеныя чарцяжа ў натуру, уявіць сабе будучую дэталь. У гэтай галіне новы вучань часта нават здзіўляў свайго настаўніка. Карыстаючыся ведамі з геаметрыі, трыганаметрыі, Віктар хутка рабіў патрэбныя вылічэнні, вызначаў размеры будучай дэталі. Значыць, не дарэмна затрачана дзесяць год, не прапала дарэмна вучоба ў школе.

Ззаду засталіся першыя сумненні, няўдачы. Сёння Віктар упэўнена і настойліва авалодвае майстэрствам сваёй справы. Прыглядаючыся, як працуюць лепшыя інструментальшчыкі цэха, ён імкнецца пераняць іх вопыт, кожную новую рэч, якую яму даручаюць, робіць старанна, уносячы ў работу элемент творчасці.

І не дзіўна, што цяпер Віктару мала тых ведаў, якія ён атрымаў у школе. Жаданне высветліць усе незразумелыя пытанні, якія ўзнікаюць у працэсе працы, вядзе юнака ў бібліятэку. Кніга, як шчыры друг, адкрывае перад ім новыя, захапляючыя далі.

— Як справы? — пытае Вікенці Дзямідавіч, які цяпер працуе майстрам у другім цэху і не так часта сустракаецца з пляменнікам. — Не раскайваешся, што паступіў на завод?

— Што вы, ніколькі! — адказвае Віктар. — Наадварот, задаволены. Мне хутка яшчэ здаваць на вышэйшы разрад, — закрыўшы кніжку, якую толькі што чытаў, ён шчыра і доўга расказвае пра свой цэх, пра сяброў, якія, як і ён, выбралі сабе прафесію слесараў, токараў, стругальшчыкаў, сталі ў рады слаўнага атрада машынабудаўнікоў.

— У нас цяпер многа хлопцаў і дзяўчат з сярэдняй адукацыяй працуюць у цэхах, — задаволена гаворыць комсамолец Віктар Скібуноў. — Добра сябе адчуваюць. Некаторыя паступілі завочна ў інстытуты, вучацца ў тэхнікумах. Я так лічу: правільнай дарогай мы ідзем!

**Гомсельмаш.**

---

Аляксей ПЫСІН

## Барометр

**Вучоныя прадказваюць надвор'е,**
**Прыбораў маюць шмат яны.**
**А я барометрам**
**У іншай форме**
**Зрабіўся ў час вайны.**

**Метал ва мне — варожых мін асколкі,**
**Якіх хірург не мог дастаць.**
**Я ведаю: заныюць раны толькі,**
**І трэба змен чакаць:**

**Надвор'е зменіцца не сёння — заўтра,**
**І будзе слота, дождж ліне.**
**Сусед часамі з жартам і без жарта**
**Прагноз бярэ ў мяне.**

**Нашу асколкі ў целе недарэмна:**
**Заўсёды ўспомню маладосць,**
**Пачую боль —**
**І пільнасць не задрэмле**
**Пакуль пагрозы ёсць.**



**Ева Міхаленка ўдзельнічала ў рэспубліканскай нарадзе маладых кукурузаводаў у Мінску. Там яна сустрэлася з аграномам калгаса «Перамога» Рагачоўскага раёна Героем Соцыялістычнай Працы Надзеждай Філіпавай і аграномам саўгаса «Горны сноў» Нясвіжскага раёна Любай Шкуртанавай, звеннявой калгаса імя Молатава Брагінскага раёна Любай Бельскай.** На здымку: (злева направа) **Люба Бельская, Ева Міхаленка, Герой Соцыялістычнай Працы Надзежда Філіпава, Люба Шкуртанава і сакратар Касцюковіцкага райкома комсамола Тамара Дарашэнка.**

Фото В. Бабровіча.

# Залатыя зярняты

**Васіль МАЕЎСКІ**

На світанні Ева, апранУўшы цёплую ватоўку, накіравалася за аселіцу. «Пакуль дзяўчаты збяруцца капаць сіласную траншэю, — разважала яна, — можна будзе пабываць на полі, паглядзець, як там пасевы». Ужо каторы раз за апошнія два тыдні вось так, як і цяпер, ішла яна па гэтай-жа добра знаёмай дарозе глядзець пасевы. Але парасткі ўсё не паказваліся.

«Няўжо і сёння не праклюнуцца? Гэта-ж ужо амаль тры тыдні прайшло, як пасеялі...»

Гэтая самотная і надакучлівая думка не развеялася і тады, калі звеннявая прыйшла на ўчастак. Наадварот, яе ахапіла трывога. Далёка, аж да лесу, прасціралася голае, прыбітае дажджамі поле. А на ім — ані каліва. Толькі агромністыя пудзілы маўкліва стаялі па краях і пасярод участка, размахваючы на ветры пустымі рукавамі.

— Вось табе і на! — падумала Ева і, нізка нахіліўшыся, пачала раскопваць зямлю, каб паглядзець, як там адчуваюць сябе зярняты. — Можа пагнілі, як у другім звяне... Але не можа быць!.. Другое-ж звяно сеяла кукурузу ў лагчыне, куды ўвесь час сцякала дажджавая вада. А на яе ўчастку поле роўнае, нават пакатае крыху.

Адкапаўшы адно, потым другое гняздо, звеннявая ўпэўнілася, што ўсе зярняты цэлыя. Аднак, гэта яе не супакоіла: чаму-ж ніводнае не прарасло, нават не наклюнулася?

Ева доўга моўчкі стаяла сярод поля. «А можа і праўду тады казаў Петрусенка, — мільганула думка. — Чалавек больш за нас пражыў, больш бачыў...»

І Еве адразу прыйшоў на памяць той дзень, калі звяно пачынала сяўбу. Петрусенка, які маркераваў участак, падышоў да яе і кажа:

— Ранавата, Ева, каманду падала... Сеем, сама бачыш, у якое надвор'е. Ці паўзыходзіць гэтая кукуруза?

Петрусенку тады нават не далі даказаць — на яго з усіх бакоў накінуліся дзяўчаты.

— Мы самі нейкі вопыт маем! — першай кінула бойкая Марыся Добыш. — Летась там, дзе пасеялі раней, кіяхоў сабралі вунь колькі, нават зерне даспела.

— Хіба яму ўдзяўбеш гэта, — падтрымала сяброўку Аня Калыхан.

Дзяўчаты засмяяліся. А Петрусенка, сумеўшыся, адыйшоў воддаль і бурчэў сабе пад нос:

— От зачапіў сарок!..

Ева слухала ўсё гэта. Звеннявой было радасна і прыемна за дзяўчат. Яна верыла ў іх шчырасць — усю-ж зіму чыталі, вучыліся разам.

Калі дзяўчаты сціхлі, Ева падыйшла да Петрусенкі, зірнула яму ў вочы і з усмешкай сказала:

— І сапраўды, як тыя сарокі... Цяжка з імі згаварыцца.

Але праз нейкі момант усмешка знікла, яе смуглы твар зрабіўся сур'ёзным і строгім.

— Але я за іх! Правільна кажуць дзяўчаты — кукуруза ў нашым калгасе не новая культура. Год пяцьдзесят, як садзяць яе нашы аднавяскоўцы на градах. Дык мы ўжо ведаем.

— Пажывем-пабачым, — няпэўна адказаў Петрусенка.

Гэтае «пажывем-пабачым» чамусьці прыгадала звеннявая цяпер. Апанаваная думкамі, Ева не заўважыла, як да яе падыйшла Глаша Анішчанка, таксама звеннявая. Яна, відаць, ішла на свой участак.

— Што ў цябе чуваць, Глаша? — запытала Ева.

— Дрэнь справа, — дзяўчына махнула рукою. — Тое-ж самае, што і ў цябе... Калі не горш... Усходаў няма, а ў лагчыне і чакаць іх, мабыць, не трэба — пагніло насенне.

— Давядзецца падсеяць, — параіла Ева.

— Я ўжо пра гэта думала. Але калі падсейваць: цяпер, ці як гнёзды абазначацца?

— Лепш, можа, калі ўсходы з'явяцца... — На нейкі момант Ева задумалася. — У мінулым годзе звенні з гродзенскага калгаса «Новы шлях», з якімі мы спаборнічаем, здаецца, так рабілі...

— Трэба напісаць ім, параіцца, — заключыла Глаша. — Заадно даведаемся, як у іх справы.

— Абавязкова!.. Мы-ж так і дамаўляліся зімою.

Толькі ў палове чэрвеня, калі прайшлі цёплыя дажджы, на кукурузных палетках паявіліся ўсходы. Але месцамі кукуруза вельмі марудна выбівалася з зямлі. Заўважыўшы гэта, Ева вырашыла:

— Трэба параіцца з аграномам.

Аграном прапанаваў дзяўчатам зноў прабаранаваць пасевы і падкарміць аміячнай салетрай.

За якіх-небудзь два дні дзяўчаты прабаранавалі і падкармілі пасевы. І праз тыдзень палеткі пакрыліся зелянінай. Кукуруза набірала сілу, пацягнулася да святла.

Але маладыя гаспадары зялёных квадратаў не мелі спакою. Пайшла ў рост кукуруза, але яшчэ шпарчэй за яе пустазелле — свірэпка, асот, лебяда. Дзяўчаты з ранку да самага змяркання не сходзілі кожная са сваёй дзялянкі. Неяк аднаго разу, калі ўсё звяно сабралася на абед, Ева акінула вокам дзяўчат і, нібы яна была чым незадаволена, сказала:

— А мы яшчэ ўсё-ж не зусім добра працуем, — вунь глядзіце, колькі яшчэ таго пустазелля.

Дзяўчаты разумелі, чаго Ева незадаволена. Яны ведалі яе натуру — у звеннявой было такое правіла: колькі-б ты і як добра ні рабіў, Ева можа пахваліць толькі тады, калі ўсю работу скончыш. А ў палявой цішыні гучаў крыху ўсхваляваны евін голас:

— Хіба-ж вы забыліся, што на нарадзе маладых кукурузаводаў у ЦК комсамола ад сябе і ад імя свайго звяна я ўзяла высокае абавязацельства.

— Не забылі, Ева, і не забудзем, — нехта гукнуў млявым ад гарачыні голасам.

— То-та-ж, — працягвала Ева. — Зноў-жа, мы спаборнічаем з комсамольцамі калгаса «Новы шлях» Гродзенскага раёна. Дык трэба-ж, каб не сорамна нам было перад імі, каб было што пісаць аб нашых поспехах. Яны ўчора прыслалі нам пісьмо, у якім паведамляюць, што ўвесь участак звяна разбілі на дзялянкі, каб было відна, як хто робіць, як хто спаборнічае. Дык, можа, і мы так у сябе зробім? Як вы думаеце?

— Слушная думка, — падтрымала звеннявую Аня Анішчанка. — Так будзе відаць, як хто працуе.

— А як-жа з ураджаем? — запытала Марыся Калыхан.

— Зусім проста. Кіяхі абломім, а каліўе машынамі збярэм. Ураджай зерня пакажа, хто ў звяне пераможца.

Сяброўкі стараюцца адна перад другой. Яны тройчы прапалолі кукурузу, двойчы падкармілі яе, уздоўж і ўпоперак апрацавалі міжрадкоўі. Рабілі ўсё, што прадугледжана агратэхнічнымі мерапрыемствамі, якія звяно распрацавала з дапамогай калгаснага агранома.

...Нібы малады густы лес, зялёнай сцяной стаіць кукуруза на дзесятках гектараў, і палявая дарога ў ёй здаецца цяпер вузкай сцяжынкай. Па гэтай дарозе звяно часта вяртаецца з поля. Ідучы са жніва, дзяўчаты любуюцца пасевамі. Гонкія, шыракалістыя сцяблы велічна гойдаюцца пад лёгкім подыхам ветрыку, прыветна калышучы мяцёлкамі. Дзяўчаты ўпэўнены, што на палетках выспее кукуруза — яе залатым зернем напоўняцца калгасныя засекі.

**Калгас імя Молатава Хойніцкага раёна.**

# Алімпа

Антон **АЛЕШКА**

Апавяданне



Мал. Е. Ціхановіча.

У мыцельніку завіхалася маладая гаспадыня. Вадою з конаўкі аблівала каштанавую скарынку чатырох толькі што спечаных боханаў хлеба, накрывала іх абрусам. Густы пах свежага хлеба запоўніў мыцельнік. Гаспадыня адкасала рукавы і зірнула на хату. На падаконнік падала поўдзённае сонца, іскрылася ў кавалку люстэрка, якое ляжала на акне. З-за кваяцістай шырмы даносілася працяглае храпенне.

Гаспадыня глянула ў акно, рогам хусткі выцерла вочы.

«Усе мужчыны ідуць на работу, а мой»... — падумала яна, убачыўшы на вуліцы калгаснікаў.

— Мікалай, уставай!

— Га-а?

— Уставай, кажу!..

У адказ зноў пачуўся працяглы свіст і храп.

— А божа, божа! І што робіцца ў хаце? Усе людзі, як людзі, а ты... — і гаспадыня рашуча адкінула шырму.

— Мікалай! Апошні раз табе кажу...

На ложку, распараны гарачынёй, чырвоны, як рак, смачна спаў гаспадар хаты. На вокліч жонкі ён усхапіўся:

— Чаго ты, Алімпа?

— Чаго? На работу ідзі!

— Я думаў, загарэлася што, а яна... на работу... — і ўскудлачанай галавою Мікалай зноў крануўся падушкі.

— Ляжыць, як хворы... А ты-ж поўны сіл, здаровы, — не сунімалася Алімпа, перастаўляючы вілкі і качэргі. — Як вазьму зараз чапялу, то скора ўстанеш...

— От назола! — і Мікалай сеў. Дастаў нагамі падлогу. Паскроб патыліцу, нездаволена паморшчыўся.

Твар яго прадаўгаваты, не голены, здавалася, зарос мохам. З-пад кудлатых брывей пазіралі заспаныя шэрыя вочы, а ўся постаць выражала найвялікшую ляноту.

Алімпа падмяла падлогу, махрастым настольнікам накрыла стол.

— І як я магла за такога гультая пайсці замуж? Дзе толькі былі мае вочы? — сама сабе ўголас запыталася яна. Ад гэтых слоў Мікалай, як пружына, у адзін момант выпрастаўся. Надзеў боты, апрануўся. Рабіў усё так хутка і зладжана, што нават здзівіў жонку.

— Пагаліся, а то зарос, як тая ялавіна, — параіла Алімпа.

— То крычыш на работу, а гэта раптам гаворыш пагаліцца, — развёўшы рукамі, сказаў Мікалай, стоячы сярод хаты. Ён дакрануўся пальцамі да ружовай шчакі. — Барада пачакае... Ты гаруеш, што выйшла за мяне замуж... Дык калі ласка... — ён абвёў рукою круг на палову хаты, — свет вялікі і ніхто цябе не трымае тут... — Бразнуў клямкай дзвярэй, грукнуў нечым у сенцах і, ссутулены, нахмураны, падаўся на вуліцу.

Алімпа ўздыхнула і села на лаву. Нутро калацілася ад такіх адносін мужа да работы, да яе самой... А быў-жа час, калі яны жылі, здавалася, душа ў душу. Потым Мікалай здружыўся з Канцавым Апанасам. У таго сястра працавала ў магазіне ў абласным горадзе. Апанас чамаданамі прывозіў ад яе шарсцяныя тавары. У сваім горадзе перапрадаваў, атрымоўваючы ад гэтага вялікія барышы. На дапамогу сабе ўзяў Мікалая. Але ў хуткім часе Апанас папаўся, а з ім і яго сястра.

«Апанас хітры быў і то... Мой задзержаўся на валаску і няхай не забывае на добрых людзей», — думала Алімпа.

Так разважаючы сама з сабою, яна крыху супакоілася, але ўсё яшчэ хмурная сядзела, склаўшы рукі. Па вуліцы зноў прайшлі на работу мужчыны, жанчкі. Ад іх аддзяліўся і звярнуў у яе двор брыгадзір Рыгор.

Алімпа ўсхапілася, зірнула ў люстэрка, папраўіла пад хусткай валасы і пайшла на двор.

Рыгор тым часам стукаў у акно.

— Добры дзень, Алімпа! — прывітаўся ён, калі дзверы сянец адчыніліся. — Дзе Мікалай?

Рыгор узіраўся ў чысты, прыгожы твар Алімпы, і ад гэтага яна пачырванела.

— Хлеб пякла. У хаце вельмі горача, — апраўдвалася жанчына, захіляючыся хвартухом.

Рыгор — хлопец сярэдняга росту, статны, акуратна адзеты, чыста паголены. Ён бліснуў чарнатою вачэй у сенцы:

— Спіць Мікалай?

— Што ты! Даўно на работу пайшоў..

Рыгор адступіў на крок назад, кіўнуў галавой, нібы прасіў прабачэння за сваё пытанне. На яго прыгожых губах прытаілася ледзь прыкметная ўсмешка.

— А ты ідзеш на работу?

— Адно печ зачыню і пайду.

Рыгор вышаў з двара і накіраваўся да Макара, што жыў па другі бок вуліцы. Алімпа плячыма тулілася да вушака дзвярэй і пазірала ўслед Рыгору.

Неўзабаве яна пайшла на работу. У канцы вуліцы напаткала дзяўчат, якія затрымаліся каля хоцькавага гародчыка. Чакалі таварышку. Ад гурту дзяўчат аддзялілася Алена і падыйшла да Алімпы.

— Мая ты любая, добры дзень. Як жывеш?

Алімпа спахмурнела крышку, але весела адказала:

— Добра жыву... Як той казаў, што мяне дзеці абселі, ці што?

Яны крочылі па сухой бялявай дарозе ў поле. Вецер нёс адтуль пах папару і завялай кукурузы.

— Гараська мой паднаўляць хату наважыў, — сказала Алена.— Работы — не відно канца.

— Гараська чалавек!

— А твой чалавек хіба дрэнны? — зірнула Алена на Алімпу.

Алімпа паскорыла крок. Другі раз яна не сказала-б ні аднаго слова на гэтую тэму, а зараз Алена кранула яе сэрца сваім спачуваннем.

— І што ў яго галаве робіцца — не разбяру. Надумаўся ўзяць новы ўчастак каля кузні. Паставім, кажа, новую хату, «масквіча» купім. Чула ты такое?

Бровы Алены ўзняліся:

— Дык добра-ж!

— А за што ўсё прыдбаць? Колькі ён мае працадзён? У спекуляцыю пайшоў, і ледзь не сеў разам з Апанасам. Гэтак грошай не заробіш.

— Але, мая любая.

— Колькі ўгаварвала, раіла. Упёрся, як вол, і маўчыць, — голас Алімпы абарваўся. Алена падтрымала Алімпу пад гарачы локаць.

— Не бядуй. Усё ўладкуецца, будзе добра.

Маладзіцы памаўчалі. Кожная думала аб сваім. Павярнулі на кукурузны палетак. Пад нагамі зашапацела жоўтае, высахлае лісце кукурузы.

Хлопцы і дзяўчаты валілі кукурузу высокую, як лес. Чуўся гоман, смех...

Сярод поля на дошцы з ножкамі, падобнай да школьнай, быў прымацаваны лісток з яркім надпісам «Маланка».

Жанчыны падыйшлі да яго. Пачалі чытаць. Лісток дзяліўся на тры часткі. У першай былі напісаны задачы дня, у другой значыліся выдатнікі, а ў трэцяй Алімпа знайшла імя мужа. Паказала Алене.

Зрабілася ніякавата ад таго, што яна адчувала на сабе цікаўныя позіркі суседзяў і без слоў іх разумела.

— Мы зараз пакажам, мая любая, як трэба працаваць, — галасна сказала Алена.

Мікалай выйшаў на вуліцу. Ён не ведаў, куды ісці, але крочыў хутка, абы далей ад дому, ад вострых слоў жонкі. Сцепаў левым плячом, нібы што мулкае на ім ляжала, варушыў вуснамі.

«Прычапілася так, што і дыхнуць не дае. На работу, ды на работу. Ад работы коні дохнуць», — разважаў Мікалай, апынуўшыся на другім канцы вуліцы, і нечакана сустрэўся з сакратаром калгаснай партарганізацыі Карачуном.

— Добры дзень, таварыш Кот! — прывітаўся Карачун. Яго цёмныя жывыя вочы ўважліва ўглядаліся ў твар Мікалая.

Мікалай спыніўся, выняў рукі з кішэнь, як гэта рабіў нядаўна перад камандзірам аддзялення.

— На работу? — запытаўся Карачун.

У Мікалая перасохла ў горле. Ён не паспеў вымавіць і слова, як Карачун зноў загаварыў:

— Ты, бачу, спяшаешся. Не буду затрымліваць. Ідзі, таварыш Кот. Усе даўно пайшлі.

Мікалай вышаў за сяло.

«От гэта дык пад'ехаў», — падумаў ён і нехаця падаўся да сіласных ям. Прызнацца, Мікалай недалюбліваў і нават баяўся Карачуна за тое, што той усё ведаў, усё бачыў. Ты толькі падумаў, яшчэ не зрабіў, а Карачун ужо выкладае: так і так...

Каля сіласных ям за кароўнікам многа моладзі. Пара коней ходзіць па кругу і чуваць глуха: чах-чах, чах-чах!..

Мікалай падышоў да свежавыкапанай ямы і спыніўся.

Першым яго заўважыў Хоцькаў Кузьма.

— У Налібоцкай пушчы сёння воўк здох, — сур'ёзна сказаў ён.

— Чаму? — запытаўся Якуб Зарэчны.

— Кот на работу прыйшоў, — гэтак-жа сур'ёзна адказаў Кузьма.

— Ха-ха-ха! — зарагаталі хлопцы.

Мікалай нахмурыўся. Кузьма тым часам падаў з ямы сякеру.

— Кот, абсячы там аполак і падай сюды, — сказаў ён.

Мікалай узяў сякеру, абсек два аполкі і падаў Кузьме.

— Табе абы скаліць зубы.

Якуб Зарэчны жвава хадзіў па рыштаванні, браў з рук хлопцаў вёдры з цэментам і мураваў сцяну.

— Мы тут цябе даўно чакалі, — затрымаў ён позірк на Мікалаю. — Амелька прыходзіў надоечы. Таварыш па аддзяленню прыслаў пісьмо.

Мікалай навастрыў вуха.

— А дзе Амелька?

— Не быў у цябе? — запытаўся Кузьма. — У нас толькі ты і ён у цяньку ходзіце... Падай яшчэ дошку...

Кузьма, Якуб і Мікалай аднагодкі. Служылі ў адной часці, толькі ў розных падраздзяленнях. Разам прызываліся, разам дамоў прыехалі. Хоцькаў Кузьма ўжо даўно ўзначальваў комсамольскую будаўнічую брыгаду, Зарэчны працаваў на ферме. Толькі Мікалай ніяк не мог знайсці сабе адпаведнага занятку. І зараз, агледзеўшыся і ўпэўніўшыся, што Карачуна тут блізка няма, Мікалай сказаў:

— Я пайду...

— Ты нам усё-такі дапамог, — уедліва сказаў Зарэчны.

— Заўтра-ж глядзі прыходзь, — гукнуў Кузьма.

І будаўнікі зноў засмяяліся.

На Мікалая нібы кіпнем лінулі. Ён аж падскочыў на месцы. Сунуў рукі ў кішэні, потым хутка выняў. Ступіў крок убок.

— Ты на сябе глядзі, — і, вылаяўшыся, хутка пайшоў.

Каля сваіх варот ён сустрэў Амельку.

Калі Алімпа прыйшла з поля, то застала Мікалая з Амелькам дома. Яны сядзелі за сталом і па ўсім відно было, што выпілі.

— Ішоў да брата і сустрэў Мікалая. Ну, як не зайсці? — нібы апраўдваўся Амелька.

— Ты быў на рабоце? — спыталася Алімпа ў Мікалая.

— А як-жа. А што?

— Заходзіў Рыгор.

— Што мне Рыгор? От прыслаў дружок пісьмо, у шахты да сябе запрашвае. Паедзем вось з Амелькам...

— Ехаць за блізкі свет, не маючы там ні кала, ні двара, — разважала Алімпа. — Добра твайму дружбаку. Ён дома. А дома і вуглы памагаюць. Няўжо вам тут абрыдла? Калгас перажыў самае цяжкае, моцна стаў на ногі. Мы сёлета авансам атрымалі грошай столькі, што раней за тры гады не выходзіла гэтулькі.

— Мы не ўцякаем з калгаса, але чаму не паехаць, ды не падзарабіць так тысяч па дзесяць на свае патрэбы? — даводзіў Амелька.

— Што дзесяць? Больш — па дваццаць тысяч, — паціраючы рукі, удакладніў Мікалай. — Трымайся, Алімпа!

Вочы яго загарэліся. Прыгорбленая постаць выяўляла найвялікшую прагавітасць да грошай. Рукі загнуліся каўшамі, дробна дрыжалі. Гэта адразу заўважыла Алімпа.

— А ў нас хіба няможна зарабіць? Глянь ты на нашага Макара. Працуе сабе на ферме і ўжо пэўна, жанкі казалі, дзесяць тысяч зарабіў. А колькі ў яго будзе да канца года? Выходзіць, не ў яздзе справа. Трэба толькі сумленна працаваць, то не менш і ў нас заробіш, — сказала Алімпа і пачала завіхацца ля печы.

Амелька надзьмуўся, з хвіліну ўзважваў, што сказала Алімпа, а потым зірнуў у твар Мікалая.

— Кот, нам Макар не прыклад. У яго сям'я вялікая... ды і, акрамя ўсяго, ён жабаед. Усе нашы працадні пабраў.

Алімпа грукнула чыгуном па прыпечку.

— Брыдка так гаварыць. Ён дзень у дзень ідзе на работу!

На словы Алімпы Амелька ўсміхнуўся і падміргнуў Мікалаю. А калі жанчына ўзяла вядро і выйшла ў сенцы, Мікалай папрасіў:

— Ты ёй больш нічога не гавары. Кідаецца, як аса!

Яны выйшлі з хаты. Амелька закурыў і сказаў:

— Да восені ў брыгадзе пабуду, а там, магчыма, у эмтээс падамся.

Мікалай пазіраў на агеньчык папяросы Амелькі і думаў, што яму рабіць. Успомніліся часы службы ў арміі. Хлопцы з яго падраздзялення вучыліся хто на курсах шафёраў, хто на курсах радыстаў, а некаторыя ў вучылішча паступілі. Не шукалі, дзе лягчэй, а ішлі, дзе цяжэй, дзе патрабавалася смеласць і спрыт, розум і сіла. За гады службы яны набылі спецыяльнасці, павысілі кваліфікацыю і, зразумела, такіх людзей цяпер у калгасе на руках носяць. А Мікалай тады ўсё ў бок, ды ў бок. Сходзіць у каравул, пачысціць аўтамат і цэлыя суткі адпачывае. Лёгка і добра было служыць. А што цяпер рабіць? Задумаўся Мікалай. Амелька, як адгадаў яго думкі.

— Трэба набываць спецыяльнасць. Цяпер усюды тэхніка.

— Яно та так, — няпэўна сказаў Мікалай.

Мужчыны развіталіся каля варот. Мікалай абапёрся на слупок каліткі, пазіраў у цемру вуліцы. Яму хацелася некуды ісці, нечага шукаць. А чаго, ён і сам не ведаў, ведаў толькі, што трэба неяк зарабіць тысяч дваццаць грошай. І не, канешне, надрывацца на рабоце. Умеюць-жа людзі па капейцы зарабіць дзесятку. І злодзеямі ніхто іх не лічыць.

Непрыкметна бег час.

Лісце на дрэвах пажаўцела і апала. Хутка ўдарыў мароз. Усталявалася зіма з добрай саннай дарогай. Калгаснікі брыгадамі ездзілі ў лес. Аднаго разу, калі ўсе вярнуліся з лесу, быў агульны сход.

Сакратар партарганізацыі Карачун расказаў калгаснікам, што днямі ў Маскве адбыўся Пленум ЦК нашай партыі. Разглядалася пытанне сельскай гаспадаркі. Партыя і ўрад вырашылі ўзняць ураджайныя цалінныя землі Казахстана, Сібіры. Паведаміў, што ў Маскве адбылася сустрэча добраахвотнікаў з кіраўнікамі партыі і ўрада і што першыя эшалоны навасёлаў ужо выехалі на асваенне новых зямель. У канцы даклада спытаўся, хто з комсамольцаў калгаса адгукнецца на заклік партыі.

У клубе стаяла цішыня. Паведамленне было незвычайным. Усе задумаліся. Потым па адным пасыпаліся пытанні, а праз некаторы час ужо расказвалі, што з Навасёлкаўскай МТС падручылася ехаць цэлая брыгада з трактарамі, сеялкамі і камбайнамі.

— Навошта ім браць свае машыны? На цаліне, браце мой, новыя машыны атрымаюць.

— Добра кажа, але...

І сход загаманіў.

Знайшліся добраахвотнікі-комсамольцы. Спачатку сем, а потым спіс дайшоў да дванаццаці. А ка-





лі выступіў камсамолец Язэп Стручок, сам запісаўся і заклікаў другіх — запісалася яшчэ гэтулькі.

Гараська сядзеў каля акна задумліва, паціраў рукі. Думаў ён аб чымсьці трудным, бо на ілбе густа выступіў пот. Затым нахіліўся да Хоцькавага Кузьмы, да Зарэчнага, крануў плячо Мікалая.

— Як думаеце, хлопцы? — запытаўся ён.

Мікалай спачатку ўвабраў галаву ў каўнер поўкажушка, а потым, зірнуўшы на Кузьму, які штосьці шаптаў на вуха Гараську, выпрастаўся. Азірнуўся назад, паглядзеў на Амельку.

— Як думаеш ты? — запытаўся ён.

— Я думаю, што можна ехаць.

— Уставай, гавары, — штурхалі Гараську засаб чатыры рукі.

У наступіўшай цішыні пачуўся голас Гараські:

— Тут выступалі і запісваліся камсамольцы. А мне можна запісацца?

— Хто там гаворыць? — устаў Карачун. — А-а, гэта Гараська...

— Гавару я, Зарэчны, і другія. Гаворыць і Кот Мікалай...

Пакуль Гараська гаварыў пра сябе і другіх, яго слухалі, але калі ў канцы ўпамянуў Мікалая, у зале засмяяліся. Гараська не зразумеў, у чым справа, пакрыўдзіўся, падняў руку і пайшоў на сцэну.

Артур ВОЛЬСКІ

## Горад мой — карабель

Хоць даўно развітаўся
са службай марской
і ў цывільным хаджу гарнітуры, —
горад мой! —
уяўляю цябе я парой
караблём, што адольвае буры.

Быццам той карабель
да шчаслівых зямель,
ты плывеш праз гадоў акіяны.
Аж да самых нябёс,
аж да сонца ты ўзнёс
свае мачты — пад'ёмныя краны.
Колькі бур адышло,
адгуло за кармой,
колькі гора зазнаць давялося!..
Але сонца ізноў усплыло над табой
у аправе жытнёвых калоссяў.

Ледзьве раніца выплесне вымпел зары
і на вуліцы промнямі ляжа, —
зноў на вахту бягуць
цесляры, муляры —
радавыя твайго экіпажа.
Я таксама ў тваім экіпажы — матрос
без высокіх адзнак на пагонах.
Лёс майго карабля —
гэта ўласны мой лёс;
быць на вахце —
вышэйшы мой гонар.

Хоць даўно развітаўся
са службай марской
і ў цывільным хаджу гарнітуры, —
горад мой! —
уяўляю цябе я парой
караблём, што адольвае буры.

— Канешне, лепш за ўсіх тут выступаў і гаварыў Язэп. Ён нам добра расказаў пра патрыятызм камсамола, ну, гэтак і далей... Я з ім згодзен. Усім вядома, што я не камсамолец, а скажу і старым, і маладым, што па заклiку нашай партыі я ў сорак другім годзе пайшоў у партызанскі атрад, будучы піонерам. Ваяваў з немцамі аж пакуль не прышлі нашы. А колькі мне было год? Чаго глядзіш, Язэп? Ты тады ў пялёнках яшчэ ляжаў. Ну, дык вось... Цяпер я не магу не адгукнуцца на заклік нашай партыі. Паеду на цалінныя землі і застануся там жыць. Гэтак-жа думаюць зрабіць мае таварышы, і ў тым ліку Кот, — паказаў Гараська на Мікалая. — Думаю, нас запішаце? — звярнуўся ён да парторга.

— То гэта ты... Мы цябе ведаем... А вось Кот няхай скажа.



Мікалай расшпіліў поўкажушок, устаў з месца.

— Я таксама думаю паехаць жыць, — пачаў ён. Нехта на задніх лаўках зашаптаўся. На яго адразу насварыліся, і ў зале ўсталявалася цішыня.

— Гараська правільна ўсё сказаў. А што я гаварыць не магу гладка, то мне даруеце. І Амелька пацвердзіць мае словы,—скончыў ён і сеў. Сэрца яго моцна білася, дрыжалі рукі, твар гарэў.

Усе калгаснікі неяк па-іншаму паглядзелі на Мікалая. Здаўся ён зусім не такім, як быў раней, а нейкім новым...

У клубе чулася роўная гамонка. Увесь зал раздзяліўся на некалькі купак. Каля сцэны ўсе сядзелі ў кружок, а ў цэнтры стаяў Язэп Стручок. Каля дзвярэй сабраліся старыя. Пасярэдзіне залы стаяў Гараська без шапкі, ён расказваў мужчынам, што акружылі яго: — Там, браце, поле роўнае, як стол. Адным словам, стэп. Зямля чорная, як вугаль. Там родзіць і-і... Гэта-ж калі засееш тую зямлю — увярэдзішся жаць. Хопіць збожжа і сабе, і жывёле. Мой швагер быў там у вайну. Я, браткі, ад яго наслухаўся...

Доўга гаманілі людзі ў клубе, на вуліцы, каля весніц і па хатах. Баявы кліч партыі ўзварушыў людзей, знайшоў жывы водгук сярод усіх калгаснікаў. За поўнач сядзеў Гараська ў хаце Мікалая.

— Жанок адразу не будзем браць. Потым забярэм, — канчаткова парашыў Гараська. — Так будзе разумна...

— Але, — згадзіўся Мікалай. Ён нахмурыўся, прайшоў па хаце, нібы чаго шукаў на падлозе. Крута павярнуўся да Гараські і зірнуў на яго струкаватую галаву.

«Не дрэнна выдумаў, — прыкідваў Мікалай. — Там можна будзе пад агульны шум знайсці цёплае месца». Ён задаволена пацёр рукі, і на момант яму здалося, што ў яго прыгаршчах завяліся грошы. Радасная ўсмешка расплылася па твару.

І Гараська быў задаволены, пазіраючы на Мікалая. «Нарэшце, — думаў ён, — знайшоў чалавек свой шлях у жыцці».

— А нам з тваёй Аленай дзе быць? — лежачы на ложку, незадаволена запыталася Алімпа.

— Рабіце ў калгасе, а мы абжывемся там і прыедзем. Возьмем вас туды...

Алімпа ўтрапёна пазірала на мужа і бачыла, што з ім адбыліся перамены. Знікла абыякавасць да акаляючага і да самога сябе. Не было цяпер у ім ранейшай ваўкаватасці і маўклівасці. Ад гэтага на душы Алімпы стала крыху цяплей.

У думках яна перанеслася ў далёкі стэп поўночнага Казахстана. Уяўляўся ён ёй, як самы большы роўны палетак першай брыгады, што ляжаў за крыніцай. На даляглядзе нават сінела зубчатка лесу.

— Рабіце, як ведаеце, — уздыхнуўшы, сказала яна.

— Маладзец, Алімпа! — з радасцю сказаў Гараська і, падышоўшы да ложка, пастукаў Алімпу далонню па плячы. — З такой кабетай, Мікалай, не прападзеш. Ну, я пайду...

Неўзабаве ўся «Перамога» праводзіла першых добраахвотнікаў далёка за вёску, да самай крыніцы. Дзень быў сонечны і на бялюткім снезе, як кветкі маку, цвілі дзяўчаты і кабеты ў лепшым святочным убранні. Алімпа з Аленай і яшчэ многа мужчын паехалі ў горад на станцыю. Вярнуліся дамоў позна. Алімпа лягла



**На Мінскім станкабудаўнічым заводзе імя Варашылава створаны новы унікальны кромкаstругальны станок «МС-7» высокай прадукцыйнасці. Вага яго — 360 тон. Станок «МС-7» з'явіцца пачатковым звяном упершыню спраектаванага завода-аўтамата па вытворчасці стальных труб вялікага дыяметра.**

На здымку: **група маладых інжынераў, якія ўзначальвалі стварэнне новага станка-** (справа налева) **вядучы канструктар Ю. Татараў, вядучы электрык Э. Румволь і начальнік зборкі С. Ніс;** злева — **агульны выгляд станка «МС-7».**

Фото А. Дзітлава.





У ясным блакіце неба бязгучна плывуць крылатыя птушкі. Яны апісваюць адзін, другі круг над лесам, робяць некалькі адмысловых фігур і плаўна ідуць на пасадку. Гэта вылецелі на чарговую трэніроўку планерысты-спартсмены Гомельскага абласнога аэраклуба імя Цыялкоўскага. Кожны год Гомельскі аэраклуб рыхтуе дзесяткі лётчыкаў-спертсменаў, планерыстаў, майстроў парашутнай справы. Маладыя рабочыя, служачыя, вучні без адрыву ад работы і вучобы набываюць цікавыя прафесіі, становяцца гаспадарамі паветраных прастораў. На здымках: (унізе) інструктар планернага спорту, лётчык-планерыст Андрэй Кузьміч Каласоўскі праводзіць з групай планерыстаў заняткі; (злева) вучаніца 10 класа 27-й школы комсамолка Святлана Расошка перад чарговым палётам на самалёце.

Фото М. Мінковіча.



спаць, не запальваючы лямпы. Сніліся ёй прыгожыя краявіды далёкага стэпу з многагалосым птушыным шчэбетам.

Ішлі дні за днямі. Мінавала зіма. Прышло цяпло. Аднойчы вечарам Алімпу дагнала на вуліцы Алена.

— Мая ты любая, даўно цябе бачыла, — радасна прывіталася яна і паказала пісьмо. — Гараська прыслаў. Жывуць там яны добра. Работы, кажа, многа. Ну, што-ж! Мой, ведаеш, на камбайнера вучыцца.

Алімпа слухала Алену, а нутро яе трапяталася і халадзела. Яна ведала, што і другія атрымалі пісьмы з цаліны. Людзі голасна чыталі іх суседзям, радаваліся. Адна яна не атрымала весткі ад Мікалая.

— Там, гавораць, любая мая, людзей наехала адусюль. І ўсе спецыялісты. Майму Гараську цяжкавата, ведаю я, хоць ён нічога не кажа. А як твой Мікалай?

— І ён недзе пнецца, — уздыхнуўшы, адказала Алімпа.

— А я і рада, што мой паехаў. Абатрэцца, мая любая, сярод масцеравых людзей. Чалавекам стане.

Прышла Алімпа дамоў, упала на ложак. Мачыла слязамі падушку ад цяжкай крыўды на мужа, які паехаў і нічога не піса, не хацеў з ёю падзяліцца сваімі думкамі, расказаць пра поспехі і цяжкасці. Нічога ў яе не пытаўся, нібы яе няма ў яго.

«Чалавек такі, — думала яна, кусаючы ніжнюю губу. — Там, мусіць, людзі смяюцца»...

Круглыя плечы ўздрыгвалі, пакудлачаныя валасы рассыпаліся на падушцы. Доўга плакала Алімпа. Ні разу ў жыцці ёй не было так горна. Твар пачырванеў і нават апух. І калі яна супакоілася, устала і падышла да люстэрка, дык не пазнала сябе.

«А можа ён хворы, а я, дурная, выдумляю нямаведама што, — задумалася Алімпа. — Але каб быў ён хворы, то людзі за яго напісалі-б»...

На вуліцы паказаўся Рыгор. Ён клікаў кагосьці, махаў рукою. Да яго пайшоў Макар з ужышчам у руках. Рыгор усміхнуўся і, як здалося Алімпе, зірнуў на яе хату. Алімпа адышла ад акна, не хацела, каб ён такую яе ўбачыў. А калі мужчыны пайшлі ў канец вёскі, прыпала тварам да халоднай шыбы і не зводзіла вачэй з постаці Рыгора.

Зусім нядаўна, як Алімпа гуляла дзяўчынай, да яе прыглядаліся хлопцы. Рыгор таксама часта сустракаўся, любіў з ёю пасядзець, спакойна, доўга расказваў пра Мурманск, у якім ён служыў у арміі. Тыя вечары засталіся ў памяці Алімпы. Чамусьці цяпер часта яны ўспаміналіся ёй.

А ўвосень з арміі вярнуўся Мікалай Кот. Не гаманіў доўга. Сустрэў раз-другі і — вяселле. Цяжка цяпер зразумець, чаму так здарылася. І Рыгор быў на вяселлі. Але ён нейк стараўся быць далей ад яе. Глянуўшы на яго збоку, можна было падумаць, што ён у чымсьці вінаваты.

Не першы ўжо раз Алімпа вінавaціла сябе за дзявочую блізарукасць і неперабoрлівасць, за жыццёвую неспрактыкаванасць.

А далей так і было. Не пісаў Мікалай, не пісала і Алімпа. Родныя і блізкія паехаўшых атрымлівалі пісьмы, а Алена прынесла з пошты нават пасылку. І яна першая разбурыла сцяну здагадак Алімпы наконт мужа. Забегла ў хату, палажыла на стол пісьмо.

— Ад Мікалая няма пісьма?

— Няма...

— Ну, дык слухай, мая любая, што я табе раскажу. Гараська кажа, што Мікалая з імі няма. І быў ён там нядоўга. Злёгся з



якімсьці прайдзісветам і падаліся яны з соўгаса ў горад Кустанай. Уцяклі золата здабываць. Просіць Гараська нікому не гаварыць. А хіба я магу перад табою маўчаць?

Алімпа сама прачытала пісьмо Гараські. Так яно і ёсць. Алена пераказала правільна, нічога не ўтаіла.

— Я не думала... — вырвалася ў Алімпы, а з дрыжачых рук выпала пісьмо.

— Скруціўся ён у цябе. А хто мог падумаць на такую рахманіцу, мая любая!

Алена бедавала на ўсю хату. Алімпа пабляднела толькі і, сцяўшы вусны, маўчала. Вочы зацягнуў туман. Яна пасядзела некалькі хвілін нерухома, потым падышла да акна і сама сабе сказала:

— Прапашчы чалавек. А я ўсё ўшчувала, цягнула. Хацелася, каб ад яго карысць была...

— А я, мая любая, думаю, што ён нідзе не дзенецца. Пакруціцца трохі і будзе дома, — лагодна загаварыла Алена.

— На пасмешышча людзям? — скрозь зубы запыталася Алімпа.

— Пасмяюцца людзі, то другі раз не зробіць гэтак, — сказала Алена і, развітаўшыся, выйшла з хаты.

Алімпа саромелася людзей. Ёй здавалася, што ў калгасе ўсе ведаюць пра Мікалая і з цікавасцю сочаць за ёю. Яшчэ не многа ёсць людзей, якія праўдзіва ацэньваюць факты, разглядаючы іх з усіх бакоў. Раз Мікалай не піша нічога, значыць, пакінуў яе. А раз пакінуў, то дрэнная жонка. Пакуль што харошых не пакідаюць.

Алімпу ўсё кратала і раздражняла. Каб зусім забыцца на ўсё, яна яшчэ з большай настойлівасцю ўзялася за работу. Ласкавы ветрык, веснавое сонца і шырознае поле, на якім працавала многа калгаснікаў, зрабілі сваё. Алімпа загарэла да чарнаты, а сінява прыгожых вачэй пад тонкімі палоскамі брывей згусцілася, набыла яшчэ больш прывабнасці. Яна выпрасталася, зрабілася стрэйнейшай. Цяпер, калі людзі вярталіся з поля дадому, чуўся яе высокі, чысты голас:

«Ой, пайду я лугам, лугам»...

— Алімпа Мікалая гукае, мая любая, — заўважала Алена.

— На чорта ёй Мікалай. Лямец, а не чалавек, — гаварыла суседка Алены.

— Ну, хай сабе ён уцёк з цаліны, але скажы, мая любая, чаму ён жонцы не піша? Аніводнага слоўца...

— Ускруціўся ды годзе... А мо' палез у чужое, то пасадзілі. І гэта пэўна!

І ўсе, хто гаварыў пра Мікалая, асуджалі яго. Алімпу шкадавалі, спачувалі ёй. Алімпа пачула абурылася:

— Я не зломак сама. У мяне ёсць рукі, галава. Я сабе зараблю і хлеба і к хлебу. Не турбуйцеся, жанкі...

Восень удалася багатая і радасная. І многа падзей было ў калгасе. Той ажаніўся, там дзяўчыну аддалі замуж у суседні калгас. У «Перамозе» радавыя калгаснікі купілі тры матацыклы, а адзін — «масквіча». Марцінава Фёкла нарадзіла двойню. Але ўсе падзеі адышлі на задні план, калі аднойчы на таксі ў вёску прыехалі Гараська, Якуб Зарэчны і Кузьма Хоцькаў.

Гараська быў у новай шапцы з высокім аколышкам і ў чорным скураным паліто з рыжым каўнярoм. Гараська быў гладкі, абветраны і вельмі падобны на палярнага лётчыка, толькі замест унтаў на ім былі чаравікі з галёшамі. Якуб вышаў з машыны ў прыгожай футравай бравэрцы і ў шырокім сінім галіфе. Боты на ім хромавыя, халявы гармонікам. А Хоцькавага Кузьму не пазналі ў «Перамозе». Ён стаяў на вуліцы ў новым чорным паліто і каракулевай шапцы-кубанцы.

Усе ўтрох атрымалі водпуск і прыехалі забіраць сваіх жанок.

У той-жа вечар Гараська расказваў суседзям:

— Наш соўгас мае сорак тысяч гектараў. Сёлета падняліі цаліны чатырнаццаць тысяч. І сёння хлопцы робяць на полі. Вясной пасеялі яравой пшаніцы пяць тысяч. Ураджай, браткі, такі, што не паверыце!

— А дзе ты жыў? Куды ты павязеш сваю Алену? — запыталіся жанчыны.

— Спачатку жылі ў вагончыках на калёсах, а некаторыя ў палатках. Потым сталі хаты будаваць. Сядзіба соўгаса ў прыгожым месцы. Тут от так рака ўецца, — паказваў Гараська рукою, — а там — возера. Качак на ім цэлыя хмары. Мы сваю вуліцу ад цэнтра на поўдзень прабілі. Так і назвалі — Беларуская. Мне і Якубу адна хата на дваіх. Яго ганак на поўнач, мой — на поўдзень. Я маю два пакоі і кухню. Гэтак-жа і ён. Я — камбайнер і трактарыст. У нас кожны мае некалькі спецыяльнасцей. Забяру туды Алену — шафёрам будзе.

— Ці бачыў ты! — дзівіліся суседкі.

Доўга гаварылі ў хаце Гараські. А калі ўсё перагаварылі і змоўклі, нехта запытаўся:

— А дзе-ж Кот Мікалай?

Гараська закурыў, махнуў рукою.

— Уцёк, знайшоў сабе напарніка, адным словам, аднадумца, і толькі тры дні пабыў у соўгасе. Падаўся доўгага рубля шукаць на капальнях золата.

Гараська памаўчаў, а потым дадаў:

— Канешне, можна вялікія грошы зарабіць і на капальнях золата. Мы-ж з «Перамогі» выехалі па закліку партыі на вялікую справу. На ўсіх станцыях наш эшалон віталі, нам верылі. Можна сказаць, мы першыя прыехалі ў стэп. А от з Мікалаем я ашукаўся! Не думаў, што ён такі прагны да грошай. Прыкмячаў раней за ім такое, але думалася, што баявая задача выб'е з яго гніль. Моладзь, камсамольцы на-

шы, ведаеце, як узяліся за работу! А з Мікалая нічога не атрымалася.

І ўсім стала непрыемна. Гараська прайшоў па хаце, адчуваючы віну ў тым, што так атрымалася, памаўчаў:

— Часам бывае так, — пачаў ён. — Нічога, браткі, не папішаш. Нават калі сталь варэць, дык і то на паверхні яе фуз плыве. От як!

Навасельцы ў «Перамозе» доўга не забавіліся. Праз тыдзень Алімпа праводзіла Алену, пазірала на Якуба Зарэчнага, на Кузьму Хоцькавага, што ўладкоўвалі свае рэчы на машыне, на іх жонак, і нешта засцілала ёй вочы.



Загудзеў матор. Прасігналіла машына. Людзі пачалі разыходзіцца, а Алімпа ўсё стаяла.

— Ты плачаш? — пачула яна пытанне Рыгора. Крокі набліжаліся. Ён узяўся за гарачую руку Алімпы. — Кінь! Не трэба плакаць!

— Табе здаецца, не трэба плакаць? — запыталася Алімпа, выціраючы вочы.

Каля іх, у канцы сяла, ужо нікога не было. Алімпа глянула на дарогу, у далечы якой пыліла машына, абаперлася на руку Рыгора.

— Прыду адна дамоў і хоць скачы па хаце ўсю ноч. Бывала, Алена прыходзіла, а цяпер... Пуста і нават страшна, — і Алімпа спаткала даверлівы бляск чорных вачэй.

— Не ведаў, што ты ноччу адна баішся. А то-б учора напалохаў.

— Ты ішоў па двары?

— Я...

— Цяпер я не буду баяцца.

— Я праверу, — усміхнуўся Рыгор. — Сёння ў клубе танцы. Прыходзь.

І яны развіталіся.

Алімпа павячэрала, пасядзела адна, занятая одумам, а потым пайшла ў клуб. Моладзі там — не прабіцца. Стала Алімпа каля дзвярэй і доўга вачыма шукала Рыгора. Не знайшла. Ну, і добра. Вельмі ён патрэбны! Яна нават рада была, што яго тут не было. Загаварылася з дзяўчатамі, смялялася, танцавала і так добра сябе адчувала, што нават не прыкмеціла, як заспявалі пеўні.

— Пеўні заспалі сёння, — смяяліся хлопцы і дзяўчаты, пазіраючы на гадзіннікі. Была гадзіна ночы.

На двары ішоў дождж. Вада па вуліцы плыла ракою.

Прышла Алімпа дамоў, легла спаць. Доўга пазірала ў цемень хаты, варочалася з боку на бок. Мяккая пасцель здавалася мулкай і не браў сон. Успомніўся Рыгор, але такі, якім ён быў, калі прыехаў з арміі. Алімпа трымала перад сабою цыганаваты вобраз, любавалася ім. Непрыкметна бег час пад аднастайны шум дажджу. Раптам пачуўся нейкі шорах. Алімпа прыслухалася.

Ёй здалося, што нехта падышоў да мыцельнікавага акна. Алімпа ціха ўстала і, стрымліваючы дыханне, узіралася ў светлы квадрат акна.

Пачуўся стук у шыбу.

Алімпа ўздрыгнула, прыціснула рукі да грудзей і ціха запыталася:

— Хто там?

— Я-а... Адчыні.

Не чуючы пад сабою ног, Алімпа выйшла, бразнула засаўкай.

— Ты, Рыгор?

— Хіба не пазнала?

Рыгор пераступіў парог. Чутно было, як з яго лілася вада. Пашукаў рукою ў адной кішэні, у другой, потым чыркнуў запалку. Алімпа хутка захіліла далонямі грудзі.

— Вада хлынула з рэчкі. Змые і параскідае лён. Бяры насіла і бяжы. Я да Макара яшчэ зайду.

— Зараз бягу, — згадзілася яна.

На світанні Алімпа прышла дамоў. За ёю на падлозе цягнулася чорная сцежка вады. На Алімпе не было сухога рубца, уся яна здубянела. Не чула ног, рукі зусім зайшліся і непрыемна шчымелі. У галаве шумела. Алімпа пераапранулася ў сухую адзежу і кінулася ў пасцель. Цяжка сказаць, колькі спала, але калі расплюшчыла вочы, то заўважыла, што белая печ нахіляецца то ў адзін, то ў другі бок, а столь хаты становіцца рубам.

Алімпа намерылася ўстаць, але не змагла. Зрабілася так млосна, што яна зноў упала на пасцель. Адпачыла крыху і толькі тады прышло да яе ўсведамленне становішча, у якім яна была.

— Захварэла я, — ледзь прашаптала яна абпаленымі губамі. — І што рабіць, каго пазваць?

Яна абаперлася на локаць, хацела глянуць у акно. У момант светлы прамавугольнік акна закрылі нейкія вясёлкавыя кругі. Алімпа прастагнала і сціхла. Потым дзіўна было ёй, што ў хаце гарэла лямпа, хадзілі людзі і аб чымсьці гаварылі. Яна паляжала спакойна, агледзелася і толькі тады ўбачыла, што на ложку сядзеў чалавек. Што яму трэба? Чаго ён тут сеў? Алімпа збіралася запытацца, але ў той-жа момант забылася. Чалавек нахіліўся над ёю. Нешта гаварыў. Алімпа прыглядзелася і пазнала яго. Рыгор!

Ён глядзеў устрывожанымі вачыма, паволі перабіраў губамі. Алімпа сілілася пачуць яго, але ў вушах стаяў сухі непрыемны свіст і ўсё перабіваў. Алімпа падумала, што Рыгор знарок робіць так, каб яна не чула яго слоў, вельмі пакрыўдзілася. Заплюшчыла вочы. У другі раз глянула на хату. Каля ложка стаялі ўтрох. Алімпа павярнула галаву і выразна пачула голас Рыгора:

— У бальніцу павязем.

Штосьці моцна гуло, потым сціхла. Алімпе здавалася, што яна плыве на хвалях сажалкі. У вышыні стаіць яркае сонца, а ёй холадна. Зуб на зуб не пападае.

На пяты дзень у бальніцу прыехаў Рыгор. Прывітаўся і палажыў на тумбачку каля яе ложка скрутак у белай паперы — гасцінец.

— Я вінаваты, што ты хворая. Пазваў тады цябе. Але хто думаў? — ён ніякавата разглядаў пазногці сваіх рук і маўчаў. — Ты ведаеш, як мне цяжка...

— Надумаўся. Кінь!

— Каб я на другі дзень пад вечар не зайшоў да цябе, ты-б дома зайшлася. Ляжыш непрытомная і палаеш агнём...

— Дзякуй табе, Рыгорка. Мне расказвалі, — і Алімпа ўсміхнулася. Бялявыя шчокі прыкметна паружавелі. Запаўшыя вочы засвяціліся радаснымі агеньчыкамі. А на душы была сонечная вясна ад таго, што ўбачыла Рыгора. Больш яна нічога не хацела. Ляжала-б вось так увесь час, не зводзячы з яго вачэй.

— Доктар дазволіў зайсці на пяць мінут. Я пайду ўжо...

Рыгор азірнуўся на другі ложак у палаце, на якім ляжала хворая бабулька тварам да сцяны, пацісну́ў руку Алімпы.

— Хутчэй ачуньвай, — і выйшаў з палаты.

З гэтага дня Алімпа хутка стала набірацца сіл і неўзабаве прыехала з бальніцы дамоў.

Неяк раз яна вярталася з кааператыва. На вуліцы ўбачыла Рыгора. Хацела прайсці і не спыніцца.

— Пачакай, гаспадыня, — сказаў ён. — Ёсць аб чым пагаварыць.

Рыгор азірнуўся, каб побач нікога не было.

— Ты ведаеш, што справы на цаліне ідуць добра. Наша партыя зноў кінула кліч да моладзі — «На новыя землі». Едуць з калгаса хлопцы, дзяўчаты. Еду і я. Запрашаю цябе. — Рыгор сказаў гэта і сумеўся. — Паедзем?

— Як-жа так... раптам... Але калі ты гаворыш, то я згодна, — адразу адказала яна. Нават не маргнула прыгожымі доўгімі вейкамі.

Рыгор траха не падскочыў ад таго, што пачуў.

— Хату дзе дзець? — разважліва запыталася яна, прыкметна ружавеючы.

Рыгор спалохаўся, што Алімпа перадумае.

— Прадай Макару. Ён даўно напытвае сабе хату.

— А я і забыла. Добра.

На другім тыдні ў суботу на новыя землі з «Перамогі» выехала другая група добраахвотнікаў. Яе праводзілі гэтак-жа ўрачыста, як і першую. Перадавалі пасылачкі паехаўшым раней, а садоўнік Нічыпар прынёс забітую фанерную скрынку. Была яна доўгая, але лёгкая.

— Перадайце Гараську. Слуцкія бэры. Ён там пасадзіць. Пісаў мне і прасіў, — сказаў Нічыпар. — Лепш-бы ўвосень, але ён ведае, як зрабіць, каб прыняліся.

— Добра дбаеце, — пахваліў Карачун. А Нічыпар адышоў ад машыны, сказаў:

— Усёроўна наша... І тут, і там...

А неяк у пачатку вясны, калі снег сышоў з зямлі і на клянах спявалі шпакі, Макар пад самы вечар ладзіў плот на двары дома, які ён купіў у Алімпы. Закручваў лазовыя дубцы на дубовыя калы, спакойна меркаваў сам з сабою, што пасадзіць на градах.

Скрыпнула калітка.

Зайшоў у двор прыгорблены ў засаленай ватоўцы чалавек. На ім былі порткі няпэўнага колеру з вытырклымі мяшкамі на каленях, а боты з стаптанымі абцасамі. Казырок шапкі трэснуў пасярэдзіне і з'ехаў на левы бок.

Макар выпрастаўся і не паверыў вачам. Як трымаў у руках скручаны лазовы дубец, так і выпусціў яго.

— Ты робіш на маім двары? — запытаўся Мікалай Кот. Ён трымаў рукі ў кішэнях, з цікавасцю разглядаў Макара, а Макар яго. Мікалай быў, як і раней, аброслы, але не сказаць, што вельмі ўжо благі з твару. У яго вачах свяцілася нейкая вінаватасць.

— Двор быў твой, а цяпер мой, — растлумачыў Макар.

— А дзе Алімпа? — з трывогаю ў голасе запытаўся Мікалай.

— А ты хіба не ведаеш? Ужо тры месяцы, як паехала на цаліну. Хату прадала мне.

Твар Мікалая адразу пацямнеў і перасмыкнуўся ад унутранага болю. Ён не слухаў болей Макара, а згорбіўся яшчэ болей і пакрочыў па двары ў садок. Здавалася, ён штосьці згубіў і цяпер заўзята шукаў на сцежцы.





# Гаспадары зялёнага бору

**І. НАУМЕНКА**

Прыехаў я сюды, у зялёны бор, без ніякай загадзя вызначанай мэты. Хацелася проста крыху адпачыць пасля гарадскога тлуму і мітусні, паваляцца на духмянай траве, надыхацца добрым лясным паветрам.

І вось я ляжу спякотным летнім днём пад разгалістай сасной, слухаю аднастайны шум бору, звонкую пераклічку лясных птушак, пазіраю скрозь развесістыя галіны ў высокае сіняе неба. У такія хвіліны здаецца, што нават самі думкі зліваюцца з гэтым бясконцым баравым шумам і, ні на чым цвёрда не застанаўліваючыся, плывуць ціхай чарадой, нібы воблачкі па небе. Трашчаць у высокай траве на ўскрайку бору непаседлівыя конікі, цягне сваю аднастайную песню разгалістая сасна, шчабечуць вясёлыя лясныя птушкі...

У маім уяўленні мімаволі снуецца вобраз чалавека, лесніка або ляснічага, які па характару сваіх абавязкаў мае пастаянную справу з лесам. Добра, відаць, яму, думаю я. Лес расце сам, даглядаць яго асабліва не трэба. Хадзі сабе са сваёй стрэльбай, дыхай свежым паветрам, любуйся прыродай. Чаго-ж больш трэба?..

Заняты такімі думкамі, я непрыкметна заснуў. Прачнуўся ад настойлівага і частага перастуку над самай маёй галавой. Здавалася, нехта раз-по-раз біў па дрэву маленькім малаточкам — тук-тук-тук. Нарэшце, я ўбачыў вінаўніка гэтага стуку — пярэстага дзятла. Ён поўз па ствалу дрэва ўверх і са спакойнай дзелавітасцю цюкаў сваёй цвёрдай дзюбаю ў кару.

— Іш ты, гаспадар лесу, — сказаў я ўслых. — Не шануеш ты спакою сваіх гасцей...

Дзяцел, відаць, спалохаўся і паляцеў да другога дрэва. Ляжаць пад разгалістай сасной мне больш не хацелася, і я павольна паклыпаў лясной дарогай. Добра ўсё-ж у лесе! Не ведаеш сам, што чакае цябе наперадзе. Ты можаш стаць сведкай самых незвычайных і нечаканых прыгод. Цяпер, здаецца, я пачынаю разумець паляўнічых. Швэндаецца чалавек па лесе, па балоце, ўаб'е ногі, зморыцца больш, чым на самай цяжкай рабоце. А дзеля чаго? Можа прываблівае яго здабыча, дзікая качка або цецярук у сумцы?

Якая там качка, а тым больш цецярук! Здараецца часцей, што гэты паляўнічы, акрамя новых дзюрак у старых штанах, больш нічога і не прынясе. Але паспрабуй яму сказаць, што ён займаецца глупствам, то ён і размаўляць з табой не захоча. І справа, відаць, не толькі ў тых качках і цецеруках. Галоўнае тое, што лес сам па сабе — найцікавейшая кніга. Чытай яе і ніколі не дачытаешся да канца.

Я прайшоў прасекай да ўскрайку лесу. Тут пераліваецца хвалямі даспелае жыта, а ўзбоч дарогі цягнецца цэлая чарада таполяў, ясеняў і бяроз. Каля адной з бяроз я ўбачыў штосьці не зусім звычайнае. На дрэва лез хлапчук.

«Чаго-ж ён туды дзярэцца?» — падумалася мне.

Хлапчук, між тым, лёгка ўскарабкаўся да галін, і вось ён ужо каля самай вершаліны. Толькі цяпер я заўважыў на дрэве шпакоўню. Цяпер мне ўсё зразумела.

Праз хвіліну я стаю з хлапчуком на пыльнай дарозе і размаўляю. У руках ён моцна трымае двух шпачкоў, у якіх ледзь-ледзь пакрыліся чорным пухам крыллі. Шпачкі разяўляюць жоўтыя раты і пішчаць.

— Гэта ты паставіў шпакоўню? — пытаю ў хлапчука.

— Не.

— А навошта табе шпакі?

— Яны будуць жыць у мяне... Будуць спяваць...

— А калі загінуць?

— Я буду карміць іх чарвякамі.

— А ці ведаеш ты, што шпакі знішчаюць лясных шкоднікаў?

Хлапчук шморгае носам і маўчыць.

— Ты, мусіць, ходзіш у школу. У які клас?

Хлапчук гатовы заплакаць. Ён яшчэ мацней сціскае ў сваіх кулачках птушанят, ад чаго яны пішчаць яшчэ мацней.

— Я пакладу шпачкоў у шпакоўню, — нарэшце, з рашучым выглядам гаворыць хлапчук. — Але дарослыя шпакі ад іх усёроўна адкінуцца...

— А можа і не адкінуцца, — разважліва кажу я. — Ты на ўсякі выпадак пакладзі.

Хлапчук пасля гэтага здарэння доўга ісці поруч са мной не захацеў. Ён шмаргануў у бярэзнік і знік з-пад майго нагляду. Мне здаецца чамусьці, што ён больш не палезе ўжо ў тую шпакоўню на бярозе.

На невялічкай лясной паляне, магутна раскінуўшы свае шырокія зялёныя шаты, расце дуб. Яго, мабыць, не абхваціць і двум чалавекам, каб яны ўзяліся за рукі. Дуб у сваёй адзінокай велічы намнога ўзвышаецца над купчастымі вершалінамі бяроз і шумлівымі шапкамі асін.

— Гаспадар лесу — дуб, — думаю я. — Як леў — цар над усімі звярамі, так дуб — цар над усімі іншымі дрэвамі. Колькі ён расце? Дзвесце гадоў, трыста?

— Дык што, студэнты закончылі ўжо работу? — чую я нібыта здаўна знаёмы мне голас. — Ляснічага ў вас там няма?

Перада мной ляснік. У яго, як і трэба, дубальтоўка за плячыма, вялікі сіні знак з нумарам і залацістая цэшка на шапцы. Я разумею, што ён прымае мяне не за таго, каго трэба.

— Я не студэнт, — тлумачу я. — Вы памыліліся, мабыць. — Ляснік крытычным вокам аглядае маё ўбранне і, відаць, не зрабіўшы ніякага пэўнага вываду наконт маёй асобы, перапытвае:

— Дык што-ж вы тут робіце?

Я імкнуся як мага ясней вытлумачыць свае намеры. Каб спадабацца гэтаму чалавеку, спрабую закінуць колькі слоў пра яго службу:

— Добрая ў вас работа, — кажу я яму. — Дыхаеце вы свежым паветрам, вам і зарадкі рабіць не трэба — заўсёды на нагах. Лес расце ў вас добра, толькі сячы...

— Сячы, сячы, — перадражнівае мяне ляснік. — Аматараў секчы лес багата знойдзецца. Лес расце добры!.. А вы багата дрэў пасадзілі, каб лес рос? Пасадзілі хоць адно за сваё жыццё?

Я адчуваю сябе перад гэтым стараватым ужо чалавекам, напэўна, гэтак-жа сама, як той хлапчук, які выцягнуў шпачкоў. Чырванеючы, стараюся ўспомніць, ці пасадзіў я хоць адно дрэўца за сваё жыццё.

— Пасадзіў, — нарэшце ўспомніўшы, радасна адказваю лесніку. — Калі мы разбівалі школьны парк, то я прынёс тры маленькіх клёнікі. А дома пасадзіў дзве яблыні і жоўтую акацыю.

Ляснік пазірае на мяне ўжо крыху лагодней. Маё замяшанне, відаць, яму спадабалася.

— І што-ж, прыняліся дрэўцы? — перапытвае ён.

— Прыняліся. Цяпер наш парк вышэй за двухпавярховую школу. За дзесяць год такі вялікі вырас. А раней там пясок быў, адзін сыпучы пясок...

— То-та-ж, — задаволена цягне ляснік. — Толькі, брат, трох клёнікаў і адной акацыі мала на ўсё жыццё. Любіш-жа ў цяньку адпачываць і дыхаць свежым паветрам? То тры клёнікі ценю яшчэ не зробяць. А цяпер скажы, колькі дрэў пашкодзіў? Дубцы ламаў, кійкі выразаў, дровы сек?

Што-ж я мог адказаць гэтаму дасціпнаму чалавеку. Усё, канешне, было — і рэзаў арэхавыя кійкі, сотнямі носячы іх матцы на тычкі для фасолі, і ламаў дубцы — хіба іх пералічыш, сек дровы, любіў, адным словам, і цяпло і цянёк. Мае пасаджаныя тры клёнікі сапраўды здаліся смешнымі ў параўнанні з тым, колькі паглуміў я іншых маладых дрэўцаў.

— Лес-жа і сам расце, яго не толькі садзяць, — каб як-небудзь апраўдацца, кажу я лесніку.

— Самі растуць толькі дурні, мілы чалавек, дый тыя лічаныя, — мякка гаворыць ляснік і смяецца.

Мы ідзем з ім лясной дарогай, і я адчуваю, што ляснік падабрэў да мяне. Я расказваю яму пра выпадак са шпакамі.

— Такіх птушкаловаў хапае, — кажа ляснік. — І прасачыць за імі цяжка.

Я даведваюся, што шпакоўні расстаўляюць па лесе самі лясныя работнікі. Толькі сёлета іх пастаўлена 300 штук, бо шпак — птушка вельмі карысная для лесу.

— Павінна дачка мая прыехаць сёння, Інстытут скончыла, — прызнаецца ляснік. — То каб на добры лад, то варта-б было ў Негарэлае з'ездзіць, сустрэць...

— А які інстытут ваша дачка закончыла?

— Як які? — здзіўляецца ляснік. — Вядома, лесатэхнічны, у Мінску. Гэта-ж самы лепшы інстытут...

Я не пярэчу, больш таго, я згодзен, што лесатэхнічны інстытут, бадай, сапраўды самы лепшы.

Цяпер мы знаёмімся з леснікам. Яго завуць Уладзімір Адашкевіч, а дачку, якая толькі што закончыла інстытут, Мая. Прыгожае імя. У маі месяцы якраз зелянее лес, расцвітаюць кветкі...

Набліжаецца вечар, прыемная свежасць астуджвае твар. Насустрач нам выбіваецца вялікая гаманлівая талака хлапцоў і дзяўчат у папяровых шляпах. Гэта тыя самыя студэнты. Але ляснічага сярод іх няма.

— А дзе-ж вы начаваць будзеце? — цікавіцца ляснік.

Я маўчу, бо пра гэта чамусьці проста не думаў. Тады ляснік прыпаручае мяне студэнтам.

І вось я начую ў маленькай вёсачцы Ліствяны, частуюся студэнцкай гарбатай і слухаю бясконцыя размовы. Размовы пра кнігі, пра футбол, пра каханне, а часцей за ўсё пра лес.

А назаўтра я ўжо не ляжу пад разгалістай сасной. Імклівая, як птушка, студэнтка Галя ледзь не цэлы дзень цягае мяне па лесе з доўгай жалезнай лентай. На яе мове — мы робім таксацыю. Кажучы праўдзівей, таксацыю робіць Галя, а не я. Я толькі цягаю стужку і кручу рулетку. Нават калкі забівае сама дзяўчына, з

**Старшы ляснічы І. Мухураў** (справа) **паказвае загадчыку кафедры лясных культур Беларускага лесатэхнічнага інстытута дацэнту К. Ф. Мірону маладыя таполі.**

прычыны майго, як яна кажа, поўнага невуцтва ў лясной справе. Наконт невуцтва студэнтка мела рацыю хіба ў самым пачатку майго падарожжа. Ходзячы ў гаманлівай студэнцкай талацэ, я сёетое пачынаю разумець. Разумею ўжо, што лес расце не сам. Нетакая ўжо і простая справа пасадзіць сасну. Для мяне раней, напрыклад, майскі хрушч быў толькі хрушчом і больш нічога. А для будучых лесаводаў гэты самы хрушч — прадмет бясконцых размоў і нават спрэчак. Паспрабуйце пасадзіць сасну, дакладна не ведаючы, колькі ў глебе лічынак майскага хрушча, і з вас, па словах Галі, галаву здымуць. Але пасадзіць сасну — гэта яшчэ зусім невялікая работа. Колькі работы ўперадзе, пакуль з зярнятак вымахае сапраўдны зялёны бор! Акучванні, прасвятленні, рубкі догляду, санітарныя рубкі. Лесаводы павінны вельмі любіць сваю работу. Не кожнаму з іх суджана ўбачыць плады сваіх рук. Такая-ж сасна, пад якой я ўчора адпачываў, расце цэлых сто гадоў.

Але калі вы загаворыце ў негарэльскіх лясах пра тое, што сасна расце цэлых сто гадоў, з вамі шмат хто не згодзіцца. Не згодзіцца ў першую галаву дырэктар лесгаса Васіль Антонавіч Берднік. Будзе спрачацца старшы ляснічы Іван Паўлавіч Мухураў. Напэўна, палічыць вас зусім цёмным чалавекам у лясной справе аспірант кафедры лесаводства лесатэхнічнага інстытута Віктар Кузьміч Паджараў.

Усе яны маладыя і гарачыя людзі, але не толькі гэтым тлумачыцца іх упэўненасць у тым, што лес можа расці значна хутчэй, чым гэта напісана ў тоўстых кніжках па лесаводству.

Я мусіў пераканацца, што сцвярджаць такую думку маладыя энтузіясты маюць шмат падстаў. Мы нямала пахадзілі па сасновых барах з Іванам Мухуравым і Віктарам Паджаравым. Яны паказалі мне адзін вельмі цікавы саснннічак. Пасаджан ён трыццаць два гады назад. Шэсць гадоў назад, калі і сённяшні дырэктар, і ляснік, і аспірант былі яшчэ студэнтамі лесатэхнічнага інстытута, на гэтае месца іх прывёз прафесар Жылкін, які займаецца праблемамі лесаводства.

Тады яны пасеялі пад сасной лубін. Шэсць гадоў цвіце пад соснамі лубін і, дзякуючы яму, лепш, хутчэй расце сасоннік. Гэта можна ўбачыць нават неспрактыкаваным вокам, калі параўнаць з сасоннікам суседні ўчастак такога-ж самага ўзросту.

Адным словам, негарэльскі лес,— усе гэтыя сотні гектараў пасадак, не зусім звычайны лес. Гэта лес, які пачынае расці хутчэй за іншыя лясы. Тут ставяць шматлікія вопыты, мэта якіх адна — лес павінен расці хутчэй, лепш, чым рос да гэтага часу. Тут сеюць лубін разам з пасевам сасны, сеюць яго, каб узбагаціць глебу перад пасевам сасны, ставяць вопыты аб уздзеянні на рост лесу рознастайных мінеральных угнаенняў.

Віецца змейкай вузенькая, але досыць глыбокая рачулка Перацуць, плешчацца ў сваіх зялёных берагах азярцо Бязднонніца, звініць галасамі студэнтаў лес, ходзяць па лясных прасеках неспакойныя шукальнікі і эксперыментатары. І негарэльская сасна пачынае хутчэй узнімаць да сонца сваю зялёную вершаліну.

# НАША БАГАЦЦЕ

Фото А. Дзітлава.



Так выглядзе кар'ер.

Адкатчыца ваганетак Тоня Каралёва і закатчык Генадзі Шляхто.



**Ёсць нямала выкапняў, якія мы нават не называем карыснымі, але яны з'яўляюцца сапраўднай крыніцай народнага багацця. Такімі карыснымі выкапнямі багата наша рэспубліка. Пра іх і расказвае гэты фотанарыс.**

**... Віцебск. Усходняя ўскраіна. У глыбіні невялікага сквера — двухпавярховы дом з шыльдай над уваходам. Гэта будынак упраўлення Віцебскага камбіната будаўнічых матэрыялаў.**

**Малады інжынер, нядаўняя выпускніца мінскага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна Зінаіда Мікалаеўна Кузняцова, бярэцца паказаць нам вытворчасць.**

**Яшчэ здалёк відаць высокія коміны абпальных пячэй, гмахі сушылак, прыземістыя павеці транспартных галерэй. Але працэс вырабу прадукцыі, ці як яго называюць тут — «нітка», пачынаецца кіламетры за два адсюль, ля самай Віцьбы, у кар'еры. Месца распрацоўкі прасунулася далёка на поўднёвы ўсход. Але нягледзячы на тое, што здабыча гліны тут вядзецца з незапамятных часоў, яе яшчэ хопіць на многія гады. Гэта сапраўды залатая, невычарпальная крыніца.**

**Многа змен адбылося за гады савецкай улады ў цаглянай вытворчасці. І галоўная з іх — механізацыя ўсіх працэсаў. Некалі тут усё рабілася ўручную. Цяпер цяжкую працу землякопа замянілі экскаватары, на змену тачцы прыйшлі электравозы.**

**Маленькі, падобны на лялечны, электравоз шпарка імчыць састаў ваганетак. Вось і кар'ер. Экскаватаршчык камсамолец Барыс Вішнеўскі глыбока закапаўся ў зямлю. Пакуль машыніст падае на пагрузку састаў, Барыс Вішнеўскі старанна шыхтуе пароду — перамешвае гліну з пяском.**

**Барыс Вішнеўскі — патомственны цаглянік. Яго бацька і дзед рабілі з гліны цэглу. Толькі яны працавалі ўручную, у Барыса-ж магутная машына. Кожны раз яна зачэрпвае поўную ваганетку гліны. Сотні людзей замяніў са сваёй машынай Барыс Вішнеўскі.**

**Не аднаго чалавека замяняе і Іван Гудзелеў — машыніст электравоза. Калі раней на пагрузку саставу ў дзесяць ваганетак патрэбна было-б не менш гадзіны, дык цяпер гэта робіцца за дванаццаць — пятнаццаць хвілін.**

**З ваганетак гліна трапляе пад павець, дзе яе згружаюць у круглы дазатар. Адсюль яна трапляе на ленту, якая нясе яе па галерэі да каменевыдзяляльных вальцаў. Гэтым і заканчваецца першы этап апрацоўкі гліны: змешванне яе ў неабходных прапорцыях з пяском і выдзяленне цвёрдых прымесей.**

**З каменевыдзяляльных вальцаў па жолабу гліна падае ўніз, у глінарасцірацель — вялізны чан, у якім беспарапынна рухаюцца падобныя да павукоў прыстасаванні. Яны мнуць, расціраюць гліну, а потым выціскаюць яе праз адтулінкі ў выглядзе сасісак. Гліняныя «сасіскі» падхоплівае другое прыстасаванне і па ленце накіроўвае ў вальцы тонкага памолу — два барабаны, якія яшчэ раз расціраюць гліну. Далей яна**

Пагрузка гліны ў ваганеткі.



трапляе ў аднавальную глінамялку. Цяпер з яе можна рабіць цэглу. Гэтую задачу і выконвае лентачны вакуумны прэс. Ён выціскае на ленту неабходнай формы гліняную паласу. Спецыяльны ратацыйны апарат адрэзвае ад паласы аднолькавай велічыні кавалкі — цагліны. Работніца здымае іх з ленты і адпраўляе на электракалясках у сушылку.

Так цяжкі працэс вырабу цэглы стаў лёгкім, дзякуючы прымяненню навейшых айчынных машын.

Большасць рабочых камбіната — моладзь. Юнакі і дзяўчаты працуюць на ўсіх участках: машыністамі, слесарамі, адкатчыкамі, інжынерамі, тэхнікамі.

І днём і ноччу не спыняецца праца на камбінаце. Краіна патрабуе шмат цэглы і чарапіцы. Далёка за прыкладамі хадзіць не трэба. Цэлыя кварталы Віцебска яшчэ знаходзяцца ў рыштаваннях. У раённых цэнтрах будуюцца новыя школы, клубы, жылыя дамы. Вось чаму з такім энтузіязмам працуюць рабочыя камбіната. Вось чаму Віцебскі камбінат будаўнічых матэрыялаў з'яўляецца адным з перадавых прадпрыемстваў рэспублікі.



Інжынер Зіна Кузняцова.

Разгрузка кантэйнераў.



Спірыдон Фёдаравіч Кажамякін, яго сын Іван і Акім Іванавіч Седляроў на будаўніцтве дома на вуліцы імя Кірава ў Віцебску.



# ЦІКАВАЕ ПАДАРОЖЖА

### НАТАТКІ З ДЗЁННІКА

Добрая традыцыя ўстанавілася ў Суткаўскай сярэдняй школе Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Кожны год вучні гэтай школы накіроўваюцца ў экскурсіі па роднаму краю. У сваім родным раёне юныя натуралісты, гісторыкі, географы адкрываюць шмат цікавага, невядомага ім раней. Ніжэй мы друкуем старонкі з дзённіка кіраўніка сёлетняга паходу па роднаму краю, выкладчыка гісторыі Г. Штыхава.

**26 чэрвеня.**

Раніца выдалася цудоўная. Пасля ціхай ночы павявае лёгкі ветрык. Серабрыстая раса зіхаціць на кветках і траве. Я падумаў: «Усё гэта народныя прыкметы добрага надвор'я».

Падыходжу да школы — умоўленага месца нашага збору. Чуваць звонкія галасы. Гэта сабраліся вучні нашай школы, каб ажыццявіць задуманы яшчэ зімой паход па роднаму краю.

Дзецям не церпіцца, яны спяшаюцца хутчэй выйсці ў дарогу. Асабліва не церпіцца вучню шостага класа Шуры Лазарэнку. Гэта жывы, непаседлівы хлопчык. У школе сярод вучняў яго ўзросту няма большага жартаўніка і выдумшчыка. Сярод дзяцей часта сустракаюцца такія, якія любяць пакрыўляцца, каб звярнуць на сябе ўвагу. Лазарэнка зусім не такі. Я ведаю яго з леташняга паходу. Калі ён пажартуе, то заўсёды да месца, і яго жарт абавязкова падыме настрой. Вось і цяпер Шура сказаў аб адным з хлопчыкаў: «Ён не спазніўся толькі аднойчы, калі на новы год давалі ў школе падарункі. А так заўсёды спазняецца». Пад дружны смех, які быў адказам на гэты жарт, мы рушылі ў дарогу.

Першая на нашым шляху — вёска Перадзелка. Я не думаў, што ў ёй ёсць яшчэ што-небудзь цікавае, невядомае нам. Але мы хутка пераканаліся, што гэта не так. У канцы вёскі нам сустрэўся стары калгаснік Аляксей Цярэшчанка. Ён ладзіў пляцень вакол сваёй сядзібы. Удзельнік паходу Анатолій Марчанка нечакана сказаў:

— Ведаеце што, я чуў, што гэты дзед — удзельнік штурму Зімовага палаца.

— Няўжо праўда? Гэта-ж вельмі цікава. Давайце запытаем, — выказаў думку ўсіх прысутных Пётр Даніленка.

Мы падыйшлі да старога і разгаварыліся з ім. Цярэшчанка расказаў нам аб сваім удзеле ў найвялікшых рэвалюцыйных падзеях. Перад пачаткам рэвалюцыі ён знаходзіўся на фронце. Аднойчы іх полк знялі з фронта і праз Бабруйск павезлі на Петраград. У сталіцы адбывалася паўстанне. Салдаты перайшлі на бок рэвалюцыі і прынялі ўдзел у штурме апошняга прыстанку Часовага ўрада — Зімовага палаца.

Цярэшчанка перадаў вучням для школьнага музея сваю фатаграфію, зробленую ў 1917 годзе. Шчыра падзякаваўшы дзядулі, мы рушылі далей.

Недалёка ад Перадзелкі знаходзіцца вёска Гарадок. Мы яшчэ раней вырашылі, што павінны зайсці сюды і сустрэцца з Васілём Цімафеевічам Хамічэнкам, удзельнікам так званага «Лоеўскага прарыву». Вось што ён расказаў нам:

«У час грамадзянскай вайны я добраахвотна ўступіў у Дняпроўскую ваенную флатылію. У 1920 годзе, калі белапалякі захапілі амаль усю Беларусь да Дняпра, становішча нашага рачнога флоту было цяжкім. Вораг хацеў завалодаць нашымі караблямі, не даўшы ім магчымасці манеўраваць на рэках Дняпро і Сож. Па загаду савецкай улады мы ўступілі ў бой з белапольскай флатыліяй і адкінулі яе ад Лоева, дапамогшы Чырвонай Арміі ў вызваленні Гомеля, Рэчыцы, Лоева ад захопнікаў».

З цікавасцю праслухалі мы апавяданне аб гэтым слаўным эпізодзе з гісторыі савецкага ваеннага флоту, эпізодзе, які меў месца на тэрыторыі нашага раёна.

Ідзем далей. Хутка поўдзень. Становіцца вельмі горача. Ногі пачынаюць цяжэць. Спыняемся на вялікі прывал на беразе Дняпра.

Як прыемна ў такі час пакупацца, адпачыць каля вады! Усе бягуць уніз з кручы да ракі, распранаючыся на хаду. А наш Лазарэнка так захапіўся, што толькі ў вадзе агледзеўся, што не скінуў з сябе ўсяго адзення.

К вечару падзьмуў моцны вецер, пачалі збірацца хмары. Вогненныя змейкі завілялі ў небе. Чакаючы навальніцы, мы зайшлі ў памяшканне школы, там і пераначавалі.

**27 чэрвеня.**

Сёння мы павінны наведаць Салаўёўскае месцанараджэнне кварцавых пяскоў. Гэта ў пяці—шасці кіламетрах ад Гарадка.

Надвор'е спрыяе нашаму падарожжу. Неба пакрыта густымі воблакамі, але дажджу няма.

Мы рушылі ў напрамку да невялікага каменнага будынка з чарапічным дахам, які стаіць на самай дняпроўскай кручы. Там размяшчаецца кантора пескараспрацовак. Гэтае месца завецца ў нас Ляхавай горай.

Зноў ідзем крутым берагам Дняпра, і таму нам навокал усё добра відно. Вучні цікавяцца ўсім, што сустракаецца на шляху.

— А што гэта тут за глыбокія канавы? — пытае дзяўчынка Каця Кашперка.

На гэтае пытанне адказвае юны гісторык Анатолій Марчанка. Ён расказвае аб тым, што восенню 1943 года ў гэтых месцах адбыва-

**Юныя падарожнікі на прывале.**
Фото аўтара.

ліся жорсткія баі Совецкай Арміі з фашысцкімі захопнікамі. Совецкія воіны гналі акупантаў з беларускай зямлі. Не дапамаглі ворагу і ўмацаванні, збудаваныя на гэтым крутым беразе.

Адказ задавальняе ўсіх слухачоў. Яны з павагай адносяцца да Анатолія. Ён — самы старэйшы сярод нашых падарожнікаў і закончыў ужо дзевяты клас. Ён добра вучыцца, шмат чытае. У Анатолія шырокі кругагляд, вялікая дапытлівасць. Асабліва ён любіць гісторыю. Недарэмна выбралі яго вучні старшынёй гісторыка-краязнаўчага гуртка.

Нягледзячы на тое, што сярод удзельнікаў падарожжа большасць вучняў — юннаты, размовы пакуль што ідуць галоўным чынам на гістарычныя тэмы. Гутарка ідзе цікава. Нават Лазарэнка не жартуе. Ён толькі заўважае, што хопіць ужо гаварыць пра адну гісторыю, бо крыўдна будзе другім навукам.

Усім зразумела, на што ён намякае. Лазарэнка — заўзяты юннат. Ён часта паглядае на свае грудзі, дзе вісіць бліскучы значок з надпісам «Юны натураліст».

Хто яго ведае, які-б напрамак прыняла далейшая размова, калі-б у гэты час нам не сустрэўся барадаты дзядуля. Цікаўны Марчанка пытае ў яго:

— Можа вы ведаеце, чаму гэта гара завецца Ляхавай?

— Магу расказаць, — ахвотна згаджаецца дзед. Усе вучні бяруцца за алоўкі, каб зрабіць запіс.

— Жыў у гэтых месцах некалі польскі пан. Панскую шляхту звалі тады ляхамі. Пан гэты быў надта-ж паганы. Не было сялянам ад яго жыцця. Не вытрымаўшы панскіх здзекаў, яны ўцякалі ад пана і хаваліся пад гэтай кручай. Аднойчы тут з'явіўся пан са сваімі слугамі, каб вылавіць сялян. У бойцы лях быў забіты. Сяляне вымушаны былі пакінуць гэтае месца. З таго часу круча называецца Ляхавай гарой.

Цёпла развітаўшыся з дзедам, мы падышлі да канторы прадпрыемства. Тут сустрэлі дырэктара Васіля Сяргеевіча Паўлюшчанку. Ён знаёміць нас з геалагічнымі матэрыяламі па кварцавых пясках пасёлка Салаўёва. Лазарэнка аж войкнуў ад здзіўлення, калі даЗнаўся, што гэтае месцанараджэнне — багацейшае па залежах кварцавых пяскоў ва ўсёй Беларусі.

З вялікай цікавасцю разглядалі мы геалагічную карту карэнных адкладанняў Лоеўскага раёна. Даведаліся, што ў нашым раёне залягаюць вогнеўпорныя гліны, ганчарныя гліны, глаўкенітавы пясок, кварцавы пясок і высокаякасная охра.

Васілій Сяргеевіч расказаў, што ў час работы часта здараецца знаходзіць на глыбіні 15—18 метраў ствалы дрэў, торф і іншыя рэчы, якія сведчаць аб тым, што ў вельмі далёкія часы гэтае месца было ніжэйшым. Залежы пяску ўтварыліся ў далёднікова перыяд. Ляднік пакінуў пасля сябе вялізныя камяні, якія сустракаюцца на глыбіні 5—7 метраў.

— А цяпер пойдзем, я вам пакажу, як здабываецца пясок, — сказаў дырэктар.

Мы аглядаем работу гідраўлічнага экскаватара «Каўровец» і другіх механізмаў. Васіль Сяргеевіч у заключэнне паказвае нам прадукцыю, якая вырабляецца з гэтага пяску на шклозаводзе ў Барысаве і фарфора-фаянсавай фабрыцы ў Мінску. Ён абяцае нам даць камплект такіх вырабаў для школьнага музея.

...Прайшоўшы дзесяць кіламетраў, мы спыніліся на начлег каля вёскі Чаплін. На беразе зрабілі шалаш. Перад намі — прыгожы дняпроўскі краявід. Кругом вельмі ціха. Нехта з вучняў працытаваў словы Гогаля: «Чуден Днепр при тихой погоде».

Ноччу наш рамантычны настрой быў крыху сапсаваны. На нас накінуліся камары. Яны кусаліся, звінелі над вухам і не давалі спаць усю ноч.

**28 чэрвеня.**

Будучы ў Чапліне, мы не маглі ўтрымацца ад таго, каб не агледзець старажытнага гарадзішча, якое тут знаходзіцца. Некалькі тыдняў назад тут працавала археалагічная экспедыцыя Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры Акадэміі навук СССР. Раскопаны дзве старажытныя зямлянкі. Мы ўважліва іх аглядаем. Марчанка быў тут, калі праводзіліся раскопкі. Ён расказвае, якія рэчы былі знойдзены экспедыцыяй.

Было восем гадзін раніцы, калі мы рушылі далей. Сёння мы павінны дасягнуць апошняга пункта падарожжа — вёскі Уборкі і агледзець тут жывёлагадоўчую ферму калгаса імя Леніна. Дарога крута звярнула ўбок ад Дняпра. Мы ідзем калгаснымі палямі, у напрамку да лесу, які сінее ўдалечыні.

— Гляньце, які добры лён!.. — крычыць Лазарэнка.

З намі ідзе настаўнік біялогіі Пётр Кузьміч Зубец.

— А гэта што за культура, рабяты? — пытае ён.

— Кукуруза, — хорам адказваюць вучні.

— А для чаго яна ўжываецца?

Тут адзіны хор галасоў разладзіўся. Адны гаварылі, што найбольш каштоўнае ў кукурузе зерне, другія — зялёная маса, якая ідзе на сілас. З дапамогай Пятра Кузьміча вучні згаджаюцца, што ўсе якасці кукурузы каштоўныя, і яна вельмі неабходна ў нашай гаспадарцы.

Далей размова ідзе аб тым, як закладваецца сілас, якія павінны быць ямы для гэтага.

К поўдню мы дасягнулі хваёвага лесу. Тут зрабілі вялікі прывал. На палянцы расклалі агонь і сталі гатаваць абед. Дзяўчынкі пайшлі збіраць ягады.

Пасля адпачынку пайшлі далей. Вось і вёска Уборкі. Нас сустракаюць настаўнікі і вучні Уборкаўскай сярэдняй школы. Разам з імі аглядаем школу. Нас асабліва зацікавіла школьная метэаралагічная станцыя. Нашы вучні вырашылі зрабіць у наступным годзе такую станцыю ў сваёй школе. Нашых юннатаў зацікавіў прышкольны ўчастак. Агледзеўшы яго, яны аднагалосна прызналі, што справы суткаўскіх юннатаў ідуць лепш, чым уборкаўскіх.

Самай цікавай падзеяй сённяшняга дня быў агляд калгаснай жывёлагадоўчай фермы. Спачатку агледзелі сіласныя ямы, якіх тут пабудавана некалькі дзесяткаў. Вучні даведаліся, што пабудова ям з цэменту і пяску абыходзіцца значна танней, чым ям цагляных.

Затым калгасны зоатэхнік павёў нас у жывёлагадоўчыя памяшканні. Усе яны зроблены з цэглы і пакрыты шыферам. Для кожнай жывёліны зроблены асобны станок. Усюды — чысціня. Экскурсавод паведаміў, што ў іх калгасе ўведзен зялёны канвеер. Жывёлу на пашу яны выганяюць на досвітку, у тры гадзіны раніцы. Перадавыя даяркі дабіліся надою малака па 2 000 літраў на карову, але ёсць усе ўмовы ўзняць яшчэ вышэй прадукцыйнасць жывёлагадоўлі.

Начавалі ў памяшканні Уборкаўскай школы. Вучні доўга не маглі заснуць. Яны дзяліліся ўражаннямі, атрыманымі ў часе падарожжа, і шкадавалі, што не разлічылі яго на большы тэрмін. Асабліва шкадаваў аб гэтым Шура Лазарэнка.



**Гэтая машына здабывае пясок. Рабяты з цікавасцю аглядаюць яе.**

**Г. ШТЫХАЎ,**
**настаўнік Суткаўскай сярэдняй школы Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці.**

МАЛАДЫЯ ТАЛЕНТЫ

# Аля Карзянкова

Аля Карзянкова — адна з самых маладых салістак Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета. Яна працуе ў гэтым калектыве толькі першы сезон пасля сканчэння Ленінградскага харэаграфічнага вучылішча.

Аднак у яе творчым жыцці ёсць ужо многа цікавага, радаснага і акрыляючага.

Са сваімі сяброўкамі — выхаванцамі вучылішча—Аля ў 1953 годзе выступала ў Бухарэсце на Сусветным фестывалі студэнтаў і моладзі.

Вельмі цёпла і ветліва былі сустрэты ў Румыніі юныя совецкія танцоркі. Іх цудоўнае мастацтва было шчодра ўзнагароджана, журы прысудзіла ленінградскім юнакам і дзяўчатам — будучым майстрам харэаграфіі — залаты медаль.

Педагогі заўсёды вылучалі Алю па даволі значнаму акцёрскаму майстэрству, якім яна авалодала ў вучылішчы. Унутраны свет гераіні, яе перажыванні і пачуцці Карзянкова раскрывала даволі глыбока і пераканальна.

На дзяржаўным экзамене ў вучылішчы і на фестывалі пачынаючая балерына выступіла з урыўкамі ў складанай драматычнай партыі Лаурэнсіі з аднайменнага балета. Гэта твор аб мужнасці народа ў барацьбе супраць прыгнятальнікаў.

Лаурэнсія стала любімым вобразам Карзянковай. І калі ёй давялося нечакана перад прэм'ерай замяніць балерыну ў ролі Лаурэнсіі ў пастаноўцы нашага тэатра, гэта стала вялікім шчасцем у жыцці юнай артысткі.

У трагедыйнай ролі Лаурэнсіі Аля Карзянкова выявіла багатую вонкавую і асабліва ўнутраную тэхніку. Выканаўца першай самастойнай партыі на прафесійнай сцэне, маладая артыстка здзівіла гледачоў душэўнай грацыяй і шырокай эмацыянальнасцю, дакладным разуменнем музычнай драматургіі твора і рэжысёрскай задумы. Салістка прадэманстравала ў ролі, што яна валодае пластычнасцю і зграбнасцю танца, здольнасцю чула дзейнічаць у сцэнічным ансамблі.

Салістка жыве душэўным жыццём гераіні, яе шчырымі і палымянымі пачуццямі. Лаурэнсія поўная сапраўднага харастава, і нацыянальныя рысы, перададзеныя Карзянковай, адпавядаюць нашаму ўяўленню аб вобразе свабодалюбівай іспанскай дзяўчыны.

У лагічнай паслядоўнасці і ўзаемасувязі раскрываюцца ў спектаклі драматычныя перажыванні гераіні паўстання ў вёсцы Фуэнтэ-Овехуна, светлыя ідэалы якой сутыкнуліся з дзікунскімі норавамі і мараллю агідных феадалаў у асобе камандора Фернана Гамеса і яго жорсткіх паслугачоў.

З першага выхаду Лаурэнсіі— Карзянковай на сцэну становіцца ясным, што гэта не пакорлівая нявольніца, якая прымірылася са сваім сумным лёсам, а валявая дзяўчына, гатовая цвёрда абараняць сваю чалавечую годнасць і сумленне дачкі беднага селяніна.

Лаурэнсія дапытліва ўглядаецца ў вочы і твар любімага юнака Франдоса. Хочацца дазнацца пра шчырасць і глыбіню пачуцця любага. Радасную сустрэчу абрывае раптоўнае з'яўленне камандора, і лірычны дыялаг закаханых у другой карціне змяняецца псіхалагічным выразным і драматычна насычаным дуэтам з Фернанам Гамесам, у якім хвалююча раскрываюцца пакуты сэрца дзяўчыны. У танцы нявесты з жаніхом Карзянкова перадае светлае, акрыляючае пачуццё, а ў танцавальным дыялагу з камандорам палымяную нянавісць, пакуты сэрца.



Лаурэнсія — А. Карзянкова, Франдос — В. Міронаў (балет Лаурэнсія).

Акцёрскія здольнасці маладой, пачынаючай балерыны асабліва ярка выяўлены ў чацвёртай карціне, дзе танец Карзянковай поўны напружанага драматызму. Ён насычаны рознастайнымі эмоцыямі: трагічнымі перажываннямі змучанай душы, гнеўным пратэстам супраць нахабных гвалтаўнікоў, пачуццём зняважанай чалавечай годнасці, маналогам-заклікам да паўстання супраць цемрашалаў, да гераічнага подзвігу ў імя народнага шчасця.

Вобраз Лаурэнсіі стаў вельмі блізкім таленавітай Алі Карзянковай. Але гэта толькі пачатак яе цікавага творчага шляху. У будучым яе чакаюць новыя сустрэчы з героямі балетнай драматургіі, сярод якіх пушкінская Зарэма ў «Бахчысарайскім фантане» Асаф'ева.

Аднак з асаблівым замілаваннем думае балерына аб нашых слаўных совецкіх дзяўчатах. Аб іх жыцці і творчасці з усім запалам юнацага сэрца яна хоча расказаць у спектаклі аб нашай гераічнай сучаснасці.

М. МІХАЙЛАЎ.

НОВЫЯ КНІГІ

## АПОВЕСЦЬ АБ ДРУЖБЕ

У мінулым годзе на старонках альманаха «Советская отчизна» ўпершыню ўбачыла свет аповесць маладога аўтара Ю. Багушэвіча «Пабрацімы». Цяпер мы чытаем яе асобным выданнем і заўважаем розніцу паміж гэтымі двума варыянтамі. Аўтар улічыў крытычныя заўвагі і значна палепшыў твор. Аповесць набыла большую лагічную і мастацкую завершанасць, больш абгрунтаванымі сталі ўчынкі асноўнага героя.

У аповесці ёсць прыгодніцкі элемент (незвычайнае вандраванне хлопчыка) і жыва напісаныя бытавыя замалёўкі. Пазнавальны матэрыял арганічна ўваходзіць у агульную тканіну твора. Адчуваецца, што аўтар добра ведае тое, аб чым піша, можа трапна заўважыць і адзначыць многія рысы дзіцячай псіхалогіі.

Асноўнае ў аповесці — дружба беларускага хлопчыка Андрэйкі з карэйскім хлопчыкам Канам.

Адзінаццацігадовы Андрэй Віхарэвіч разам з сваёй маці прыехаў у карэйскі горад Пхеньян да бацькі, совецкага афіцэра, які служыў там у якасці перакладчыка.

Вачамі хлопчыка, дапытлівага і цікаўнага, аўтар глядзіць на горад і адзначае новае і незвычайнае ў ім у параўнанні з нашымі гарадамі. «Вуліцы Пхеньяна, па якіх яны ехалі, выглядалі неяк дзіўна: тут зусім не было тратуараў, і людзі ў белай вопратцы ішлі прама па маставой. На мужчынах былі кароткія курткі і прасторныя шаравары, а на некаторых, апрача таго, белыя ці жоўтыя халаты з шырокімі рукавамі. Жанчыны, таксама ў шараварах і ў доўгіх спадніцах паверх іх, неслі прывязаных за спіной маленькіх дзяцей»...

Хлопчык са здзіўленнем глядзіць на велізарных быкоў, што цягнуць трохколкі, на трохколыя аўтамабілі, заўважае, што трамваі тут, замест таго, каб званіць, гудзяць, нібы паравозы. Яго захапляе рака Тэданган, што нясе свае жоўтыя воды, блакітнае з залацістым адлівам неба, высокая гара Маранбон.

Але цікавей за ўсё — людзі Карэі, краіны раніцняй свежасці, іх мова, звычаі.

Вызваленне Карэі совецкімі войскамі змяніла лёс працоўных людзей. Бацька Кана цяпер працуе дырэктарам шахты, старэйшы брат Сек Сон — афіцэр Карэйскай Народнай Арміі. Сам Кан ужо трэці год ходзіць у школу. Раней-жа, да 1945 г., шахта гэта належала амерыканскай кампаніі. Майстрамі ў ёй былі толькі японцы. Карэйцы працавалі вуглякопамі.

Галоўныя дзеючыя асобы твора — дзеці: Андрэйка і Кан. Сюжэт яго звязан з раскрыццём узаемаадносін і прыгод хлопчыкаў. Але, побач з гэтым, дзейнічаюць у аповесці і дарослыя людзі. Вобразы некаторых з іх добра запамінаюцца.

Вось, напрыклад, дзед Кана, стары рыбак. Многа бачыў ён на сваім вяку, многа перажыў. Тут, на гэтым востраве, дзе ён цяпер жыве, была стаянка партызан. У атрадах Кім Ір Сена змагаліся два яго сыны. Адзін з іх загінуў на полі бою, як герой. Ён пахаваны тут, на востраве. Стары апавядае хлопчыкам аб нядаўнім цяжкім мінулым, частуе іх добрай юшкай.

І Андрэйка дзіцячым сэрцам сваім адчувае вялікую прыхільнасць да гэтых людзей, знаходзіць многа блізкага, падобнага ў іхнім і ў нашым жыцці, асабліва, калі гутарка ідзе аб барацьбе за радзіму, за яе чэсць і свабоду. Каля жоўтай карэйскай ракі Тэданган былі стаянкі партызан. Яны былі і каля беларускай ракі Бярэзіна. У Мінску ў Андрэйкі ёсць таварыш Стась. Яго бацька загінуў у барацьбе з фашыстамі. Пасмертна бацьку Стася прысвоілі званне Героя Совецкага Саюза. І тут, на востраве, таксама пахаваны герой.

Андрэйка пачынае самастойна мысліць, устанаўліваць сувязі паміж жыццёвымі з'явамі, абагульняць.

Аўтар паступова, крок за крокам, раскрывае перад чытачамі глыбокую грамадскую аснову дружбы паміж совецкім і карэйскім народамі, дружбу, завяяваную і замацаваную ў сумесных баях.

Асноўная ідэя аповесці найбольш выразна раскрываецца ў словах старога рыбака, дзядулі Кана. Ён расказвае аб трох братах, якія рашылі разбагацець і пайшлі ў горы шукаць скарбаў. Яны доўга шукалі і, нарэшце, знайшлі многа золата. Тады адзін з братоў сказаў другому: «Давай заб'ем трэцяга і падзелім здабычу папалам». Так яны і зрабілі. Потым старэйшы брат сказаў: «Схадзі купі яды, а я папільную золата». Каб зрабіцца самым багатым чалавекам, старэйшы брат вырашыў забіць малодшага і зрабіў гэта. Затым з'еў прынесеную страву і таксама памёр, бо страва была атручана малодшым братам, які хацеў авалодаць багаццем. Так загінулі ўсе тры сквапныя браты.

— З тых пор,—працягвае дзед,— карэйцы шукаюць не багацця, а пабрацімаў. Самым моцным у нас лічыцца брацтва сяброў, якія пралілі кроў за агульную справу. Вы, рускія, — нашы браты на вечныя часы. Так гаворыць увесь наш народ...

Запамінаюцца і вобразы бацькоў Андрэйкі і Кана, асабліва бацькоў Андрэйкі, калі на іх плечы лёг вялікі клопат аб сыне. Але ў цэнтры ўвагі аўтара справы і думы дзяцей.

Далейшае жыццё яшчэ больш зблізіла Андрэйку і Кана. Яны становяцца лепшымі сябрамі, пабрацімамі.

Выпадковасць, хлапечае блазнярства разлучае іх на доўгія часы, прыносіць многа непакою і турбот бацькам Андрэйкі. Гуляючы з Канам у хованкі, Андрэйка забіраецца ў вагон таварнага поезда. Поезд рушыцца з месца і вязе хлопчыка невядома куды. Такой-жа раптоўнай і нечаканай з'яўляецца сустрэча Андрэйкі з Вільямам Туусэпам, яго незвычайнае падарожжа ў скрынцы-павозцы. Туусэп выдае сябе за вучонага Талінскай Акадэміі навук. Ён нібы займаецца радыёдаследаваннямі ў горах. На самай-жа справе з'яўляецца шпіёнам і дыверсантам, збірае і перадае ў Сеул зашыфраваныя радыёграмы.

Назіральны і ўдумлівы Андрэйка пачынае здагадвацца, што ён трапіў у рукі ворагаў і, наколькі дазваляе абстаноўка, актыўна дзейнічае, імкнецца прыблізіць канец Туусэпа.

Работнікі аддзела Міністэрства ўнутраных спраў Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, совецкія воіны высочваюць Туусэпа, у планы якога ўваходзіць увезці хлопчыка ў Поўднёвую Карэю, перашкаджаюць яму здзейсніць каварныя задумы.

Прыгодніцтва, незвычайнае падарожжа хлопчыка не з'яўляецца ў аповесці самамэтай. Яно дапамагае аўтару раскрыць характары людзей, паказаць агідную натуру сквапнага амерыканскага прыслужніка Туусэпа, настойлівасць і мужнасць совецкіх і карэйскіх воінаў, добрыя задаткі ў характары Андрэйкі.

Туусэп і яго возчык Лі Ван Сук гатовы былі забіць адзін аднаго з-за знойдзенага Андрэйкам кораня жэнь-шэня. А Андрэйка потым, пасля вызвалення з-пад улады Туусэпа, дорыць гэты корань дзеду Кана на ўспамін аб сабе.

Добра напісаны апошнія старонкі аповесці, у якіх паказана сустрэча Андрэйкі з бацькамі, а потым развітанне яго з сябрам Канам, з дзедам Кана, з Пхеньянам.

З пачуццём задавальнення закрываеш кнігу, якая знаёміць, хоць і бегла, з жыццём і барацьбой гераічнага народа Карэі, сцвярджае высокія ідэі дружбы рускага і карэйскага народаў.

М. БАРСТОК.

Сатыра і гумар



# „Эмбрыянал у „Космасе“

### А. ШУРПАЧ

**Раніцой Косцю Міхаленю, сакратара камсамольскай арганізацыі калгаса «Новы свет», паклікалі ў канцылярыю да тэлефона. Званіў сам сакратар райкома. Ён паведаміў, што ў калгас, нарэшце, выязджае лектар, вельмі адукаваны чалавек, які прачытае лекцыю на навукова-атэістычную тэму. Сакратар райкома папярэджваў Косцю, што ён, Косця, павінен забяспечыць памяшканне, апавясціць усіх калгаснікаў аб лекцыі і наогул, каб усё было, як мае быць.**

**Міхаленя пастараўся. Да прыезду лектара ўсё было гатова. У клубе зырка гарэлі лямпы і было поўна людзей. Косця ўзышоў на сцэну і аб'явіў, што таварыш з раёна, Іван Максімавіч Ермаковіч, прачытае лекцыю на навукова-атэістычную тэму. Потым абвёў позіркам слухачоў, глянуў на першы рад і занепакоіўся: пасярэдзіне, у двух кроках ад сцэны, сядзела самая бойкая з усіх дзяўчат Мальвінка. Ён пагрозліва ссунуў бровы, глянуў на яе сярдзіта, быццам папярэджваў: глядзі, не ўздумай выбрыку якога выкінуць, бо ведаю цябе. А ў дзяўчыны смех аж іскрыцца з шэрых вачэй. На косцяву пагрозу яна паказала кончык языка.**

**Лектар узыйшоў на трыбуну, расклаў мноства паперак і пачаў:**

**«... Персаналістычны містыцызм, ігнаруючы перадавы светапогляд, з'яўляецца апалагетам ідэалізма... Сафістыка з яе апрыорнымі сцверджаннямі пантэізыянарнасці разумення эмбрыянала ў космасе...»**

**Лектар сыпаў словамі, быццам восеньская хмара ледзянымі крупамі па зацягнутых лёдавай скарынкай лужынах.**

**Як ні напружваў свой мозг Косця, каб што-кольвечы зразумець, нічога не атрымоўвалася. Як гарох ад сцяны, адскоквалі пакручастыя фразы і ад слухачоў у зале. Нават у гарэзных мальвініных вачах патухлі іскрынкі смеху, яны зацягнуліся плёнкай нуды.**

**«... Валюнтарызм ёсць суб'ектыўна-ідэалістычная плынь філасофіі... Іманентная школа, гэтая рознавіднасць кантыянства,... скацілася да салліпсізма...» — гаварыў далей лектар.**

**Нарэшце, ён спаткнуўся на чарговым «ізме» і на хвіліну змоўк, разбіраючы падслепаватымі вачыма невыразны тэкст. У гэты-ж час цішу ў зале парушыў звонкі дзявочы голас:**

**— А ў Перабітай Гары баптыст Масляк дзяўчат у сваю секту запісвае!**

**Косця прачнуўся ад гіпнозу, нагнанага лектарам, і забегаў вачыма па зале. Стукнуў алоўкам па графіну і папярэдзіў:**

**— Таварышы! Парадак!..**

**«... Індэтэрмінізм... метакрытыцызм... тэалагічны канон...», як з вадасточнай трубы ў часе дажджу, лілося ў залу з трыбуны.**

**Косця не звяртаў ужо ўвагі на шум у зале. Яго і самога аглушылі мудроныя словы лектара. Прымусіла яго ўстрапянуцца пустое крэсла ў самай сярэдзіне першага раду, у двух кроках ад сцэны. Аднак ён хутка супакоіўся, бо ўбачыў Мальвінку каля парога. Яна стаяла ў расчыненых дзвярах і звала яго на вуліцу, на свежае паветра. Косця адмоўна паківаў галавой, паказваючы на лектара.**

**Спявалі пеўні, калі Косця з Мальвінкай ціхутка ішлі па вуліцы.**

**— Што гэта ты пляла пра Перабітую Гару? — спытаў Косця.**

**— А тое, што некаторыя дзяўчаты з Перабітай Гары да баптыста Масляка ходзяць.**

**— Пачакай! Як гэта да баптыста? Што за глупства ты гаворыш?**

**— Эх ты! «Эмбрыянал у космасе», — перадражніваючы тон лектара, кінула яна і насунула хлопцу шапку на самы нос.**

**— Паслеплі вы ўсе, ці што?**

**І яна расказала, як надоечы баптыст Масляк хрысціў у азярцы змітракову Сынклету. Сынклета боўтнулася ў ваду, а потым як закрычыць: «Ачысцілася. Сышоў дух святы». Ні Масляк, ні Сынклета і не ведалі, што з-за лазняка за гэтаю «святою справай» наглядаў стары калгасны пастух Хама. Пры гэтых сынклетавых словах ён не вытрымаў і ўставіў сваё:**

**— Дзіва што ачысцілася, бо, мабыць, як маці ў начоўках купала, дык з таго часу і ў вадзе не была.**

**Масляк за гэта яго богаадступнікам назваў.**

**— Вось якое здарэнне адбылося ў Перабітай Гары. Гэта, брат, не недзе там, у космасе, а ў цябе пад носам, — заключыла Мальвіна. — А ты ў шапку спіш... А яшчэ сакратар!**






**пад рэдакцыяй майстра спорту**
**А. СУЭЦІНА**

## „ПРАГЛЯДЫ“ І „ПРАЛІКІ“

Часам нават вельмі моцныя шахматысты ў запале ігры, атрымаўшы значную перавагу, трацяць пачуццё насцярожанасці і прадбачання магчымых з боку праціўніка пагражаючых ходаў і робяць грубыя прагляды (або, як іх нярэдка называюць, «зяўкі»). Гэтым яны зводзяць да нуля вынікі сваёй цяжкай і па-майстэрску ажыццёўленай папярэдне творчай думкі.

Вядома, прагляды сустракаюцца часцей за ўсё ў менш кваліфікаваных шахматыстаў, але бываюць яны і ў вядомых гросмайстраў і майстраў. Партыі, іграныя на ўсесаюзных і міжнародных спаборніцтвах, паказваюць, што, хоць і мала, але адпаведны працэнт іх недасканалы па чысціні і паслядоўнасці ігры з-за «зяўкоў».

Разбярэм наступныя прыклады з апошняга XXII першынства СССР.

Малады майстар В. Антошын, які іграў белымі, у партыі з М. Батвіннікам паслядоўна і прыгожа атрымаў над ім перавагу. Здавалася, што ў гэтым становішчы выйгрыш — справа нескладанай тэхнікі. Пасля 30-га ходу чорных склалася пазіцыя, паказаная на дыяграме.



Белыя маюць несумненныя дадатковыя якасці, якія павінны прывесці да перамогі. План да выйгрышу — у стварэнні прахадной пешкі на каралеўскім флангу, для чаго добра 31. g4, але і зроблены белымі ход 31. f4 таксама адпавядае гэтай мэце. У чорных ёсць яшчэ контр'ігра, звязаная з тактычнай пагрозай К : c3! і d5 — d4, пасля чаго ў белай ладдзі няма свабоднага поля для адступлення. Імкліва 31. ... К : c3? нельга з-за 32. Л : c3 і нельга d5 — d4, з-за безабароннай пешкі c4.

З мэтай падрыхтаваць гэтую пагрозу чорныя павінны абараніць пешку c4, што і зрабіў Батвіннік, сыграўшы 31. ... b5!

Гэты каварны ход Антошын не ацаніў, як належала і наіўна пайшоў 32. Крg2?? Атрымаўся найгрубейшы прагляд, тым больш крыўдны, што да гэтага моманту белыя ігралі цудоўна. Трэба было 32. g4!, даючы шлях ладдзе па 3 гарызанталі і адначасова прасоўваючы пешкі на каралеўскім флангу.

У выніку недаравальнага прагляду ідзе пакаранне: 32. ... К : c3! 33. Л:c3 d4!, 34. a4 dc, 35. ab Крc5, 36. g4? (Лепш 36. Крf2. Але пасля такога грубага прагляду белыя выбіты з каляіны і праігрываюць нават гэтую роўную па сілах пазіцыю.) 36. ... Лd7, 37. Лe2 Кр : b5, 38. h4 a5, 39. h5 gh, 40. g5 Лd2!, 41. Крf2 h4!, і чорныя хутка атрымліваюць перамогу.

Ці выпадковы гэты прагляд? Для майстра ён, вядома, не паказальны, і таму выпадковы. Але ён у даным выпадку зусім заканамерны і тлумачыцца «размагнічанасцю» Антошына, які лічыў, што барацьба ўжо закончана і занадта рана даў сабе адпачынак. Бестурботнасць і некаторая павярхоўнасць думкі і з'яўляюцца прычынамі гэтага прагляду.

Шахматная ігра патрабуе заўсёды выразна акрэсленай канкрэтнай думкі. Думаць аб пабочных справах (у даным выпадку аб выйгрышу партыі) ні ў якім разе нельга. Думкі павінны быць накіраваны толькі на пытанні ў галіне шахматнай творчасці з улікам псіхалагічнага стану праціўніка і іншых фактараў, якія спрыяюць перамозе.

Нярэдка **прагляд** шчыльна **звязаны з пралікам.**

Вось прыклад з партыі В. Шчарбакоў — С. Фурман (чорныя), іграны ў тым-жа першынстве.



У гэтай пазіцыі, якая атрымалася пасля 28-га ходу чорных, белыя пачалі камбінацыю з ахвярай ладдзі, сыграўшы 29. Лe6? Сыграна далей 29. ... fe, 30. Ф : g6 + Сg7, 31. Кe4 Лf8, 32. g3.

На гэты ход і спадзяваліся белыя, пачынаючы камбінацыю. Здаецца, што чорныя праігрываюць, таму што іх ферзь адцягваецца ад поля f6. Аднак белыя зрабілі пралік, не заўважыўшы адмаўлення пачатай імі камбінацыі.

Гэты выпадак вельмі павучальны. Ён паказвае, што перш за ўсё шахматыст абавязан развіваць у сабе «камбінацыйны зрок» — надзейную страхоўку ад такіх нярэдкіх выпадкаў. Ён паказвае, што не трэба празмерна захапляцца сваімі задумамі, якімі-б прыгожымі і заманлівымі яны ні ўяўляліся: трэба памятаць, што праціўнік заўсёды будзе імкнуцца ім перашкодзіць жорсткай барацьбой, і пераацэнка сваіх замыслаў без уліку магчымай абароны з боку партнёра вельмі шкодна. Нарэшце з дадзенага прыкладу праліку магчыма бачыць і тое, што шахматыст на ўсім працягу ігры павінен весці суровую барацьбу са стамляемасцю, якая, напрыклад, к канцу пяцігадзіннай барацьбы заўсёды моцна адчуваецца. Таму неабходна не захапляцца непатрэбнымі, нежыццёвымі камбінацыямі і шахматнымі ідэямі, якія выклікаюць спад асабістых якасцей шахматыста і нярэдка прыводзяць толькі да шкодных у ігры праглядаў і пралікаў.

Прапануем чытачам самастойна знайсці адмаўленне пачатай С. Фурманам (чорныя) камбінацыі.

---


**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара—93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара—93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі—93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый—93-892, аддзел пісем—93-854.

Рукапісы, прысланыя ў рэдакцыю, не звяртаюцца.

Здадзена ў набор 10.VI.55 г. Падпісана да друку 27.VI.55 г.
Фармат паперы 70×108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Тыраж 17 600 экз. Цана 2 руб.

АТ 03285. Заказ 469.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



**У доме адпачынку.** Фото А. Дзітлава.

